У час работы З'езда народных дэпутатаў СССР. Звычайны працоўны дзень.

# ПАЗІЦЫЯ




Біяграфічная даведка: Фаменка Уладзімір Леанідавіч — народны дэпутат СССР па Магілёўскай гарадской выбарчай акрузе № 571. 1946 года нараджэння, рускі, беспартыйны. Адукацыя вышэйшая. У 1968—74-х гадах служыў афіцэрам Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працуе на Магілёўскім заводзе штучнага валакна імя В. У. Куйбышава — электраслесарам, майстрам, старшым майстрам. З 1985 года намеснік начальніка цэха рэгенерацыі лятучых і арганічных растваральнікаў. Старшыня савета працоўнага калектыву вытворчасці віскознага і штапельнага валакна. Жанаты. Двое дзяцей.

Яго запомнілі пасля нечаканага, можна нават сказаць, спантаннага выступлення на З'ездзе народных дэпутатаў СССР. У невялікай рэпліцы Фаменка напомніў дэпутатам аб неабходнасці быць карэктнымі, паважаць у спрэчках адзін аднаго. Заўвага была трапнай, своечасовай, яна адыграла сваю ролю ў з'ездаўскай палеміцы.

Ен жа быў адзін з першых і сярод тых, хто ўзняў на з'ездзе чарнобыльскую тэму. Разам з сарака васьмю народнымі выбраннікамі Уладзімір Леанідавіч падпісаў важнае дэпутацкае запатрабаванне па пытаннях, звязаных з ліквідацыяй вынікаў аварыі.

...Упершыню мы сустрэліся вясной, недзе адразу ж пасля выбараў. Барацьба была нялёгкай. Давялося вытрымаць шмат нападак і на перадвыбарчую платформу, шукалі «цёмныя плямы» ў біяграфіі. Але выбары, што праводзіліся на альтэрнатыўнай аснове, паказалі: абсалютная большасць падтрымлівае Фаменку, давярае яму.

Жыве Фаменка з сям'ёй у самай звычайнай «хрушчоўцы». У невялічкай двухпакаёўцы — нічога лішняга, зручна, утульна.

Уладзімір Леанідавіч пазнаёміў з надрукаванай у тыпаграфіі яго перадвыбарчай платформай. Галоўнае, што здзівіла тады: Фаменка выказваў неабходнасць стварэння ў краіне шматпартыйнай сістэмы.



Дома ў вольную хвіліну разам з дачкой Юлькай.



У аператарскай цэха з майстрам Р. П. Каташэнка (злева) і аператарам В. В. Рагоўскім.

— Усе нашы беды ад манапалізму,— даказваў Уладзімір Леанідавіч.— Мы пабудавалі манапалістычнае грамадства, свайго роду манапалістычны сацыялізм. Кіруе грамадствам партыя - манапаліст. Эканоміка падзелена паміж міністэрствамі-манапалістамі. Адсюль многія беды.

Ці мела права на існаванне такая пастаноўка пытання? Калі тысячы выбаршчыкаў падтрымалі ідэю, значыць, мела.

Перадвыбарчая платформа Фаменкі была складаная і насычаная. Узнімаліся многія балючыя пытанні жыцця грамадства, экалогіі, дзейнасці Саветаў. Дзесьці яна сыходзілася з пазіцыяй партыйнага кіраўніцтва, дзесьці прапаноўваліся свае шляхі да вырашэння праблем. Ужо прайшло больш за паўгода, як Фаменка выбраны дэпутатам. Як жа выконваецца яго праграма?

— Напрыклад, у адным з пунктаў я даказваў неабходнасць павелічэння пенсій і стыпендый да мінімальнага пражытачнага ўзроўню. Праблема хвалюе многіх, таму зрухі, як ведаеце, ёсць. Акрамя таго, буду настойваць, каб ільготныя пенсіі былі і для незаконна рэпрэсіраваных у сталінскія часы асоб. Каб улічвалі ў працоўны стаж вымушаную бяздзейнасць жанок вайскоўцаў, якія разам з імі знаходзяцца ў такіх месцах, дзе работу знайсці немагчыма...

Цікава, а як жа выконваецца праграма па паляпшэнню экалогіі ў Магілёве? Тым больш, што сам ён працуе ў цэху, які заняты ачысткай выкідаў прадпрыемства ад шкодных кампанентаў.

— Я і сёння за поўны перанос прадпрыемства за межы горада. Толькі ў гэтым выпадку можна гаварыць аб значным паляпшэнні экалагічнай абстаноўкі. На жаль, падставы для аптымізму пакуль што малавата. Але ж, як кажуць, пад ляжачы камень і вада не цячэ. Трэба дзейнічаць. Ды і не толькі ад гарадскіх улад усё залежыць. Патрэбны змены ў палітычнай расстаноўцы сіл у грамадстве, перш за ўсё — у павышэнні рэальнай улады Саветаў...

Вельмі і вельмі насычаны рабочы дзень Фаменкі. Абавязкаў значна дабавілася. Выбралі, напрыклад, яго членам абласной камісіі па барацьбе са злачыннасцю. А справу, якую пачынае, Уладзімір Леанідавіч прывык рабіць грунтоўна. Дарэчы, добрыя дзелавыя сувязі ўсталяваліся ў яго з партыйнымі і савецкімі кіраўнікамі рознага ўзроўню. Па аўторках з 9 раніцы і да позняга вечара ён вядзе прыём наведвальнікаў. У кожнага свае праблемы. І кожнаму Уладзімір Леанідавіч імкнецца дапамагчы. А работа на прадпрыемстве! Ніхто не знімаў з яго працоўных абавязкаў.

Многае паспявае народны дэпутат СССР У. Л. Фаменка. І яшчэ больш павінен паспець. Такая ў яго грамадзянская пазіцыя, гэтага ж патрабуе ад яго і час перабудовы.

**Дзмітрый ЛУПАЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».**

**Фота аўтара і Аляксандра ТАЛОЧКІ.**



Вось яна, адна з «дзірак» у экалогіі! Скупер кіслотнага цэха. Дапатопная тэхналогія, да таго ж установкі часта выходзяць са строю, шкодныя кіслоты забруджваюць гарадское паветра. Дык ёсць жа больш дасканалыя канструкцыі! Калі яны будуць нарэшце ў Магілёве!





# РЭАЛЬНУЮ Ў

## АДРАС КАМАНДЗІРОЎКІ: АКЦЯБРСКІ РАЁН ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**«Круглы стол» правёў спецыяльны карэспандэнт часопіса Валерый ЛАПІН.**

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

**Рудабельская рэспубліка — назва Рудабельскай воласці, дзе ў перыяд акупацыі Беларусі войскамі Германіі (у 1918 годзе) і буржуазнай Польшчы (у 1919—20 гг.) захоўвалася Савецкая ўлада.**

**У 1920 годзе на ўрачыстым сходзе жыхары Рудабелкі ў гонар Рудабельскай рэспублікі назвалі сваю воласць Акцябрскай. Сёння гэта Акцябрскі раён Гомельскай вобласці, цэнтр — гарадскі пасёлак Акцябрскі.**

■

**У сустрэчы за «круглым сталом» прынялі ўдзел: старшыня мясцовага савета ветэранаў, дырэктар музея народнай славы В. Зыблеў, кіраўнік аграпрамбанка, дэпутат раённага Савета Г. Заброцкая, старшыня прафкома саўгаса «Акцябрскі» Е. Кончыц, загадчыца райфінаддзела, дэпутат райсавета Г. Філіпчук, старшыня Акцябрскага сельскага Савета М. Курчыцкі, сакратар райвыканкома В. Чумакова, сакратар райкома партыі Д. Высоцкі, намеснік старшыні райвыканкома А. Маханько, загадчык ідэалагічнага аддзела райкома партыі Т. Равінская, намеснік старшыні і сакратар парткома калгаса імя Кірава І. Пракапенка, сакратар парткома саўгаса «Акцябрскі» У. Пратасеня, старшыня Пратасаўскага сельсавета М. Мароз, намеснік старшыні райвыканкома Ф. Капачоў, намеснік рэдактара раённай газеты «Чырвоны Кастрычнік» П. Мароз.**

**Д. ВЫСОЦКІ:** — Я ведаю, што зараз у раёне ёсць розныя думкі аб актуальнасці, новым змесце лозунга «Уся ўлада — Саветам!». Сёй-той схільны супрацьпастаўляць партыю і Саветы, сёй-той увогуле не бачыць неабходнасці змен. Але зразумела адно: большасць людзей ужо не першы год уважліва сочыць за падзеямі палітычнага і эканамічнага жыцця краіны, горача жадае, каб Саветы, нарэшце, атрымалі поўную, магутную, сапраўдную ўладу. Пастараюся тут выкласці свой пункт гледжання на тое, што ў першую чаргу неабходна Саветам для набыцця рэальнай улады. Вядома, вельмі важны аўтарытэт, магчымасць прымаць і рэалізоўваць рашэнні. Аднак для гэтага Саветы павінны атрымаць надзейную матэрыяльную падтрымку. Адкуль? Магчыма, прадпрыемствы і арганізацыі будуць рабіць адпаведныя адлічэнні са свайго «кашалька». А які менавіта працэнт — гэта мы вельмі хутка, відаць, даведаемся. Вось сфарміруюцца нашы новыя мясцовыя Саветы, тады і вызначыцца канчаткова: хто плаціць, колькі і за што. Спадзяюся, падобная практыка пачне складвацца ў бліжэйшыя месяцы...

Яшчэ праблема: размежаванне функцый партыйных і савецкіх органаў, узаемаадносіны партыі і Саветаў у перыяд рэформы палітычнай сістэмы. Надзвычай справядлівыя словы М. С. Гарбачова аб тым, што трэба цвёрда ісці наперад, кіруючыся ленінскай прынцыповай устаноўкай аб падзеле функцый партыі, Саветаў і органаў кіравання. Ранейшая практыка дыктату партыі над Саветамі на ўсіх узроўнях цалкам сябе зжыла. Новыя, дэмакратычныя формы і метады ўзаемадзеяння павінны грунтавацца на дакладным аддзяленні функцый палітычнага авангарда грамадства, з аднаго боку, і ўладарання і кіравання, якія пераходзяць да Саветаў, з другога.

**Т. РАВІНСКАЯ:** — Сёння сітуацыя ў грамадстве мяняецца з кожным днём. Мы ў райкоме актыўна адмаўляемся ад тых метадаў работы, якія яшчэ зусім нядаўна лічыліся самымі правільнымі, эфектыўнымі. Але мы не збіраемся забываць, што наша партыя — партыя кіруючая і што менавіта яна ў 1917 годзе змагалася за перамогу Савецкай улады, за Саветы.

**Д. ВЫСОЦКІ:** — Кепска, што мы спакваля звыкліся: народны дэпутат — як папрашайка ў выканкоме. Кепска, што людзі — а народ гэта і ёсць галоўная дзеючая асоба перабудовы — яшчэ не маюць падстаў быць упэўненымі ў магчымасцях дэпутата (асабліва мясцовага) надзейна абараняць іх інтарэсы, аказваць рашучы ўплыў на ход пераўтварэнняў у горадзе або ў раёне, на вёсцы.

**КАР.:** — Як вы ставіцеся да думкі, што сакратар райкома партыі павінен быць і старшынёй райвыканкома?

**Д. ВЫСОЦКІ:** — Так, павінен, хоць бы — у бліжэйшыя гады.

**В. ЗЫБЛЕЎ:** — А гэта — дэмакратычна?

**Д. ВЫСОЦКІ:** — Цалкам. І я гатовы растлумачыць, чаму так лічу. Глядзіце: выбары сакратара райкома адбываюцца цяпер з 2-3 кандыдатаў. Ужо тут дэмакратычны

# ладу-саветам

адбор. Затым гэты чалавек, якога палічылі лепшым з кандыдатаў на пасаду сакратара, павінен прайсці выбары ў мясцовы Савет, і таксама, вядома, на альтэрнатыўнай аснове. А вось калі яго ў Савет не выберуць, дык тады — які ж ён лідэр камуністаў раёна? Разумееце, пры такім становішчы і ў партыі, і ў Саветах будзе значна менш танных аўтарытэтаў, менш кар'ерыстаў, выпадковых «пестуноў лёсу», якія заўсёды гатовы бяздзейнічаць, калі стане зразумела: іх яшчэ раз не выберуць, ім трэба шукаць іншае «крэсла» ў іншым кабінеце. Калі, вядома, атрымаецца.

**І. ПРАКАПЕНКА:** — Кіраўнік гаспадаркі сёння ніяк не залежыць ад сельсавета. Яму сельсавет нагул не патрэбны. А старшыня сельскага Савета не можа штосьці патрабаваць ад старшыні калгаса або дырэктара саўгаса, кіраўніка прадпрыемства. Грошы для Саветаў? Так, гэта — добра, **вялікія грошы** Саветам проста неабходны. Але патрэбны старшыням сельсаветаў яшчэ і **правы.** Правы, каб выконваць волю людзей, разумна выдаткоўваць сродкі. Гэта — ужо банальнасць, аднак разумных слоў «па наспелай праблеме» ўжо шмат сказана, а справа рухаецца маруднa. Яшчэ патрэбны моцныя законы. Напрыклад, закон аб уласнасці на зямлю. Упэўнены: такі закон вось-вось з'явіцца. І гэта будзе выдатнай падзеяй. Але кепска, вельмі кепска, што людзі перастаюць верыць у «даўгалецце» законаў і пастаноў. Вы ведаеце: на гэта ёсць свае прычыны. Даволі сумныя ўрокі (і старыя, і свежыя) селянін памятае добра. А цяпер адважыцца, напрыклад, на арэнду — гэта значыць крута змяніць жыццё. Улада — Саветам, зямля — сялянам павінны перайсці па-сапраўднаму, рэальна і як мага хутчэй. Думаю, ад усялякіх «гарантаваных дапамог па беднасці» даўно трэба было адмовіцца.



**КАР.:** — Спадзяюся, што к моманту публікацыі нашых дыялогаў у Вярхоўным Савеце СССР падобныя думкі будуць ужо «думкамі ўчарашняга дня».

**Ф. КАПАЧОЎ:** — Калі гаворка зайшла пра дэпутатаў, задам пытанне — у чым адрозненне паміж добрасумленным мясцовым дэпутатам і дэпутатам, які ў душы смяецца з актыўных сваіх калег і думае галоўным чынам пра асабістыя поспехі? А адрозненне ў тым сёння, што сапраўды выбраннік народа дзесяцігоддзі ўжо ходзіць (куды толькі яго пускаюць) з працягнутай рукой, а «мудры» дэпутат загадзя «прагназіруе» бесперспектыўнасць барацьбы за чыесьці наказы, або, дакладней кажучы, — ясныя і абгрунтаваныя просьбы.

**М. КУРЧЫЦКІ:** — Лянівы і «мудры» дэпутат — гэта наша бяда.

**Ф. КАПАЧОЎ:** — Безумоўна! А дэпутат з працягнутай рукой — гэта дакор усім нам. Гэта наша ганьба. Бо ўсе мы выбаршчыкі, усе прызвычаіліся гаварыць, што ў нас не якая-небудзь, а самая лепшая, народная ўлада. Але лідэры пануючай і цвёрдай пралетарскай улады — да гэтага мы таксама прызвычаіліся — нейкія вечныя папрашайкі. Да выдання «Закона аб прадпрыемстве» яшчэ была магчымасць сабраць у працягнутую руку прадстаўніка інтарэсаў працоўных грошы і «цвёрдыя» абяцанні «садзейнічаць у задавальненні наказаў» людзей. Цяпер, шчыра скажу, сітуацыя яшчэ горшая. Не ведаю, можа да канца гэтага года яна выправіцца. Спадзяюся. Толькі зараз, у канцы лета, што атрымліваецца? Прыклад. Дарожна-будаўнічае наша ўпраўленне... Вінаваты, ужо не ўпраўленне, а аб'яднанне. Яно фактычна бясплатна жыве на гэтай зямлі і выкарыстоўвае практычна ўсе неабходныя яму рэсурсы. Там грошы на мясцовыя патрэбы ўзяць — амаль немагчыма. І вы разумееце — чаму.

**А. МАХАНЬКО:** — А калі ўжо пра грошы раёна гаварыць, дык трэба канстатаваць: мы як быццам маем права самастойна прадаваць частку прадукцыі, але мы... атрымліваем «нарады». Мінулай восенню **ні аднай тоны бульбы,** напрыклад, **не было прададзена па дагаворах.**

**Ф. КАПАЧОЎ:** — Так, менавіта так. Гэта нам **прамая страта.** Але ж гэта і разбазарванне багаццяў дзяржавы! Прыходзіць «нарад» (як правіла — перад самым першым снегам) адгрузіць бульбу куды-небудзь у Казахстан. Добра. Трэба падпарадкоўвацца. Адгрузілі «другі хлеб», правялі вагоны. А пакуль яны вязуць яго праз два гадзінныя паясы пад снегападамі... за гэты час, вядома, паспявае згнісці 50—60 працэнтаў лепшай бульбы.

**А. МАХАНЬКО:** — Патрэбна самастойнасць. Патрэбны сапраўдныя, дзелавыя партнёры.

**Ф. КАПАЧОЎ:** — Мы хочам і маем магчымасць адпраўляць тую ж бульбу па адрасах, адкуль нам у адказ і з радасцю будуць накіроўваць дэфіцытныя машыны або будаўнічыя матэрыялы. І пры такім па-сапраўднаму ўзаемавыгадным, сацыялістычным тавараабмене паязды адвязуць агародніну да снегу, у дакладна вызначаны тэрмін. Эканомія — тысячы і тысячы рублёў. Рэалізацыя эканамічных і сацыяльных праграм раёна рэзка паскарэецца. Вось хоць бы адзін прыклад таго, дзе захоўваюцца каласальныя рэзервы. Вось хоць бы адна з прычын таго, чаму само паняцце «грошы» і «матэрыялы», «магчымасці» і іх адсутнасць у руках выканкомаў даўно ўжо сталі тэмамі для зморчанага гумару.

**Г. ФІЛІПЧУК:** — Цікавы час. Добрыя пастановы і рашэнні прымаюцца адно за адным. Але яны (некаторыя — некалькі гадоў ужо) чамусьці не дзейнічаюць, не выконваюцца. І ніхто за гэта не адказвае. Кіраўнікі гаспадарак навучыліся гаварыць у дакладах слова «сацкультбыт» і нават «экасфера». Але каб на вёсках з'явіліся добрыя калодзежы (пра водаправоды большасць сялян сёння і не марыць), каб адрамантаваць дарогі або зрабіць мост — патрэбны грошы, матэрыялы... Кіраўнікі гаспадарак-мільянераў прыгожа выступаюць, але непрыгожа робяць. Яны дэпутатам што гавораць? А вось што. Няхай Савецкая ўлада будуе, няхай яна клапоціцца пра побыт людзей.

Возьмем наш завод сухога абястлушчанага малака. Восем мільёнаў рублёў прыбытку! Або леспрамгас — таксама вялізнымі сродкамі варочае. Людзі, якія зарабляюць гэтыя самыя мільёны, — жывуць тут. Грошы ж з раёна «плывуць» у Бабруйск, Гомель.

Прыходзіць дэпутат на багатую вытворчасць «не мясцовага падпарадкавання» і гаворыць, напрыклад, наступнае: «Дзіцячы сад вельмі патрэбен. Для дзяцей вашых жа рабочых. Для дзяцей, якія хутка будуць вашымі рабочымі».

А што чуе ў адказ?

«Добра папросіце — дамо».

Або магазін адкрыць у вёсцы... Калгас атрымлівае мільёны, але праўленне яго ўсё чакае, калі сельсавет на свае капейкі «што-небудзь прыдумае» і «закрые пільнае пытанне» па наладжванні больш-менш нармальнага забеспячэння калгаснікаў.

Сельсавет ад імя мясцовых жыхароў павінен размаўляць з кіраўнікамі так, каб яны самі спяшаліся на сустрэчу з дэпутатам і пры гэтым папраўлялі гальштук. А не наадварот! Але для гэтага патрэбны правы, патрэбна рэальная ўлада.

**КАР.:** — Пажаданні аб рэальнай уладзе для Саветаў у нас за гэтым «круглым сталом» гучаць і гучаць... Зразумела — набалела, надакучыла народным дэпутатам «здымаць капелюшы» перад чыноўнікам, «панам». А што, няўжо ўсе дырэктары і старшыні ў раёне не лічацца з прадстаўнікамі мясцовых Саветаў? Мясцовых Саветаў

на зямлі, дзе Савецкая ўлада выстаяла тады, у 1918—1920 гадах, калі яе амаль ужо не было ва ўсёй Беларусі?

**Г. ФІЛІПЧУК:** — Не, вядома, не ўсе нашы начальнікі ігнаруюць дэпутата, яго выбаршчыкаў. Вось днямі ў Чырвонаслабадскім Савеце дырэктар саўгаса рабіў справаздачу... Дзелавая гаворка ішла, карысная.

**КАР.:** — Зразумела. Цяпер вось аб чым хачу даведацца. Пачатковыя школы, клубы, бібліятэкі... Усе іх сродкі — «у раёне», а не ў сельсаветах. Трэба так і пакідаць?

**Г. ФІЛІПЧУК:** — Не! Цэнтралізацыя сродкаў тут, пераканана, не на карысць. Дзесьці «на перыферыі правінцыі», у аддаленай ад нашага гарадскога пасёлка вёсцы, людзям лепш відаць, што зрабіць для іх клуба або школы ў першую чаргу, што — потым.

**КАР.:** — Паколькі такая цікавая гаворка пайшла аб размеркаванні сродкаў, аб хранічных фінансавых цяжкасцях, то, можа, калега Ганны Пятроўны дэпутат Ганна Рыгораўна Заброцкая возьме зараз слова?

**Г. ЗАБРОЦКАЯ:** — Мне многае хацелася б сказаць пра нашы новыя беды і пра нашы старыя «балячкі». У тым ліку — і фінансавыя. Але спачатку канстатую: становішча з грашамі ў раёне выдатнае. Датацыі. Палітыка ўрада ў аграрным сектары дае магчымасць многім нашым гаспадаркам — а тут я гавару толькі пра саўгасы і калгасы — мець зараз ад 1,5 мільёна і больш рублёў. Калгас імя Леніна, саўгас «Акцябрскі», калгас «Усход», саўгас Чырвонаслабадскі... Яны банкаўскімі пазыкамі не карыстаюцца. Багатыя... Але грошы ў іх звычайна ёсць на ўсё, ды толькі не на тое, што... неабходна **ў першую чаргу** ручаям сем'ям калгаснікаў і рабочых саўгасаў. Глядзіце, я як дэпутат чула дзесяткі і дзесяткі разоў проста адчайныя, слёзныя просьбы ад жанчын, старых, маладых сем'яў неяк палепшыць жыццё ў прыгожай і зусім не паміраючай вёсцы Раманішчы. Няма дзе адпачыць пасля работы, патрэбны магазін, праблема з вадой... Цяпер у Раманішчах адкрыты клуб, праце магазін і нават водаправод з'явіўся. Людзі ўдзячныя: «Дзякуй, дэпутат наш». Але я, сумленна скажу, змен дабілася **не як дэпутат, а як кіраўнік банка.** Так, гэта звычайная, на жаль, яшчэ справа. Аўтарытэтам і пасадай узяла. Хутка знайшліся грошы не толькі на тэхніку і ўгнаенні... А што можа «радавы» дэпутат, у якога няма пэўнай пасады, службовага становішча?.. Як трэба ўзнімаць аўтарытэт сельсаветаў — пра гэта ўжо да мяне тут гаварылі. І правільна гаварылі. Хачу толькі дадаць, што сённяшнія кіраўнікі маюць звычку хутка выконваць указанні абкома, райкома, але не рашэнні Саветаў. А са звычкамі людзі расстаюцца цяжка. Гэта трэба памятаць. І яшчэ трэба памятаць: «датэрміновыя» рапарты ў момант не зніклі. Дарэчы, праверылі (я — у якасці дэпутата), як добраўпарадкаваны новы дзіцячы сад. Высветлілася: ён ужо здадзены, але не працуе. Недаробкі. Электрычнасці няма.

Яшчэ пра адно... Ужо шмат гадоў усе сур'ёзныя і даволі простыя пытанні вырашаюцца толькі «на выканкоме». У цэнтры раёна. Людзі ўжо забыліся пра «выязныя выканкомы». Вядома, лягчэй людзей «запрасіць» з далёкай вёскі, чым прыехаць у гэтую вёску і разабрацца са скаргамі на вачах у мясцовых жыхароў, адказаць на іх пытанні. Разам з тым няправільна, на маю думку, выносіць на выканком толькі праблемы, чыесьці брыдкія ўчынкі, цяжкія канфлікты... Я не за абавязковыя ўзаемныя ўсмешкі дэпутатаў і іх субяседнікаў. Але, відаць, і добрым словам за ініцыятыву, добрую работу кіраўніка аддзячыць трэба, і самім дэпутатам не грэх іншы раз проста сабрацца разам з выбаршчыкамі, іх начальнікамі і разам — без нерваў — параіцца, падумаць. У нас таму і самыя разумныя, актуальныя пастановы ўрада «буксуюць», што мараль, сумленне, сапраўдная добразычлівасць у каго — страчаны, у каго — спяць.

Я сюды ў 1945 годзе прыехала. Нічога тут не было. Дзве казармы... Голадна, халадна. Цяжка. Але ў дэпутатаў і кіраўнікоў быў сапраўдны аўтарытэт. А потым неяк спакваля развілася ўлада грубая, з вокрыкам... І такіх людзей пачалі баяцца, але — не паважалі. Так устанавіўся час злачынный жорсткасці, потым — цяжкіх памылак, потым — застою...

**КАР.:** — І ўжо ў гады перабудовы, як цяпер відаць, не ўсё рабілася разумна. А як вы ставіцеся да банкаўскай рэформы?

**Г. ЗАБРОЦКАЯ:** — Сёння ў банках супрацоўнікі як на парахавых бочках сядзяць... Рашэнні ўрада моцна скажаюцца...

**КАР.:** — А ваша стаўленне да мясцовых кааператараў і да цяперашняй кааперацыі ўвогуле?

**Г. ЗАБРОЦКАЯ:** — У раёне шэсць кааператываў. Прыязджаюць кааператары і з іншых раёнаў і абласцей. Але пакуль яны амаль усе адметныя ад старых «шабашнікаў» толькі тым, што за работу бяруць у пяць —сем разоў даражэй і грошы ручаямі цякуць кудысьці далёка-далёка. А плён «работы» гэтых дзесяткаў тысяч рублёў на нашай тэрыторыі проста анекдатычны.

**А. МАХАНЬКО:** — Добра, што мы тут даём магчымасць кожнаму з нас выказаць сваю пазіцыю, свае трывогі, свае надзеі. Асабіста мне цікавыя многія з прапаноў, заўваг, назіранняў, што прагучалі ўжо за нашым «круглым сталом». Каб не паўтараць папярэднія думкі, папярэднія дыялогі, пастараюся выказацца па галоўнай тэме коратка. Трэба, каб людзі выбіралі самых актыўных, сумленных, тых, у каго ёсць і аўтарытэт, і пэўныя веды. Спадзяюся, што так і будзе. Чаму «спадзяюся», а не «ўпэўнены»? Выбары кіраўнікоў у некаторых працоўных калектывах паказалі: здараецца, пры пэўных акалічнасцях «самым годным» і «добрым» бывае чалавек, якому на ўсё напляваць. Які згодны мірыцца з п'янствам, крадзяжамі, гультайствам... Больш таго — ён згодны і абараняць, прыкрываць учынкі сваіх «даверaных асоб» і іх сяброў.

**Ф. КАПАЧОЎ:** — Тут цяжка спрачацца з Анатолем Іванавічам. Аднак у значнай большасці рабочыя і сяляне сёння добра разумеюць, «хто ёсць хто», і хочуць жыць не «ціха і спакойна», а больш энергічна, больш культурна і багата.

**А. МАХАНЬКО:** — І не толькі больш культурна, больш энергічна і багата, але і з ўпэўненасцю, што не вернецца час недарэчных загад, бессэнсоўных пачынаў. Што радасць свабоднай працы назаўсёды стане рэальнасцю будняў, а не абстрактным панядзеем. Я пераканана: «мяжа сфер дзеяння» паміж Саветамі і партыйнымі камітэтамі павінна вызначацца дакладна. Партыйныя органы павінны лепш і больш займацца ідэалагічнай работай, выхаваннем чалавека, фарміраваннем яго арыенціраў у жыцці. А Саветы абавязаны хутчэй пачаць займацца нашай гаспадаркай, нашай эканомікай. Каб ужо неўзабаве адказваць не за тое, чаму ў вёсцы няма чыстага калодзежа і агітплакатаў, а за тое, чаму там да гэтага часу няма газу, гарачай і халоднай вады ў дамах.

**В. ЗЫБЛЕЎ:** — Не ўяўляю, як зараз будзе перададзена ўся ўлада Саветам. Не верыцца! Столькі гадоў уладу ў Саветаў адымалі і адымалі. І як гэта рабілася — я добра памятаю. Я быў старшынёй сельсавета ў 1948 годзе. Правільна тут ужо сказана, што адразу пасля вайны людзі ішлі ў выканкомы для сустрэчы са сваімі дэпутатамі не толькі са скаргамі, але і за сяброўскай парадай.

Каб мець аўтарытэт, старшыня выканкома павінен мець уладу. Гэта важна. А яшчэ, можа, больш важныя яго асабістыя якасці.

У былых франтавікоў такія якасці, як жыццёвы вопыт, сумленнасць, смеласць, прынцыповасць,— былі.

Але даволі хутка ў выканкомах пачалі з'яўляцца раўнадушныя, баязлівыя кар'ерысты. Папытайце, адкуль прыйшлі ў Саветы такія людзі? Чаму менавіта яны хутка сталі тыповымі прадстаўнікамі Савецкай улады? Зрабіў сваю страшэнную работу «астаткавы прынцып» у кадравай палітыцы. Калі чалавек меў добрую анкету, але нідзе на кіруючай пасадзе не затрымліваўся па прычыне сваёй тупасці ці ляноты,— ён траплаў у кабінет выканкома. Партыйныя кіраўнікоў такі «расклад сіл» цалкам задавальняў... Нездарма ж Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў аднойчы «пажартаваў», што, маўляў, толькі мух у выканкомах на шыбах давіць — больш там рабіць няма чаго.

Усю нашу перабудову тут трэба пачынаць са свядомасці людзей, з вяртання ў розумы здаровага сэнсу, з вяртання лозунгу «Улада — Саветам!» той сілы, якую ні куляй, ні штыхом, ні голадам не перамагчы. Трэба выбіраць дастойных, надзяляць іх рэальнымі правамі і — самім лепш працаваць. Калі мы гаспадары сваёй краіны і свайго лёсу — то ў каго мы можам патрабаваць паляпшэння ўмоў жыцця? У сябе! А мы плодзім бюракратаў, ствараем найперш умовы для іх. Дваццаць гадоў назад усё раённае начальства, усе камітэты і канторы размяшчаліся ў адным сціплым доме. Цяпер кіраўнічы апарат мае, акрамя вось гэтага, чатырохпавярховага, лепшага ў пасёлку, яшчэ некалькі будынкаў. А жыллёвае будаўніцтва вядзецца марудна!

**Е. КОНЧЫЦ:** — Як зараз пойдзе ў нас ідэалагічная работа, як хутка ў нас будуць расці эканамічныя паказчыкі, так хутка мы і сацыяльныя праблемы вырашаць будзем. Ужо ідуць доўгачаканыя змены. Але што іх тармозіць? А вось што. Я назаву такія «дробязі», па якіх селянін і мяркуе аб перабудове.

Прыклад. Людзі незадаволены, што размеркаванне зямлі (пад агароды) ідзе ў некаторых месцах без удзелу сельсаветаў, без уліку таго, каму і дзе зручней атрымаць участак. Далікатная справа! Трэба ўсё рашаць вельмі справядліва, улічваць і здароўе чалавека, і нават тое, што некаторым вялікім сем'ям проста мала па пяць сотак...

**М. МАРОЗ:** — А чаму сельсаветы не ўдзельнічаюць? Хто ім забараняе? Няхай не застаюцца ўбаку, няхай больш актыўна працуюць!

**М. КУРЧЫЦКІ:** — Прабачце. Лёгка сказаць: больш актыўна. Але ж ужо колькі разоў тэты за гэтым вось «круглым сталом» усе прысутныя пагаджаліся з фактам: любы дырэктар саўгаса, пакуль у сельсавета няма рэальнай улады, можа адмахвацца ад дэпутата, як ад надакучлівага камара. Маўляў, не назаляй, я рашэнняў не мяняю, мне лепш ведаць, што справядліва, а што — несправядліва.

**Е. КОНЧЫЦ:** — Мікалай Курчыцкі правільна падкрэсліў: не толькі жаданне ці, наадварот, нежаданне дэпутата старанна выконваць свае абавязкі аказвае ўплыў на побыт, настрой людзей. Прывяду просты прыклад.

Возьмем рамонт жылля. Нават для ўдзельнікаў вайны нічога не можам зрабіць. У раёне ёсць магазін «Будаўнічыя матэрыялы», але там — пуста... Хто дапаможа ветэранам?

Няма сумнення, што калі хоць у чымсьці па-ранейшаму слабымі будуць нашы новыя мясцовыя Саветы — цяжэй будзе і Вярхоўнаму Савету.

■

**Падводзіць вынікі сустрэчы за «круглым сталом» яго ўдзельнікі не сталі. Ужо к канцу гутаркі за «круглым сталом» стала зразумела: атрымаўся абмен амаль ідэнтычнымі поглядамі на праблему, а не дыскусія... Поўная аднадушнасць панавала пры сустрэчы партыйных лідэраў, народных дэпутатаў, гаспадарчых кіраўнікоў, савецкіх работнікаў. Добра, вядома, што гучалі і гучалі ў іх маналогах самыя папулярныя цяпер у народзе думкі і прапановы, што ўсе яны — «за!», за новыя мясцовыя Саветы, за радыкальныя перамены.**

**Але толькі ўсё ж адна справа — вітаць і чакаць больш шчаслівае жыццё, і зусім іншая — самім будаваць яго, шчыра быць гатовым дзеля агульнага руху наперад «ахвяраваць» некімі асабістымі інтарэсамі, адмовіцца ад «групавога эгаізму».**

**Чаму я менавіта на такой — не мажорнай — ноце заканчваю гэтую публікацыю! Ды хоць бы таму, што калі ўдзельнікі сустрэчы пачалі развітвацца, Г. Заброцкая (ужо ў «неафіцыйнай абстаноўцы») сказала так:**

**— Але ж перабудову тармозім мы самі. Па розных прычынах... Правільна!**

**Усе ўсміхнуліся. Быццам дэпутат пажартавала...**

АДРАСАВАНА У. І. ЛЕНІНУ

# ГЛЫБОКІЯ КАРАНІ

**Трымаю ў руках звычайную кардонную папку. Зверху на ёй напісана «Ленін Уладзімір Ільіч. Фонд два, вопіс адзін». Пад гэтым нумарам у Цэнтральным партыйным архіве Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС захоўваецца фонд дакументаў У. І. Леніна.**
**Сярод 34 тысяч дакументаў, што знаходзяцца ў гэтым фондзе, ёсць пісьмы, тэлеграмы, пастановы сходаў, прывітанні і віншаванні, якія былі адрасаваны У. І. Леніну працоўнымі Беларусі.**
**Сёння, напярэдадні 120-й гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна, паявілася думка наведацца ў тыя мясціны рэспублікі, адкуль ішлі допісы яе жыхароў у Маскву, у Крэмль, каб душой і сэрцам дакрануцца да жывой гісторыі тых далёкіх дзён і да сённяшніх спраў і клопатаў тамтэйшых людзей, расказаць пра гэта чытачам.**

Мікалай ЖЫЛІНСКІ

## ЛЁС ВЁСКІ СВІСЛАЧ

Машына неяк неўпрыкмет выскачыла з горада і шпарка пабегла па нешырокай асфальтаванай шашы. Калі ад'ехаліся трошкі ад Асіповіч, заўважыў праваруч велічныя, таўсматыя бярозы з пачарнелымі ад часу камлямі. Відаць, што яны даўно былі высаджаны тут роўнымі радамі. А паабапал дарогі павырасталі цэлыя бярозавыя гаі.

— Вунь там і пралягае той «кацярынінскі» тракт, пра які гаварылі,— растлумачыў мне знаёмы журналіст, з якім трапілася ехаць разам. І паказаў на гаманлівую чараду белых бяроз, што ў маляўнічым карагодзе разбегліся наўкола і нібыта застылі паміж векавых дрэў.

А машына бяжыць-спяшаецца па дарожнай стужцы, то нечакана ныраючы ў лагчыну, то зноў узбіраючыся на пагорак. Праз шыбы спакваля ўсё больш і больш адкрываецца позірку маляўнічае раздолле. І раптам перад вачамі вырастае вялікая і прыгожая вёска Свіслач, што прывольна і шырока разбеглася па ўзбярэжжы Бярэзіны і Свіслачы.

Цяжка сказаць, наколькі любяць-ганарацца сваёю вёскай усе насельнікі Свіслачы, але жывуць тут сотні і пажылых, і маладзейшага веку людзей, якія шчыра перакананы, што нідзе ва ўсім белым свеце няма больш любага іх сэрцу куточка, чым гэты, з якім звязана ўсё іх жыццё — пражытае і пераўжытае, сучаснае і будучае. Адзін з іх — старшыня мясцовага сельскага Савета Аляксей Міхайлавіч Крэўчык.

Разам з ім крочым шырокаю вуліцаю мястэчка. Бадай, цяжка больш дакладна вызначыць тып гэтага паселішча. Шкада толькі, што гэтае старое слова ўжо амаль выпала з нашага ўжытку. Але чамусьці тут яно набывае сваё першапачатковае гучанне. Сапраўды, не вёска, не сяло, але і не горад, а вось мястэчка — самы акурат. Менавіта ўтульнае месцейка, дзе спрадвеку сяліўся чалавек. Праўда, ніхто так і не ведае, калі ён тут пасяліўся, але ўсе ганарацца гісторыяй роднай Свіслачы, якой сама прырода вызначыла на зямлі месца незвычайнае.

Цяпер вёска значна разбудавалася, разбеглася сваімі вуліцамі-ручаінамі па берагах рэчак. Зараз у Свіслачы каля 400 двароў, шмат вуліц, вулачак і завулкаў. Жыве тут прыкладна 900 жыхароў. Тым не менш Аляксей Міхайлавіч Крэўчык добра ведае прозвішчы амаль усіх насельнікаў, іх біяграфіі, клопаты і патрэбы. Цікава апавядае ён пра людзей, пра іх лёсы і лёс самой вёскі.

— Зараз хоць жыццё ў нас людскае стала,— разважае старшыня сельсавета, паказваючы сядзібы з прасторнымі панадворкамі, з яшчэ моцнымі драўлянымі хатамі (у асноўным пасляваеннай забудовы), з агародамі, садамі і кветнікамі пры іх.— Але ж так не заўсёды было. І змены гэтыя не прыйшлі самі сабою. Гэта ж колькі людзі працы і нават жыццяў сваіх паклалі, каб стварыць нам такую жытку?!.

**Гістарычная даведка. Свіслач з'яўляецца адным са старажытнейшых паселішчаў Беларусі. Назва паходзіць ад ракі Свіслач, якая тут працякае. Найбольш верагодныя славянскія значэнні слова «свіслач» абазначаюць «плынь», «цячэнне», «вадкасць». Як паказалі раскопкі, зробленыя ў 1962 годзе археолагамі Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, паселішча з'явілася дзесьці ў XI стагоддзі. Менавіта тады тут, у месцы сутокаў рэк Бярэзіны і Свіслачы, быў узведзены замак, напэўна, як крапаснОе збудаванне ад нападаў ворагаў. З трох бакоў яго акружаў глыбокі роў, праз які быў перакінуты мост, падвешаны на ланцугах. Рэшткі таго крапаснога рова і сцен сярэдневяковага замчышча захаваліся да гэтага часу.**

**Паселішча займала вельмі выгаднае геаграфічнае становішча. Праз яго праходзіў рачны гандлёвы шлях, што вельмі садзейнічала хуткаму росту і развіццю Свіслачы. Прыкладна да XIII стагоддзя яна ўваходзіла ў склад Старажытнарускай дзяржавы і ўпаміналася ў ліку гарадоў, якія мелі сваіх удзельных князёў.**

**У перыяд феадальнай раздробленасці, калі Старажытнаруская дзяржава распалася, Свіслач трапіла ў склад Полацкага княства. У XIII — XIV стагоддзях яна лічылася невялікім горадам, бо горад тады мог налічваць нават 150—300 дамоў. Недалёка адсюль праходзіла граніца з Турава-Пінскім княствам. З сярэдзіны XIV стагоддзя гэтая мясцовасць была далучана да Літоўскага княства. У прывілеі, выдадзенай у 1387 годзе літоўскім каралём Уладзіславам Ягайлам яго брату Свідрыгайлу на валоданне шэрагам удзельных зямель у Беларусі, упамінаецца і горад Свіслач, які пераходзіў да апошняга «с данью, землями, людьми и доходами». Пасля 1569 года, калі Польшча і Літва аб'ядналіся ў Рэч Паспалітую, значна ўзмацніўся прыгнёт мясцовага насельніцтва. У Свіслачы тады налічвалася каля 1 тысячы жыхароў. У хуткім часе мястэчка (гэтая назва паходзіць ад польскага слова «място», якое абазначае горад) стала важным цэнтрам на скрыжаванні водных шляхоў. Тут хутка развіваўся гандаль, былі пабудаваны шматлікія крамы, значна вырасла колькасць купецтва. А навакольныя землі належалі літоўскаму магнату Радзівілу. У час другога падзелу Рэчы Паспалітай мястэчка Свіслач, нарэшце, зноў трапіла ў склад Расіі. Гэтае далучэнне мела прагрэсіўны характар, хаця прыгнёт цара і памешчыкаў захаваўся. У 1801 годзе Свіслач увайшла ў склад Бабруйскага павета Мінскай губерні.**

**Развіццё Свіслачы запаволілася пасля 1878 года, калі была пабудавана Лібава-Роменская чыгунка праз Гомель — Бабруйск — Асіповічы — Мінск і далей у Латвію. Паступова пачала занепадаць і роля мястэчка як важнага гандлёвага цэнтра.**

**Насельніцтва Свіслачы і іншых навакольных вёсак вяло вызваленчую барацьбу за сваю свабоду і незалежнасць ад рускіх, польскіх, літоўскіх і беларускіх памешчыкаў, імкнулася да аб'яднання сваіх сіл, да сумесных дзеянняў. У 1904—1906 гадах сяляне падпальвалі памешчыцкія сядзібы, знішчалі ўраджай. Яны хацелі вольнага і шчаслівага жыцця на роднай зямлі.**

Расказваючы гісторыю Свіслачы, Крэўчык нечакана спыніўся, паказаў на двухпавярховы каменны будынак, што ўзвышаецца ў самым пачатку вёскі.

— А во, акурат, панскі двор,— усміхаецца Аляксей Міхайлавіч.— Можам паглядзець, што тут за палац быў і як пан жыў...

Будынак сапраўды ўражвае. Тоўстыя каменныя сцены, складзеныя з вялікіх абчасаных ка-



мянёў, трывала змацаваны невядомым шэрым растворам. На першым і другім паверхах былі панскія спачывальні. Колькі іх было, цяпер удакладніць цяжка, можна толькі прыкладна падлічыць іх агульную плошчу. Ва ўсякім разе, нішто сабе, відаць, быў панок, калі меў такія харомы!

— А гэта, па праўдзе кажучы, дык нейкі не сапраўдны пан-памешчык быў,— зноў засмяяўся Крэўчык.— Напэўна, падпанак які, ці што... Кажуць, нібыта ён тут упраўляючым у панскім маёнтку служыў. А можа, потым заарандаваў гэтыя землі ў пана Небытоўскага, што жыў у вёсцы Бацэвічы, якая зараз у суседнім Клічаўскім раёне. Рознае цяпер пра яго можна пачуць... Але гаспадар, кажуць, быў моцны, умеў весці сялянскую справу. Здаецца, Каранеўскі ці Каржанеўскі яго прозвішча...

— Пачакайце, пачакайце,— кажу Крэўчыку,— а ці не той самы гэта Каржанеўскі, які Леніну тэлеграфаваў?

— Леніну?.. Каржанеўскі? — перапытвае колькі разоў, здзіўляючыся, Аляксей Міхайлавіч.— Нешта не чутно ў нас было...

Тады я вымаю і паказваю копію той даўняй тэлеграмы. Вось яна:

**«Я, што праслужыў дваццаць адзін год буржуям, бухгалтар і агранам-практык, бежанец [з] Пінска, на кроўныя зберажэнні і пазычаныя ў такіх жа працаўнікоў [у] мінулым годзе заарандаваў маёнтак Свіслач Бабруйскага павета. Гаспадарка ў поўным парадку. Рабочым трыццаці сем'яў поўнасцю не заплачана. Інвентар поўнасцю на месцы. Мне адмаўляюць [у] кіраванні маёнткам [на] падставе як былому арандатару, пазбаўляючы пайка інвентару і іншага. Хіба я не працоўны! Дзе справядлівасць у параўнанні з дробнымі ўладальнікамі! Зрабіце ласку распараджэннем пакінуць на адзін год на месцы, даць магчымасць разлічыцца з рабочымі, расплаціцца [з] даўжнікамі, застацца сумленным чалавекам. Абавязуюся хлеб прадаваць [па] цвёрдых цэнах казне. Ад жалавання кіраўніка адмаўляюся, рабочым заплачу сам. Адказ: Слуцк, Трайганская, 5. Копію: Бабруйск, аддзел земляробства. Каржанеўскі»***.

Чытае-перачытвае Аляксей Міхайлавіч Крэўчык гэтую тэлеграму, спрабуючы ўспомніць што-колечы пра яе аўтара, а потым і кажа:

— Во, успомніў... Гэта ж пра яго мне калісьці бацька расказваў. Ён таксама на пана спіну гнуў... Але лепш за ўсё, відаць, раскажуць нашы вяскоўцы. Ведаюць-помняць жа яны колішняга свайго памешчыка, дык вось іх і паслухаем...

І назваў мне прозвішчы старэйшых жыхароў Свіслачы.

## «ХІБА Я НЕ ПРАЦОЎНЫ!..»

Гэтыя словы ўзяты з тэксту тэлеграмы Каржанеўскага Леніну. Выходзіць, былы памешчык лічыў сябе звычайным арандатарам-працоўным. А хто ж ён быў на самай справе?

Вось што сведчаць людзі і дакументы.

Мы сядзім ва ўтульнай хатцы калгасных пенсіянераў Лізаветы Іванаўны і Аляксандра Аляксандравіча Аліноўскіх. Да іх зайшлі акурат суседзі, дык усе разам і павялі гамонку аб пражытым і перажытым.

Бадай, найбольш цікава апавядала нам Лізавета Іванаўна, хударлявая, вельмі жвавая бабуля, якая добра помніць сваю вясковую маладосць і падзеі тых далёкіх гадоў.

Калі гаворка зайшла пра памешчыка Каржанеўскага, яна адразу ажывілася:

— А як жа не помню? Гэта ж хто з нас, старэйшых, не ведае? Хоць і малалеткамі мы яшчэ тады былі, ды ўсё ж помнім. Пажылы гэта ўжо быў чалавек, але не тое каб зусім стары...

— А чаго ж стары? — ускліквае Аляксандр Аляксандравіч і ўсміхаецца: — Дык жа яшчэ маладую парабчанку сабе ў жонкі ўзяў...

— Во, табе вечна нешта другое ў галаве,— засердавала Лізавета Іванаўна.— Ну і што ж, што ажаніўся на парабчанцы?.. Але ж чэсна жыў... І за справядлівасць стаяў. Калі хто чаго не разумеў, не ведаў — усе да яго ішлі. Бо граматны ж чалавек быў, кнігі ўсялякія чытаў...

Лізавета Іванаўна крыху сумелася, нібы збітая з тропу нечаканай мужавай згадкай, але хутка зноў павяла сваё апавяданне спакойна, разважліва:

— Дык мае ж бацькі ў гэтага самага памешчыка парабкамі былі. Праўда, дакладна не скажу-такі яго прозвішча: ці Каранеўскі, ці Каржанеўскі? Неяк так называлі... Дык вось мая мама, Уменская Марыя Адамаўна, паварыхай у яго была. Во яна, напэўна, усё ведала, але ж, царства ёй нябеснае, колькі гадоў таму як памерла...

І мне ж некалі расказвала, але з гадамі ўсенька выветрылася з галавы. Мне ж пад час рэвалюцыі ўсяго шэсць гадочкаў было. Але і бацькі, і старыя вяскоўцы, бывала, часцяком расказвалі, як ім жылося-былося пры панах. Дык сёе-тое яшчэ помніцца...

Лізавета Іванаўна прыхінулася да шула дзвярэй, глядзіць сваім светлым і чыстым позіркам у невялікае акенца, а думкі, відаць, вітаюць недзе далёка-далёка...

— Казалі, быццам неблагі быў той пан Каржанеўскі, ці як там яго. Ён жа і дзетак-сірот забіраў да сябе, яны ў яго і гадаваліся-падрасталі, потым на гаспадарцы працавалі. Тут ажно чатыры баракі было, дзе і жылі 33 сям'і панскіх парабкаў. Яны абраблялі яго зямлю, даглядалі жывёлу. Толькі ў нас, у Свіслачы, меў ён больш як 30 кароў, а былі ж яшчэ ў Вязычыне, Бацэвічах, Тацэнцы...

— Багаты быў, чорт яго не браў,— зноў нецярпліва ўклініўся ў гаворку стары Аліноўскі, нібы з нейкім дакорам глянуў на жонку.— Лічы, усе землі ў акрузе яму належалі. Вось і нашу Вязычыну некалі дражнілі Батракамі, бо там адны батракі жылі. І мае бацька з маткай таксама на яго свае спіны гнулі. Бо нічагусенькі, апрача рук, не мелі. Усяго ж морг зямлі (33 соткі) батрацкая сям'я мела. Дык дзе было пракарміцца ўсім? А сем'і тады не раўня цяперашнім былі — па васьмёра-дзесяцера дзяцей у хаце. Таму і паддабраліся да пана, каб наняў. Бо ўсё ж кругом яго было — і поле, і лес, і луг, і рэчка. Вось і паспрабуй, бедалага, вырвіся з панскіх кіпцюроў. Як ні біліся людзі, а да яго на паклон ішлі... У яго ўся сіла тады была...

— Нават жонку сабе сілаю ўзяў,— задуменна дадала Лізавета Іванаўна.— А куды ж было падзецца сіротцы?..

І яна паведаміла сумную гісторыю, якая жыве сярод людзей. Калі памерла панская жонка, ён вырашыў ажаніцца на сваёй парабчанцы. Жыла ў суседняй зарэчнай вёсцы Тацэнка сірата Юлька. Яна ў панскім двары свіней даглядала. А прыгажуня ж была — на ўсю ваколіцу. Дык яе і ўпадабаў пан Каржанеўскі. Кажуць, быццам яго

(Працяг на 29-й стар.)

* Пераклад на беларускую мову і арфаграфічная апрацоўка тэлеграмы зроблены аўтарам.

**Васіль ЗУЁНАК.**

◆

Чужыя згублены шляхі,
Пайшлі, нібы вада ў сухі,
Пустыняй спражаны пясок;
Свае — заваламі гадоў —
Сцяжынцы кволай, без слядоў,
Ляглі на горла — папярок.

◆

У суседнім стагоддзі,
Як у суседняй кватэры,
Нехта замуж выходзіць,
Нехта ломіцца ў дзверы.

Нехта бомбу рыхтуе
Пад залатую карэту...—
Бачу ўсё я і чую,—
Толькі ў кірунку «рэтра».

Ды бунтуе цікаўнасць:
А што пад шыльдай «футурум»?
Да суседа на каву —
Уніз ці на верхатуру?

Як мне з тою кватэрай,
Як жа мне з тым суседам,
Што з невядомай эры
Прыйдзе за намі следам?..

Пуста, глуха, бязлюдна...
Грукаю ў дзверы: «Зямеля!..».
Ні гуку... Спяць непрабудна?
Ці нарадзіцца не ўспелі?

Ці там у бога нарада:
Як слана генерыраваць з мухі?
Ці там «сусветны парадак»
Пасля атамнай завірухі?..

## Зімняе сонца

Над снежнымі абелiскамі
Вясны, пахаванай зажыва,
Выйшла — халоднае, нізкае —
І мяне зусім не заўважыла.

Тут жа амаль і схавалася
Ў хмарнае тло мітуслівае...

Толькі не абарвалася
Гэта імгненне шчаслівае!

І не дае адчаяцца
Перад завеяй-прарочыцай,—
Свеціць: жыццё не канчаецца!
Сведчыць: як жыць яшчэ хочацца!..

## Напамін

Нязвыклае думкі грахоўнасць,
І розум вастрэй ляза,
І смеласць слупа́м ахоўным
У вочы праўду сказаць,

І з дамавін вертыкальных —
Недатыкальных трыбун —
Слоў не вяшчаць эпахальных
З паперкі, як мёртвы гарбун,

І не стаяць на каленях
Перад чыноўным сталом,
І страчанаму сумленню
Не быць абярэжным крылом,

Не слыць блазнюком пры
народзе —
З вярбы не трэсці ігруш,
І лобнае месца не ўзводзіць
Для ампутацыі душ...

Калі — і «Хто я?», і «Дзе я?» —
Пытанні карцяць, як асцё...—
Тады яшчэ ёсць надзея,
Яшчэ не згублена ўсё.

## Эфект лячэння

«Маскоўская», «Сталічная»,
Мёртвая вада,—
І ажываюць клічнікі,
Дзе чорная бяда.

І слёзныя пытальнікі,
Нібы крыжы, нясём,—
Душ выратавальнікі,
Дзе ўшчэнт згарэла ўсё...

Плыве туман над поплавам —
Атрутны сырадой,
Чарнобылем ахоплены...
І думы — чарадой,

Як дзеці пасівелыя
З чарнобыльскім таўром —
Лебедзі белыя
З чорным крылом...

## Перад сцюжай

Неба — плітой мегатоннай.
Морак на крылы насеў.
Горад — як шэры дальтонік —
Колеры зблытаў усе.
Студзень гуляе бясснежны,
Быццам у шорціках дзед.
І верабей незалежнасць
Славіць, як п'яны сусед.
Так разбуяніўся шэры,
Быццам вясна на двары,
І на балконныя дзверы
Плюнуў да горшай пары.
І не чакае падачкі —
Зерня ці сала скрылёк...
Браце мой, толькі з гарачкі
Не прачырыкай свой клёк.
Ці ж не табе па-мужыцку
Знаць: пасля даўкай слаты
Раптам падвей разбэжыцца,
Хруснуць марозна платы,
І затрымціш, быццам голы:
Перайка маеш — аднак
Раптам і холад, і голад
Сціснуць твой лёс у кулак...
То прылятай на вячэру,
Клікні сяброў-галчанят...
Помні пра добрыя дзверы,
Помні, хто іх адчыняў...

◆

Ходзіць мяцеліца гулам,
Крэкча мароз-нізак...
Ды на вясну павярнула
Сонца свой ветразь няўзнак.

Хай яшчэ доўжацца ночы —
Не карацее і дзень.
І паддавацца не хоча
Сэрца халоднай нудзе.

Песні няхітрай каленца
Ціўкне сінічка з дупла...
Летам і мне дастанецца
Трошкі жывога цяпла.

## Малюнак з вагоннага акна

Яшчэ вясна ні мычыць
і ні целіцца,
А ўжо курыцу певень
гуляць падкудыквае,
І ў падмаскоўным пасёлку
Пяцеліна
Варона галінку нясе задыхана.

◆

зор даспелых
дагараюць
гронкі
Млечным Шляхам
адлятае
журавоў касмічных
клін
нібы кнігу вечнасці
старонку за старонкай
смерць гартае
векі дамавін

сейбіт-бог
бяднейшы
і намнога
бога
неспатольнага жніўца
поўныя сусекі
зерня злога
і дарога
без пачатку
і канца

толькі крык мой быў
нібыта крылы
і ўзнімаў
над тым жніўём мяне
каб пабачыць мог я
што магілы
той хто нарадзіўся
не міне

◆

Такой парой,
Калі, як цень снягоў,
На баравінах
Ландыш выпадае,
Калі вясна
Чакае і гукае,
Калі зязюля
Вечнасць абяцае
І дрозд
Ад песні
Галаву губляе,—
Мы ў лес пайшлі —
У май, нібыта ў рай...
Пайшлі,
А ці вярнуліся —
Не знаю.

◆

Вечар шостага жніўня.
Наш парог у трыццаты год.
Дождж лятункам тужлівым
Ападае на сад, агарод.

Ацяжэлае лісце
Да мяне — праз маўчання мяжу —
Зноў нясе, як у юным «калісьці»,
Словы тыя, што сёння скажу.

Толькі ты ці пачуеш?
За сцяной адзіноты маёй
Перастылыя вёрсты начуюць,
Што пабеглі ўслед за табой.



Я гукаю. І ты адгукніся.
Побач стань, суцеш, абагрэй...
Шэры плашч з перамоклым
крыссем
Моўчкі скінула ноч ля дзвярэй.

Субяседніца і вяшчуння,—
Чую твой асцярожны крок,
Толькі знацца з табой не хачу я.
Я не веру ў твой чорны змрок.

Веру я: перамелецца скруха,
Зорка ўспыхне праз хмар насланнё.
Слухай, любая,— чуеш? — слухай
Гэтай ноччу дыханне маё.

6.8.88. Лысая гара.

## Так далёка...

Азірнуцца не страшна
І не страшна вясны:
Так далёка ўсе нашы
Летуценныя сны.

Больш з зямлёю паглумнай
Неба нам не звязаць,—
І не страшна падумаць,
І не страшна сказаць:
Што цаною расстання —
Там, дзе часу сляды,—
Застаецца каханне
І вясна — назаўжды.

І нішто не патушыць
Нябёсаў узор,
Дзе мы крыламі птушак
Кранаемся зор.

◆

Вертыкальныя рэкі святла,
Ад сузор'яў —
сухія Гальфстрымы.
І мая крынічка цякла
Праз мільярды гадоў нястрымна —
Покуль стала душою маёй,
Словам, песняй, трывогай,
загадкай...
...Як не будзе мяне —
над зямлёй
Ці пабачыце зорку, нашчадкі?..





# ЗОНА БЯДЫ

Чарнобыльскі выбух адбыўся ў цэнтры Еўропы. Бясспрэчна, што з Чарнобыля пачаўся новы пункт адліку ў адносінах людзей адзін да аднаго. Мы ўсе цяпер ясна ўсведамляем, што жывём у адным доме — на планеце Зямля. І кожны павінен навучыцца адчуваць сябе не проста рускім, французам, англічанінам, а — грамадзянінам свету, павінен навучыцца разумець, што ўсе людзі звязаны агульнапланетарнымі законамі. Таму нам неабыякава, што сёння ў свеце колькасць рэактараў, уключаных у энергасістэмы, больш чым 400, і іх колькасць усё павялічваецца, іх магутнасць расце. У Францыі, напрыклад, нават пасля чарнобыльскай катастрофы не прадбачыцца ніякага змяншэння вытворчасці энергіі на АЭС.

Швецыя і Італія прынялі рашэнне спыніць будаўніцтва новых атамных электрастанцый.

ЗША, спыніўшы будаўніцтва новых АЭС, шырока разгарнулі навукова-даследчыя і канструктарскія работы ў галіне атамнай энергетыкі, каб у патрэбны момант актыўна пачаць развіццё гэтага напрамку на якасна новым узроўні. Трэба сказаць, што штуршком да гэтага паслужыла аварыя на атамнай электрастанцыі «Трымайл-Айленд» (Пенсільванія), расцэненая тады спецыялістамі як «найбольш сур'ёзная аварыя, якая калі-небудзь мела месца ў ядзернай энергетыцы». На думку акадэміка А. Саркісава, «першы спад тэмпаў развіцця атамнай энергетыкі быў звязаны менавіта з аварыяй у Пенсільваніі. Другі, што закрануў ужо энергетыку ўсяго свету, пачаўся пасля трагедыі ў Чарнобылі».

Якое ж будучае атамнай энергетыкі? Адназначнага адказу, пэўна, няма, але зразумела адно — неабходны галоснасць і адзіныя крытэрыі ў аналізе праектаў, будаўніцтва і эксплуатацыі ядзерных электрастанцый, інакш у любым кутку свету можа здарыцца трагедыя...

У выніку чарнобыльскай аварыі ў Беларусі пацярпела прыкладна пятая частка рэспублікі — 171 тысяча чалавек працягвае знаходзіцца пад радыяцыйным уздзеяннем. Людзі жывуць у зоне так званага «жорсткага кантролю».

«Мы пераканаліся, што інжынерная дэзактывацыя не дае пажаданых вынікаў. Пастаянная міграцыя радыенуклідаў перашкаджае істотнаму зніжэнню ўзроўняў»,— адзначыў у сакавіку 1989 года першы намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі Уладзімір Еўтух.

Па канцэпцыі НКРА (Нацыянальнага камітэта па радыяцыйнай ахове) лічыцца, што кожны чалавек можа без небяспекі для здароўя «набраць» на працягу ўсяго жыцця 35 бэр.

Але ёсць і іншая думка: член-карэспандэнт АН Украінскай ССР радыёбіёлаг Д. М. Градзінскі сцвярджае: «Пры радыяцыйным паражэнні арганізма чалавека і іншых жывых істот мы маем справу з ураўненнем з многімі невядомымі». Прасцей кажучы, размова ідзе аб аддаленым уздзеянні малых доз, тых самых, якія зараз лічацца нармальнымі. Адзін з вядомых беларускіх вучоных, доктар навук З. Збароўскі лічыць, што ўжо сёння можна гаварыць аб апасродкаваным уплыве «зоны» на здароўе людзей. Ужо ёсць страшныя факты — тысячы дзяцей пакутуюць на павелічэнне шчытападобнай залозы, паражонай радыеактыўным ёдам, зафіксаваны рост бронхалёгачных захворванняў, што сведчыць аб паніжэнні імунітэту. Ужо нарадзіліся мутанты-жывёліны. Мы чакаем мутантаў сярод людзей?!

Ніколі раней я не сутыкалася з гэтымі праблемамі так блізка і зразумела іх толь-

кі пры падрыхтоўцы гэтага артыкула, калі пабывала ў вёсках Чудзяны і Малінаўка Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці Беларускай ССР. У тых самых, пра якія акадэмік Л. Ільін, старшыня Нацыянальнага камітэта па радыяцыйнай ахове, сказаў «...павінен прызнацца, што ёсць у Магілёўскай вобласці дзве вёскі, Чудзяны і Малінаўка, якія сняцца нам амаль кожную ноч. Там па 140 кюры на квадратны кіламетр». Напомню, пры норме — у 15 кюры. У гэтых вёсках, па сутнасці справы, ужо тры гады ідзе эксперымент на звыштрываласць чалавечага арганізма. Вёскі стаяць на месцы, у іх жывуць людзі, даведзеныя да адчаю супярэчлівай інфармацыяй. Прызнацца, ад яе вялікай колькасці і супярэчлівасці і ў мяне галава пайшла кругам, і цяжка давялося нам з фотакарэспандэнтам Юрыем Івановым у












**● вёска Чудзяны Магілёўскай вобласці Беларусі.**
**Дом сям'і Ганчура.**
**Узровень забруджанасці радыяцыяй складае ў вёсцы 140 кюры на квадратны кіламетр — гэта амаль у дзесяць разоў перавышае нават афіцыйна прынятыя нормы — 15 кюры на 1 квадратны кіламетр;**

**● Вера Ганчура.**
**Ёй 53 гады, усё жыццё пражыла ў Чудзянах.**
**Ад яе мы пачулі пра 30 рублёў — даплату да зарплаты, устаноўленую для жыхароў, якія жывуць у раёнах, абпраменных радыяцыяй;**
**Вера Ганчура запрасіла нас у хату, папрасіўшы прабачэння за беспарадак у хаце («сядзім на чамаданах — хутка будуць перасяляць»);**

**● у Малінаўцы працягваецца жыццё: Люба Дударава не можа стрымаць слёз (у яе пастаянна баліць галава, як і ў многіх тут); а жанчыны раджаюць...**

**● XX стагоддзе адлюстравалася ў гэтым здымку — хлопец, які прайшоў афганскую вайну, будуе пасёлак на абпраменай зямлі Беларусі;**







● **гэтай жанчыне 88 гадоў, ззаду жыццё, такое ж поўнае, як гэта поўнае пакуль жыцця дрэва за яе спінай,— на зямлі, што выпраменьвае радыяцыю. Яна прасіла не называць яе імя;**

● **новы пасёлак Майскі за сем кіламетраў ад Чудзян. Акуратныя домікі стаяць у рад;**

● **непадалёку ад пасёлка Майскі ўзровень радыяцыі складае 0,016 мілірэнтгену ў гадзіну, за сто метраў далей — 0,025, за два кіламетры — 4 рэнтгены. Зямля «фаніць» і пагражае здароўю людзей.**

размовах з жыхарамі, якія не разумеюць, чаму вось ужо на працягу трох гадоў іх не перасяляюць. Людзі страцілі надзею на змены, стаміліся чакаць, змяніць штонебудзь самі не могуць, ад іх нічога не залежыць, а тыя, ад каго залежыць, у «зоне» не жывуць.

Дырэктар саўгаса «Сцяг» (у яго складзе дзве гэтыя вёскі) Іван Максіменкаў не можа глядзець людзям у вочы — «я ж для іх улада». «Па рашэнню Савета Міністраў і ЦК КПБ,— расказвае Максіменкаў,— нам пабудавалі новы пасёлак на 300 кватэр. У пасёлку не прадугледжаны ні школа, ні дзіцячы сад, ні гандлёвы цэнтр. Атрымлі-





ваецца, што мы вывезем сюды людзей, а дзеці будуць ездзіць назад у Малінаўку, дзе фон складае дзесятыя долі рэнтгену, а дзе-нідзе і адзінку...».

Мы для гэтых людзей не ўлада, але мы таксама не маглі глядзець у вочы Настассі Іванаўне і Веры Ганчура, Кацярыне Кандыба, бабулі Хадоры, трохгадовай Юлі, дзевяцігадовай Наташы... Што мы маглі ім сказаць?

Шкода ад аварыі ў Чарнобылі ацэньваецца ў 8,5 мільярда рублёў; ці падлічваў хто-небудзь маральныя і духоўныя страты людзей у выніку гэтай катастрофы? І ці можна прадказаць будучыя страты? Зараз у рэспубліцы рэзка абвастрылася эмацыянальна-псіхалагічнае ўспрыманне вынікаў аварыі. Ці не пагражае нам «духоўны Чарнобыль»?

**Юрый ІВАНОЎ (фота), Наталля ЛАПАЕВА.**



СПАДЧЫНА

# З БЛАКНОТА ПЕСНЯРА

У фонды Літаратурнага музея Якуба Коласа паступіў блакнот народнага паэта. Яго перадаў сын песняра Даніла Міцкевіч. Цікавая гісторыя гэтага экспаната.

Як вядома, Якуб Колас у час Вялікай Айчыннай вайны жыў і працаваў у горадзе Ташкенце. Тут паэт пісаў творы, прасякнутыя нянавісцю да ворага, нязломнай верай у перамогу над фашысцкімі захопнікамі.

У канцы 1943 года Якуб Колас развітаўся з Узбекістанам і прыехаў у Клязьму пад Масквой. Неўзабаве паэт наведаў Беларусь. 14 сакавіка Якуб Колас прыехаў у Нова-Беліцу, прыгарад Гомеля. Тут, у клубе запалкавага камбіната, што ўцалеў ад варожай бамбёжкі, адбылася сесія Вярхоўнага Савета БССР. На ёй пясняр выступіў з прамовай.

Тады ж Якуб Колас дачуўся і пра мястэчка Азарычы, дзе паблізу фашысцкімі захопнікамі быў створаны лагер смерці. У ім пакутавалі сотні савецкіх людзей. Пасля іх вызвалення народны паэт вырашыў неадкладна сустрэцца з людзьмі, што пабывалі ў фашысцкай няволі. Паэт прыехаў у Калінкавічы, дзе ў памяшканні гарадскога клуба размясцілі вызваленых з Азарыцкага лагера вязняў. Сустрэўся з імі, пагутарыў, запісаў у блакнот расказы аб здзеках гітлераўскіх катаў з мірнага насельніцтва. Гэтыя факты былі выкарыстаны пісьменнікам у артыкуле «Лагер смерці».

Факты, якія запісаў Якуб Колас у блакнот, у артыкуле выкарыстаны не ўсе. На пажоўклых ад часу старонках з дакладнасцю запісаны ўзрост некаторых загінуўшых жыхароў Гомельшчыны, расказы людзей аб здзеках фашыстаў з дзяцей, старых і жанчын.

Вярнуўшыся ў Маскву, Якуб Колас пісаў і расказваў многім рускім і беларускім пісьменнікам пра паездку ў Беларусь, пра злачынствы фашысцкіх захопнікаў на роднай беларускай зямлі. Вось што, напрыклад, паэт піша ў пісьме ад 12 красавіка 1944 года да беларускай паэтэсы Эдзі Агняцвет:

«У скорым часе па прыездзе з Беларусі атрымаў я Ваша пісьмо. Роўна месяц таму ездзіў у Нова-Беліцу, прыгарад Гомеля, на сесію Вярхоўнага Савета БССР... Ад'ехаўшы кіламетраў сто, а можа і меней ад Масквы, пападаем у зону, дзе кіпелі бітвы. Нідзе няма цэлае станцыі. Навокал руіны, бітая тэхніка, гарэлыя танкі, вагоны. Усё гэта валяецца пад адхонам. У Гомелі амаль ніводнага цаглянага дома не засталося. Захаваліся толькі вуліцы па акрайку горада, дзе стаяць драўляныя домікі. Гомель — гэта труп горада: руіны, кучы друзу, бітай цэглы, гарэлага жалеза. На сесіі выступаў. Сустрэлі мяне надзвычай цёпла. А пасля прамовы зрабілі авацыю. Абралі мяне намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета. У дзень майго прыезду ў Нова-Беліцу было яснае надвор'е. Калі я пабачыў родныя беларускія землі, дык мяне ахапіла такое пачуццё, што мне захацелася плакаць.

Пасля сесіі ездзіў у камандзіроўку. Памаглі азнаёміцца з людзьмі, прыйшоўшымі з нямецкага лагеру. Гэта ўсё беларусы. У лагеры было больш за сорак тысяч народу — жанчыны, дзеці, старыя. Лагер немцы зрабілі на махавым бязлесным балоце, залітым вадою. Народ туліўся па купінах, гінуў ад холаду, голаду, пабояў. Шмат узарвалася людзей на мінах. Я напісаў у «Праўду» артыкул. Сёння скончыў яго. Не ведаю толькі, ці змесцяць. Што тварылася ў лагеры, як гналі народ туды, трудна паверыць».

Аб паездцы ў Беларусь Якуб Колас піша таксама і ў дзённіку. З яго мы даведаліся, што ў той жа час Якуб Колас наведаў вызвалены ад гітлераўскіх акупантаў цэнтр савецкага Палесся горад Мазыр. Гэтыя сумныя сустрэчы з радзімаю знайшлі пазней сваё адлюстраванне ў многіх творах народнага паэта Беларусі.

**М. ЖЫГОЦКІ.**



Грузінскія і беларускія пісьменнікі на прыёме ў ЦК КПБ, 1935 г. (Здымак з фондаў Літаратурнага музея Я. Коласа. Друкуецца ўпершыню).

# ПАМІЖ СОНЦАМ



**Н а з д ы м к у:** звычайны момант жыцця варшаўскага вакзала выглядае сёння сімвалічна, бо краіна і людзі — на раздарожжы.

Фота Віктара ЖУКА.

НА СТАНЦЫІ КУЗНІЦА, па правы бок ад цягніка, які доўга стаяў ужо, заходзіў за цёмны альхоўнік месяц-поўня, выразны і колерам падобны на ранні зазімак, а злева, над вясковымі хатамі, што тоўпіліся на ўзлобку, які амаль навісаў над чыгункай, узыходзіла тым часам чырвонае, без адзінага промня, сонца. На зямлі ў гэтым сумежжы, тулячы абрысы станцыйных пабудоў, яшчэ моцна трымаўся прыцемак, які хутчэй падобны быў на шэрае сутонне.

Гэты цягнік Масква — Варшава, што ідзе ад нас праз Гародню, ажно ці не пяць гадзін блукае па граніцы з зачыненымі дзвярамі пад наглядам пагранічнай аховы; да таго ж так званыя падсобныя памяшканні, разлічаныя для палёгкі чалавеку ў дарозе, таксама застаюцца на ўвесь гэты час пад замком, таму паміж пасажыраў можна пачуць пра сваё і чужое адчуванне ўсялякія анекдоты...

Кажуць, яшчэ нядаўна ў вагонах цягніка з вялікай цяжкасцю даставаліся людзям месцы, але цяпер, пасля таможных абмежаванняў на вываз розных рэчаў — электрапрыбораў, халадзільнікаў, тэлевізараў і г. д., гэтая праблема вырашылася сама па сабе. Прынамсі, ад Мінска ў 16-м вагоне, які прычапілі там да цягніка на нашых вачах, ехала нас усяго сем чалавек: польская пара з мноствам каляровых торбаў, яшчэ тры кабеты, мусіць, браліся ў госці да сваякоў у Польшчу, ды мы з Уладзімірам Гілепам.

Першы прыпынак у нас у Польшчы ў Беластоку. Тут з 20 лютага праходзяць Дні культуры Гродзенскай вобласці. А ўвогуле мы ехалі ў Варшаву, там меўся быць падпісаны 27 лютага дагавор аб культурным супрацоўніцтве паміж ПНР і БССР. А мне карціць яшчэ адна справа — недзе ў Легніцы «стаяць», калі можна так гаварыць, некалькі тысяч маіх цяперашніх выбаршчыкаў. Гэта зусім на поўначы Польшчы, і з Беластока туды, кажуць, кіламетраў семсот. Уласна, з гэтага клопату я і пачаў сёння — пазваніў у Варшаву, у пасольства СССР, ваеннаму аташэ, каб дапамог мне неяк «звязацца» з маімі выбаршчыкамі. Тым часам высветлілася, што і супрацоўнікі пасольства таксама галасуюць сёлета за народных дэпутатаў СССР па Бабруйскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе. Пасля тэлефоннай размовы з ваенным аташэ думалася, што «машына закруцілася». Але дзе там! Увечары давялося званіць Уладзіміру Ігнатавічу Бровікаву, сказаць і яму, які ў мяне клопат у Польшчы, акрамя «культурнага».

Дзень 23 лютага тым часам выдаўся цяжкі, дарма што сам па сабе быў светлы, сонечны, а ўвечары на вуліцах Беластока патыхала вясной... Цяжкі дзень быў праграмай — дзіва, але людзі паўсюды аднолькавыя, хочуць паказаць і расказаць гасцям адразу ўсё. Вось і вазіў нас віцэ-ваявода беластоцкі Ежы Слёзак па ўсім горадзе, нават паказаў музей-вёску, якая будуецца паблізу ваяводскага цэнтра ў сасновай і пясчанай мясцовасці, што завецца Юравец. Па ўсім відаць — цікавае гэта будзе «музейнае паселішча»: уявіце сабе старую польскую вёску, ды і не толькі вёску — тут можна сустрэць і леснічоўку, і вялікую крушню, і многа яшчэ чаго, дзе жыў некалі і да чаго дакранаўся чалавек. Чаму «некалі»? Ды таму, што сённяшняя польская вёска будуецца зусім нанова — дамкі ўзводзяцца найбольш цагляныя, па адмысловай архітэктуры. Вось і працягвай жартаваць далей — нібыта «курица не птица, а Варшава не заграница...»

Былі мы ў вайсковым музеі, у галерэі сучаснага мастацтва, у адным з дамоў культуры, што размешчаны ў беластоцкім прадмесці. Здаецца, найбольш уразіла галерэя, якая збудавана ў выглядзе чатырох шатроў. У адным з іх цяпер выстаўлены творы гродзенскіх самадзейных мастакоў, узоры рамёстваў. Намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры ў Гродне тлумачыў, што прывезена ў Беласток якраз не лепшае, нібыта гродзенцы лепшага пашкадавалі сюды. Але ж усё-такі падумалася: у цяжкім стане знаходзяцца нашы рамёствы, няхай нават што «лепшае» засталося дома!.. Спрыяць трэба іх рабоце, ратаваць іх!..

У вайсковым музеі ўразіла скульптурная група — «Дарога дамоў»: польскія жаўнеры, ссутуленыя і напружаныя... Экскурсавод сказаў нам — гэта яны так імкнуцца ад вашае вёскі Леніна, што на Магілёўшчыне, да сябе ў Польшчу.

Што ж, палякам таксама дасталося ў тую вайну!..

Увечары ў мясцовай філармоніі адбыўся канцэрт гродзенскай «Раніцы». І людзей на канцэрце было багата, і праграма была цікавая.

З галерэі сучаснага мастацтва запомніліся скульптуры Альфонса Карна — галовы Шапэна, Урублеўскага, Ван Гога... Таксама дзіцячыя постаці, асабліва адна, падобная на нашага Іванку.

Нарэшце я пацікавіўся той праграмай, якая распрацавана ваяводскім упраўленнем культуры і абласным для мастацкіх калектываў. Сапраўды, гродзенцы прывезлі шмат чаго: напрыклад, танцавальны калектыў «Белыя росы», камерны хор, як напісана ў праграме па-польску, школы педагагічнай, этнаграфічна-фальклорны калектыў «Вянок», спектакль «Пінская шляхта» і г. д.

Заключны дзень усяго гэтага свята будзе ў нядзелю, 26 лютага.

**23 ЛЮТАГА.** Між тым, у маім архіве дома, на Пуліхава, ужо адлежваюцца некалькі «польскіх дзённікаў». Іх бы сабраць у адно. Паглядзець, што састарэла, што не спраўдзілася, а што «засталося жыць». Дзённікавая публіцыстыка таксама павінна праходзіць выпрабаванне часам. Іншая справа, што мы, пісьменнікі, нават мастацкія творы не кладзём у шуфляду. Усё нібыта на канвееры. Адсюль і накладныя выдаткі літаратурнага працэсу, скараспеласць і шэрасць, якія асабліва становяцца відавочныя з часам...

Сёння мы ездзілі зранку ў Тыкацін. Гэты гарадок знаходзіцца кіламетраў за трыццаць ад Беластока, за ракой Нараў. Нават не так. Рака цячэ збоч гарадка, паўз дамы. Некалі тут, у гэтым месцы, рабілася гісторыя — польскі кароль Аўгуст Моцны прымаў у Тыкаціне рускага цара Пятра Першага. Ды акрамя гэтай сустрэчы, Тыкацін мае гісторыю — стаяла тут на пачатку нашага стагоддзя вайсковая цытадэль. У сярэдневякоўі быў збудаваны на беразе Нарава зама[illegible] Цяпер ад яго, здаецца, нічога [illegible] засталося. Толькі ў скверыку стаіць помнік гетману Чарнецкаму, вакол якога паціху, шукаючы спажыву на зямлі, ходзяць тутэйшыя куры. І ўвогуле ў гарадку чуваць з усіх бакоў, як спяваюць пеўні. Уранні пахне дымам.

Народу цяпер тут небагата — каля трох тысяч жыве. Але да апошняй вайны гэта было «яўрэйскае мяста». Яўрэяў немцы пабілі. Засталася сінагога. Яна таксама была разбурана ў часе вайны, аднак мясцовы люд адбудаваў, аддаўшы памяшканне пад яўрэйскі музей — рэлігійна-бытавы, калі можна сказаць так.

Мы пастаялі ў сінагозе, паслухалі яўрэйскую музыку, якая нібыта падае аднекуль са столі.

Пад шклом ляжаць скруткі торы. Яны, кажуць, доўгія. І калі хто запісваў на іх тэкст, то не меў права грашыць у той час: сграшыў — запіс лічыўся несапраўдным. Цікавы звычай. Нам бы, пісьменнікам, павучыцца ў старажытных яўрэяў — граш[illegible]ці не грашыць, калі пішаш.

А ўвогуле, дзіўныя справы твае, божа: храм без народу. Даўно, з самае вайны, няма ў Тыкаціне яўрэяў!..

Палі абапал дарогі без снегу, моцна зелянее азіміна. Ажно сэрца баліць за голую зімовую зямлю!..

Учора стаяў сонечны дзень, аж да самага вечара. А ўначы пайшоў дождж. Зноў зрабілася зябка, пад нагамі чвякае макрэча.

Нашы газеты шмат пісалі раней пра беластоцкі рынак — нібыта на ім прадаецца амаль усё, што вырабляецца не толькі ў нашым прыгранічы, але і ва ўсёй рэспубліцы, тым часам і ў Прыбалтыцы. Пабылі мы на гэтым рынку — сёння там бедна, нават дзіву даешся, як ён здолеў «падарваць нашу эканоміку». Я гэта жартую, але па газетах можна было падумаць чорт ведама што. Ваявода, які ездзіў з намі на рынак, доўга смяяўся з маіх слоў, але сказаў, што ў чацвер на рынку збіраюцца сапраўды шматлікія народы...

Я назваў гэтыя нататкі «Паміж сонцам і месяцам». Рэдка здараецца чалавеку бачыць, як адным часам хаваецца адзін нябесны цуд і ўзыходзіць другі...

З мінулых «успамінаў», няйначай, варта занатаваць тут таксама сённяшняе наведанне Беларускага культурнага таварыства. Амаль усе там старыя знаёмыя. І гаворка... даўняя.

Іван ЧЫГРЫНАЎ

# І МЕСЯЦАМ

Так і здаецца, што пачалася яна калісь, яшчэ не за нашым часам, і працягваецца ў такім жа голасе і сёння: клопат меншай часткі нашых людзей, якая жыве ў другім народзе!.. Няўжо ім памагчы нельга?

Мне сорамна было слухаць іхнія нараканні. А хіба ў нас там, на «мацерыку», не тое ж? Мова і культура па-ранейшаму гібеюць, а ты ўжо у другой іпастасі, і ўсе, хто з табой размаўляе, думаюць, што ты нешта можаш!..

Алесь Барскі на вячэры запрашаў да сябе ў Варшаве.

Тым часам тутэйшыя беларусы вельмі цікавіліся нашым дэмакратычным рухам.

Пад канец гэтага дня глядзелі ў гарадскім тэатры гродзенскі спектакль «Зоркі на ранішнім небе». Спектакль пра «рэзервацыю» маладых дзявок у часе колішняй алімпіяды ў Маскве. Але што трэба шчыра сказаць — гродзенскія артысткі igралі добра!

Успамінаючы сённяшнюю паездку ў Тыкацін, а найперш — сінагогу тамашнюю, згадваеш таксама ўчарашні дакументальны фільм пра Беласточчыну, што паказалі нам мясцовыя кінаработнікі, а дакладней — работнікі ўстановы, якая, здаецца, адпавядае нашаму АДН. Здзівіла «верацярпімасць» аўтараў. Услед за каталіцкім шэсцем у фільме паказана праваслаўнае, затым мусульмане свае рэлігійныя абрады правялі... Праўда, фільм гэты пакуль атрымаўся даўгаваты, асабліва зацягнута першая частка яго, можа, не так зацягнута, як недарэчна пададзена фактура.

Раней у Беластоку адусюль былі відны касцёлы. Цяпер амаль упоравень з імі ўзвышаецца новая праваслаўная царква, якую «будуе» (менавіта так тутэйшыя людзі гавораць — будуе) архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава.

**25 ЛЮТАГА.** Ездзілі ў Бельск (як я заву — у Белую пад Лесам). Пабылі таксама ў Гайнаўцы.

У беларускім ліцэі ў Бельску дырэктар яго Аляксей Карпюк сабраў настаўнікаў. Пасядзелі, пагаманілі.

У гэтым ліцэі мне ўжо даводзілася бываць раней, у той год, як прыязджалі мы ў Польшчу, у часе ваеннага становішча, на Дні беларускай літаратуры і культуры. Са старых знаёмых тут апынуўся адзін дырэктар мясцовага дома культуры, таго будынка, дзе мы колісь вячэралі. Але працуе ўжо Гайнаўская царква, нязвыкла збудаваная — стаіць, быццам госць аднекуль з далёкага ўсходу... Поп малады, добра валодае беларускай мовай.

Пад вечар заехалі ў Белавежу. Вёска стаіць на краі Белавежскай пушчы. Пабылі ў пушчанскім музеі: фауна, флора... Таксама трохі даўняй гісторыі, але сапраўды ўсяго толькі трохі... Час не шкадуе нічога — нават тыя мясціны, якія наведвалі каралі, цары...

Вячэралі мы каля вогнішча, на так званай Піліпаўцы. Месца гэта названа так у гонар англійскага прынца. Траплялі сюды многія сучасныя «манархі» — ад Вальдхайма да Хрушчова.

Шафёр наш Андрэй расказваў, як аднойчы, пасля наведання гэтай Піліпаўкі Хрушчовым, згарэла будыніна, у якой ён адпачываў. Ну іператрэсла тады дзяржаўная бяспека ўсё тут!.. А выйшла, што хрушчоўская ахова напілася ды «стварыла» пажар!..

Па дарозе ў Бельск хтосьці звярнуў увагу на лужкі, парытыя кратамі... Гілеп тут жа расказаў амаль анекдот. На нашым Кургане славы, што на 21-м кіламетры Маскоўскай шашы, некалі краты таксама пачалі норы капаць. Зразумела, што мясцовае начальства аб'явіла вайну ім, паставіла пасткі, а над кожнай — чырвоны сцяжок. Але як растлумачыць гэта гасцям, наведвальнікам кургана? Вось і прыдумаў хтосьці — калі глядзець зверху, з самалёта ці верталёта, то бачна поўная карціна савецкага наступлення на Мінск у аперацыі «Баграціён»!..

Страшэнна змяніліся нават за пўтара гэтыя гады, як я не быў у Польшчы, цэны тут на харчаванне, прамысловыя тавары, на ўсё, што прадаецца і купляецца, а грошы вымяраюцца мільёнамі... Тым часам харчовыя прадукты ў магазінах ёсць і зусім мала прамысловых, прынамсі, не такі выбар, як раней... Некалі я прывозіў у такім вось сшытку, як гэты, цэны на розныя рэчы, але сёлета махнуў рукой... Марна!..

З намі ў Белавежу ездзіў ваявода Слёзак. Сімпатычны чалавек — ненадакучлівы, тактоўны. Нарадзіўся ён у Літве, у сям'і вайскоўца. Але бацька загінуў у 39-м. У 44-м, калі ў Літву зноў вярнулася Чырвоная Армія, іх з маці выслалі мясцовыя ўлады ў Польшчу, на радзіму бацькі... Шафёр Андрэй таксама расказаў жахі з таго часу — і пра сябе, і пра дзеда...

Я назваў гэтыя нататкі — паміж сонцам і месяцам. Дык што ж «знойдзена» паміж сонцам і месяцам?

Па дарозе ў Тыкацін, злева ад яе, знаходзіцца Хорашч. Кажуць, там Заглоба (з рамана Г. Сянкевіча) піў мёд... Цяпер у Хорашчы пізачэўніца (псіхалячэбніца) на 300 ложкаў, як пажартаваў з нашай кампаніі, «самая вялікая ў Польшчы».

А між тым даволі дзіўнае ўражанне складваецца ад вялікіх вясковых дамоў паўз дарогу ўвечары: толькі недзе ўсярэдзіне, у адным, рэдка ў двух пакоях, бліскае агеньчык... Усё роўна як не хапае там радасці!.. Затое ўдзень тутэйшыя вёскі выглядаюць заможна.

За сняданкам сёння ваявода сказаў:

— Жыццё варта было б рабіць інача — пачынаць яго адразу са старасці, каб вяртацца пасля ў маладосць.

А Уладзімір Гілеп дадаў:

— У сне я гэта неяк бачыў — сапраўды вяртаўся ў маладосць.

— Без хваравітасці? — спытаў я.

— Так,— адказаў Гілеп.

Шкада, што многа чаго чалавеку дазволена толькі ў сне.

Горад у сённяшнюю нядзельную раніцу прачынаўся павольна. Але нейкі п'яны паляк ужо шыбаваў па вуліцы...

У ваяводы сёння ў кватэры ўначы пацякла вада з трубы, а мяне хтосьці два разы запар разбудзіў у нумары — жаночы голас казаў кожны раз: «У мяне запісана, што вас трэба разбудзіць!..». Нездарма я пабач занатаваў гэтыя дзве рэчы — ваду ў кватэры беластоцкага ваяводы і маё абуджэнне; яшчэ не вядома, каму горай было — яму ці мне?

Тым часам усё меней і меней дарожнага энтузіязму застаецца.

Супроць гасцініцы «Крышталь», дзе мы жывём, стаіць праваслаўная царква; скрозь усю раніцу было чуваць, як ішла там нядзельная служба.

Да заключнага канцэрта, які адбыўся ў драматычным тэатры, паспеў наведаць яшчэ раз беластоцкі рынак. У нядзелю на ім людзей куды больш і гандлююць багацей: хто што мае, тое і прадае — ікру чорную, дублёнкі, дарагія футры... Але сёння ўразіла найперш, што гандлююць на рынку маладыя людзі — хлопцы і дзяўчаты; здаецца, раней на польскіх рынках у гандлёвых радах не стаяла столькі моладзі. Ды і ў Мінску такога дасюль не было, а цяпер...

**З САМАЕ РАНІЦЫ** ў горадзе акурат спёка — кажуць, сёння тут больш за дванаццаць градусаў, а наша вопратка не прыстасавана да такога надвор'я ўзімку. Пакуль ішоў да рынку і назад, упарыўся.

На заключным канцэрце зноў пляскала зала ў далоні — не шкадавала гасцям сваёй шчырасці, дарма што за гэта відовішча плаціла таксама ўласныя злотыя. Палякі неяк паразумеліся з гродзенцамі і кормяць артыстаў за платныя канцэрты, што ставяцца ў часе Дзён культуры; у гатэлях таксама ўтрымліваюць іх з тых жа збораў.

Народу было на канцэрце многа. Увогуле, ва ўсе залы ў гэтыя дні ў Беластоку, ва ўсім ваяводстве, дзе праходзілі Дні культуры, народу збіралася шмат, значыць, цікавасць сапраўдная, не падробная. Толькі на спектаклі Гродзенскага драматычнага тэатра па п'есе Галіна «Зоркі на ранішнім небе» заставаліся пустыя месцы.

А ўсё-ткі, што я знайшоў тут, у Польшчы, на гэты раз?

Бачыў учора Вялікую Мядзведзіцу ў небе. Яна была на тым жа месцы, як і ў маім дзяцінстве; толькі тады яна стаяла над нашай хатай; цяпер хаты нашай той няма...

Жыццё склалася так, што з вёскі мы, лічы, усе параз'ехаліся. Нават маці з-за радыяцыі мінулым годам давялося хаваць сярод чужых людзей, а ў яе ж на велікаборскіх могілках ляжаць бацька, маці, адзін хлопчык і дзве дзяўчынкі.

Між тым адзін мой брат, Мікола, пахаваны на ўкраінскай зямлі.

Дзе мы астатнія ляжам?

Але ж Польшча!.. Польскія справы.

Ваявода Марыян Гала расказаў сёння, як у Ліпцы сяляне вылілі малако ў прыдарожную канаву. Сабраліся ў адно месца і вылілі: малако ў канаву!.. Яны патрабавалі ад ваяводскіх улад, каб былі павышаны закупачныя цэны — па 350 злотых за літр. Але насустрач ім мясцовыя ўлады не пайшлі. І вось у знак пратэсту, ці яшчэ як гэта кваліфікаваць, сяляне вылілі малако ў канаву!..

Я ўжо адзначаў, што з цэнамі ў Польшчы цяпер робіцца чорт ведама што. На ашчадных кніжках мала хто трымае грошы. Таму раскупліваецца і ў магазінах, і на рынках літаральна ўсё. Кажуць, цяпер у нас гарачыя грошы, гарачыя злотыя. Не трэба быць нават эканамістам, каб зразумець, што гэта дрэнна. А можа, проста прывыкнуць да ўсяго трэба?

І ўсё-ткі вельмі дзіўна, калі бачыш, як чалавек расплачваецца на рынку за нейкую драбязу амаль адным дзесяцітысячнымі купюрамі.

З намі ў Варшаву заўтра нібыта едзе Мікалай Казак. Гэта сакратар ваяводскага камітэта ПАРП па ідэалогіі.

А тым часам, як кажуць, на самы астатак у Беластоку нам даюць магчымасць паглядзець у тэатры лялек спектакль па Мрожаку «Паляванне на ліса».

Ідучы з тэатра, падумаў — гэта ж я не занатаваў падрабязныя ўражанні аб паездцы ў Белавежскую пушчу. А дарэмна. Сёння (і даўнотакі) польская частка гэтай пушчы з'яўляецца біясферным запаведнікам. А ў нас... Наша частка ўсё яшчэ належыць кіраўніцтву спраў Савета Міністраў рэспублікі. Ні больш, ні менш, як паляўнічае ўгоддзе...

**27 ЛЮТАГА.** У Беластоцкім ваяводстве зноў уначы прайшоў дождж. Вуліцы горада мокрыя.

Я рана прачнуўся, доўга сядзеў над сшыткам каля акна, але думкі чамусьці не ішлі ў галаву: нарэшце хоць зразумеў, што сядзець вось так над сшыткам — таксама паратунак чалавеку, якому б даўно варта супакоіцца і не трудзіць сваё цела на знаёмых і незнаёмых дарогах. Тым больш, што звычайна ў падобныя паездкі змушаюць не якаянебудзь вялікая спакуса альбо пільная патрэба, нават не душэўны неспакой; найхутчэй, бадай, простая амбіцыя.

Можна ж было мне гэты раз адседзецца дома. Няхай выбары, няхай дамова...

Такім чынам, праз паўгадзіны яшчэ адна знаёмая дарога: Беласток — Варшава. Некалі на гэтай шашы давялося бачыць заклікі, выведзеныя фарбамі: кацапы, вяртайцеся дамоў! Няйначай, даўно дажджы змылі ўжо тыя надпісы. Польшча, здаецца, паспакайнела і не такая стомленая, як раней!.. Тады, у час ваеннага становішча, стому і расчараванне можна было чытаць уваччу амаль кожнага паляка, дарма што вялікая частка народу па-ранейшаму бунтавала, г. зн. была актыўная. Аднак стому і расчараванне чалавеку схаваць найцяжэй.

Дзіўная рэч гэта — дарога. Іншы раз чым далей па ёй ад'язджаеш ад дому, тым хутчэй вяртаешся. Выязджаць жа будзем у Мінск з Варшавы! Варшава да мяне заўсёды была ласкавай.

Вочы па дарозе з Беластока мала за што зачапіліся. Усё тыя ж зялёна-глеевыя палі, бязлістыя альхоўнікі ды бярэзнік, якія размяжоўваюць часам малыя бары. За Ломжай абапал дарогі ўсё яшчэ зеўраюць на старой савецка-германскай граніцы замшэлыя доты.

У Міністэрстве культуры і мастацтва намеснік міністра амаль

з гэтай граніцы і пачаў гаворку. Справа ў тым, што працуе змешаная польска-савецкая гістарычная камісія, якая нібыта прыходзіць да думкі, што раз'яднанне польскай дзяржавы ў 1939 г. выйшла не на карысць прагрэсу ў міжнародных справах. Між тым украінцы працягваюць адзначаць дзень 17 верасня як выдатную дату ў жыцці свайго народа. «А беларусы — спытаў намеснік міністра,— збіраюцца ў гэтым годзе святкаваць той дзень?»

Граніцы, граніцы!.. А што ж рабіць народам, якія расколаты вамі?

Канечне, сталінска-гітлераўскі пакт, паводле якога адбыліся верасьнёўскія падзеі 1939 года, не ўпрыгожвае гісторыю. Але ж народы тады — і ўкраінскі, і беларускі — нарэшце аб'ядналіся праз шмат гадоў.

Сёння ў Міністэрстве культуры і мастацтва ПНР адбылося падпісанне дагавора аб культурным супрацоўніцтве паміж нашай рэспублікай і Польшчай. Тэлебачанне на гэты акт спазнілася.

Помню, як прыязджалі мы сюды на Дні беларускай літаратуры. Тады польскае тэлебачанне доўга чакала нас на чыгуначнай станцыі, але мы спазніліся: на адным пераездзе, кіламетраў за сорак ад Варшавы, на наш цягнік наехаў грузавік!.. Доўга стаялі мы пасля гэтага там, пакуль адпаведныя службы складалі пратакол, а час выйшаў... Прынамсі, палякі з вакзала паступова разышліся...

Цікавую думку падаў сёння польскі старшыня фонду культуры: стварыць паміж чатырма фондамі (Украінскім, Беларускім, Літоўскім і Польскім) нейкі адзіны грамадскі цэнтр, які б апекаваўся над агульнакультурнай справай і знаходзіўся ў Вільнюсе.

У 17 гадзін збіралася наша дэлегацыя наведаць савецкае пасольства. Але наведанне раптам адмянілі. Тым часам мая сустрэча з выбаршчыкамі, з вайскоўцамі, будзе сёння. Пасольствам арганізавана адна сустрэча.

Пасялілі нас у Варшаве ў гатэлі «Еўрапейскі». Гатэль гэты мне знаёмы — я не адзін раз начаваў у ім. Але сёння зрабіў адкрыццё для сябе: чамусьці лічыў, што побач з гатэлем, у скверыку, стаіць помнік Рэйманту. Аказваецца, не — Прусу. А Рэйманту, аўтару сусветна вядомага рамана «Сяляне», гранітнай выявы ў Варшаве няма. Прынамсі, незнаёмы паляк, з якім я памкнуўся пагаварыць пра гэта, доўга думаў, аднак адказаць на пытанне,— дзе ўсё-ткі ў Польшчы ёсць помнік Рэйманту,— не здолеў. Можа, я не на таго паляка трапіў? Хіба кожны здольны сёння сказаць, каму ў нас і дзе помнікі ёсць?

Увечары давялося выступаць перад выбаршчыкамі — салдатамі і афіцэрамі вайсковай часці. Цікавыя былі пытанні, акурат, як і дома, але ўсе пісьмовыя; мяркуючы па пытаннях, армія цяпер у нас сапраўды пісьменная; адчуваецца начытанасць асабовага складу — гэта, па-першае, а па-другое, відавочна шырокая і глыбокая зацікаўленасць тымі працэсамі, якія ў нашы дні адбываюцца.

Вадзіў мяне да выбаршчыкаў супрацоўнік нашага пасольства ў ПНР Сяргей Бухараў. Ён — масквіч. Сказаў: «Нялёгкая ў вас, Іван Гаўрылавіч, справа — выбірацца...»

Чыстая праўда, дарагі Сяргей Віктаравіч. І галоўнае не ў тым, лёгкая яна альбо цяжкая, гэтая выбарчая справа: невыразная яна, вось што засмучае; пакуль звычайная гульня ўпоцемках...

**28 ЛЮТАГА.** Гэта апошні дзень. Усё-ткі неяк нязвыкла недалічвацца некалькі дзён у месяцы, бо разлічваеш жыццё і справы часцей на трыццаць дзён, нават мала калі згадваеш трыццаць першае чысло.

Я ўжо казаў, што ўчора не адбылося прыёму ў пасольстве. Але сёння мне выступаць там.

Я. Вайтовіч быў у тэатры «Сірэна» — паказвалі прэм'еру музычнай амерыканскай камедыі. За вячэрай Яўген Канстанцінавіч расказваў пра тэатральную польскую публіку, што сышлася на прэм'еру. Яна яго па-добраму ўразіла. Што ж нам перашкаджае выхаваць сваю тэатральную публіку? Драматургія, рэжысура?

У гатэлі шмат дзявок, якія бадзяюцца па паверхах, а то і адкрыта, на вачах усіх, прыстаюць да мужыкоў у рэстаране. Раней, здаецца, такога тут не было. Неяк усё выглядала прасцей. Знаёмыя палякі з усмешкай жартуюць, што тады даволі было выдаткаваць на гэта паціху сотню-другую злотых...

Сярод альбомаў, буклетаў, якія нам тут часта «падносяць», нечакана натрапіў на цікавы праспект — «У краіне пушчаў». Увечары прачытаў кніжку, балазе, надрукавана яна на рускай мове, хоць, з другога боку, нішто не перашкаджае мне чытаць і па-польску. На вокладцы — словы Юзэфа Крашэўскага: «Ішоў вецер па вяршалінах пушчаў; а бор усё мацней адказваў яму. Усё бліжэй і мацней грала музыка ранішнюю песню...»

Крашэўскага я некалі прачытаў амаль усяго — збор твораў гэтага пісьменніка ёсць у бібліятэцы Дома творчасці ў Кактэбелі: для мяне гэта было самае лепшае «чціва». І таму цяпер, убачыўшы радкі пісьменніка, неяк быццам нанова прачытаў іх: гэтыя пушчы і маленькі бор!..

Перад выбаршчыкамі ў нашым пасольстве я выступіў. Але быў здзіўлены, калі адзін выбаршчык выступіў супраць маёй праграмы, пярэчанні яго зводзіліся да простай, абывацельскай незадаволенасці: маўляў, ва ўсім у краіне вінаваты пісьменнікі, гэта яны падбухторваюць і бянтэжаць народ; паводле яго перакананняў, усё, што не ўдаецца ў нас, што задумваецца і праваліваецца, адбываецца па віне пісьменніцкага максімалізму і некампетэнтнасці... Чалавек гэты назваўся інжынерам.

Цікавая гаворка ў нас была ў ЦК ПАРП, у аддзеле культуры і прапаганды.

**1 САКАВІКА.** Ад'язджаем мы сёння ў Мінск недзе а трэцяй гадзіне па заходнееўрапейскім часе. Пасля сняданку пакажуць нам каралеўскі замак у Старым Мясце. Многа разоў я глядзеў на яго, нават помню, як адбудоўвалі, але ўсярэдзіне бываць не даводзілася.

А пакуль глядзець замак, то варта зноў прыгадаць учарашнюю гаворку ў аддзеле культуры і прапаганды ЦК ПАРП. Якраз уранні выйшлі газеты з урадавым паведамленнем аб падзеях у Кракаве. Некатарая частка моладзі там наладзіла дэманстрацыю, у якой былі выпады супраць нашай краіны і тав. Гарбачова М. С., у прыватнасці. Палякі вуснамі свайго ўрада папрасілі прабачэння за гэта. (Дарэчы, у нашым гатэлі, на першым паверсе, знаходзіцца цяпер штаб «Салідарнасці», якая ўдзельнічае ў «круглым стале».)

Гаворка між намі ішла найбольш пра моладзь. Пра тых людзей, якім было ў канцы 70-х — на пачатку 80-х гадоў па 14, 15, 16. І ўсе яны, гэтыя маладыя палякі і палячкі, цяпер паводзяць сябе больш радыкальна, чым старыя салідарысты: крытыкуюць Валенсу і іншых «старых» за ўступкі ўраду, за спробу знайсці адзінства ў польскіх правых, нават абвінавачваюць у «здрадзе». Так што, абстаноўка тут, у Польшчы, не дужа спакойная, і аб гэтым пасведчылі «кракаўскія падзеі»; палякі гавораць, што аб выніках перагавораў за «круглым сталом» таксама цяжка нават здагадвацца... А будуць жа яшчэ і выбары ў сейм!..

Нядаўна было праведзена «анкетаванне» сярод шахцёраў; ім прапанавалі адкрыта выказацца, што перашкаджае рухацца наперад краіне; чаго ім не хапае, чаго б яны хацелі. Вельмі многа шахцёраў скардзілася на «замкнутасць», на тое, што пра іх забываюць, толькі і дарогі тае, што з дому да шахты ды з шахты назад. Пра культуру ніхто не дбае. Быццам яна не патрэбна працоўнаму народу. Нават бібліятэкі, так званыя прафсаюзныя бібліятэкі на прадпрыемствах, зліквідаваны...

Нямала мы гаварылі пра творчую інтэлігенцыю, якая расколата тут. Многа сугучнага з нашымі справамі. Неўзабаве ў іх адбудзецца з'езд пісьменнікаў. Але не выключана, што ўзнікне пасля гэтага і другі саюз.

З Мінска сёння прыехаў консул Худзік. Дакладна не ведаю — сёння ці ўчора, але пабачыў яго ўранку ў нашым гатэлі.

Спытаў тым часам пасля сняданку ў бары — колькі каштуе бутэлька гарэлкі? «Дзесяць тысяч злотых»,— адказала прыгожая барменка. «А на долары?» — «Восемдзесят цэнтаў».— «А на рублі?» — «Рублі не бяром, пан».

Палякі ўсё-ткі здолелі аднавіць каралеўскі замак. Што значыць — народ з ідэяй, што значыць нацыянальны патэнцыял.

У замку душна, але надзвычай уражліва і нават прыгожа. У адной з залаў размешчаны карціны са збору лонданскага прафесара А. Г. Цеханавецкага. Экскурсаводка расказала, як паміж іншым, і пра такое: пад час сустрэчы тав. Гарбачова з польскай інтэлігенцыяй з пасольскай залы ў бальную залу, дзе рыхтавалася сустрэча, былі перанесены люстры для мацнейшага антуражу; з таго часу ў пасольскай зале са столі звісаюць голыя электрычныя правады...

Польшча мае на ўвазе выбіраць прэзідэнта. Цяпер думаюць — дзе будзе жыць выбраны прэзідэнт; можа, у каралеўскіх палатах каралеўскага замка? Вядома, пакуль гэтак яшчэ жартуюць. А вось што прэзідэнтам будзе В. Ярузельскі, мала хто сумняваецца.

На праводзінах былі знаёмыя — з нашага пасольства трэці сакратар Алег Бойка, таварышы з польскага Міністэрства культуры.

З пісьменнікамі гэты раз у Варшаве сустрэцца не давялося. Ды і то сказаць — многія старыя знаёмыя памерлі... Іншыя заняты другімі справамі. А ўрэшце — раней жылі мы ўсе неяк дружней.

З Легніцы па мяне ніхто не прыехаў. Шкада. Там багата маіх выбаршчыкаў.

Бывай, Варшава! І ці не сама ты таксама знаходзішся паміж сонцам і месяцам?

1989 г.

## Эдуард ЛУКАНСКІ

### АБРАЗОК



Сонца дакранулася да зямлі. Велізарнае, чырвонае, яно плавілася ў распаленым паветры і лянуючыся адыходзіла за гарызонт, стомлена паглядаючы на сваю дзённую працу. Спякота не спадала. Яна не спадзе да раніцы. А раней усё спачатку. І, здаецца, не схавацца, не ўратавацца ад гэтага пекла, стомы, духаты. Адзін ратунак — возера. На яго ўжо сцякалася ўсе жыхары гарадка. Яно ажывала смехам, крыкамі, музыкай прыёмнікаў і магнітафонаў, дзіцячым віскам, вокрыкамі бацькоў.

Я пайшоў уздоўж берага, паступова аддаляючыся ад шуму.

Дзівосныя скалы змяніліся велізарнымі адшліфаванымі камянямі. Яны ляжалі ўздоўж спадзістага берага, быццам вялікія скульптуры ў майстэрні мастака. Кут проста казачны. Ляжаць камяні-асілкі, агаленыя, белыя і шэрыя, ляжаць пасля цяжкага гарачага дня. Ляжаць нерухома. Хваля накатвае, ахалоджвае змучаныя целы і ціха адступае. Вада і сонца — прылады нябачнага мастака-скульптара. Яны многія гады працавалі ў вялікай майстэрні прыроды і стварылі гэта незвычайнае харакство.

Тут было ціха. Водная роўнядзь адлюстравала ўсе фарбы вячэрняга неба. Толькі чайкі іншы раз парушалі спакой на паверхні возера. Яны імкліва кідаліся ў ваду і выхоплівалі дробную рыбінку, краналіся крыламі вады і ўзнімаліся ўвышыню.

Паспешна прабегла сітаўка, рэзка спынілася, нахіліла галоўку і зірнула на мяне. Мілая, чароўная птушка! Памяць перанесла мяне за тысячу кіламетраў у родную Беларусь і яшчэ далей — у маё юнацтва.

Як гэта даўно было...

У адной з вайсковых часцей мы выконвалі адказнае заданне. Час быў вельмі абмежаваны, і нам прыходзілася працаваць днём і ноч. Ды і справа была новай, не ўсё ішло гладка. Бачачы, як мы змучыліся, камандзір рашыў зрабіць нам дзень адпачынку. Але не проста, а з выездам на далёкае возера Нарач.

З надвор'ем нам не пашанцавала, дзень быў не па-летняму халодны, але даўняя мара ўбачыць гэты край збылася.

Ірваныя, цёмныя хмары, падобныя адна да другой, пранасіліся над возерам. Бераг быў пустэльны. Справа цягнуўся рыбны завод, частку яго будынкаў закрываў хваёвы бор, а злева ўдалечыні была відаць паўразбураная старая лазня.

Пакуль разгружалі машыну і ставілі палаткі, я пайшоў у бок лазні, каб назбіраць дроў і распаліць агонь. Перад лазняй, у маленькай бухтачцы, стаяла лодка, вакол валяліся трэскі і дзівосная карэнне. З аднаго боку густы хмызняк шчыльна прытуляў да трыснягу. Туды вяла ледзь прыкметная мазолістая сцяжынка. Недзе крякала качка, склікаючы сваіх малых.

Я прысеў на лодку і закурыў. Непадалёку ад берага тырчэлі камяні. На адным, што ледзь выступаў з возера, сядзела невялікая птушка. Энергічная галоўка, і, як мне здалося, нейкія жывыя і проста не птушыныя, з хітрынкай вочкі. Гэта была сітаўка.

# БЕЛЫ КАМЕНЬЧЫК

Яна не сядзела спакойна, усё яе цельца было ў руху. Хваля набягала на камень, і сітаўка ўзлятала і завісала над схаваным пад вадой каменем. Уздыхнуўшы, хваля лянiва адступала, а сітаўка зноў садзілася на камень. Пахістваючы сваім доўгім хвосцікам то ўверх, то ўніз, яна яшчэ лётала па крузе, рэзка паварочваючы галоўку. Кожны раз перад самым носам у хвалі яна ўзлятала, цешачыся сваёй спрытнасцю і смеласцю. Хваля адыходзіла, і птушка зноў садзілася, падскоквала, круцілася, махала хвосцікам і як бы спадцішка цікавала за мною.

Іншы раз сітаўка проста дзёрзка гуляла з хваляю, яна не ўзлятала пасля дакранання хвалі да каменя, а на сваіх стройных і высокіх ножках з запалам перабягала на другі край, выйграючы нейкае імгненне, потым свавольна ўспырхвала. Пярынкі на крылах і хвасце распускаліся, і яна з шэрае рабілася белаю. І толькі цёмная шапачка на галаве кантрастна вызначалася на фоне яе апярэння. Відовішча было незвычайным і захапляючым. Здавалася, яна адчувала мой настрой і сваімі паводзінамі старалася забавіць мяне. Гэта спаборніцтва альбо гульня з хваляй былі нейкія асэнсаваныя. Памятаю, бывала, хлапчукі ў дзяцінстве таксама гулялі з хваляй. Калі яна адступала, спрабавалі як мага далей забегчы і своечасова «рвануць» назад, каб застацца сухімі. І толькі няспрытныя падмочвалі сваю спартыўную рэпутацыю.

Раптам хваля глыбей звычайнага ўздыхнула і выдыхнула. Удар аб камень быў мацней. Сітаўка ўзляцела, аднак пырскі дасягнулі яе. Яна села, захвалявалася, забегала, але ў мой бок не зірнула. Не ведаю, можа, гэта была сціпласць у смелай серый выканання, альбо гэты пад'ём яна лічыла няўдалым. Я ўсміхнуўся. Куды дзелася напружанасць гэтых дзён. Я ўжо смяяўся, смяяўся ўголас, ад усёй душы. Сітаўку мой смех не бянтэжыў. Яна глядзела ў мой бок, і вочы ее свяціліся хітрынкай. «Дзякуй табе, маленькая! — крыкнуў я, устаючы.— Дзякуй!»

За спінай хтосьці ціха засмяяўся. Я павярнуўся і ўбачыў двух мужчын. Адзін, маладзейшы, высокі, у клятчатай кашулі, ватоўцы і берэце, насунутым на лоб. Другі, старэйшы, невялікага росту, хударлявы, у куртцы з футравым каўняром, з шалікам на шыі. Пад курткай быў відаць джэмпер, падобны на камізэльку. Цёмны капялюш, ссунуты на патыліцу, адкрываў вялікі пакаты лоб. Дзвюма рукамі ён абапіраўся на палку-трысцінку і глядзеў на мяне прыжмуранымі вачамі, у якіх свяціліся агеньчыкі, і ўсміхаўся. А вусы гэту ўсмешку рабілі надзвычай добразычлівай.

Я збянтэжыўся, што пры сведках праявіў сваё пачуццё да гэтай птушкі, а яшчэ больш раптоўным з'яўленнем славутых людзей: побач стаялі Якуб Колас і Міхась Лынькоў.

Міхася Лынькова я сустракаў раней. Ён прыходзіў да нас у школу і выступаў на піянерскім злёце. Мы тады, затаіўшы дыханне, слухалі яго, аўтара любімага нашага твора «Міколка-паравоз». Якуба Коласа бачыў упершыню, да гэтага ведаў яго толькі па творах і фотаздымках і, калі б не Міхась Лынькоў, магчыма, прыняў бы яго за мясцовага селяніна з бліжэйшай вёскі.

«На першы погляд, дзіўна, ці не праўда? — прагаварыў Якуб Колас, падыходзячы да мяне.— А вось і ў вас, і ў нас настрой узняўся».

Сітаўка пераляцела на большы камень, і хваля цяпер не даставала яе. Яна ўжо не круцілася, толькі хвосцік хадзіў то ўверх, то ўніз. Птушка глядзела ў наш бок і хоць бачыла, што цікавасць да яе не знікла, вырашыла: «Хопіць, я сваё зрабіла». І паляцела. Якуб Колас пастукаў палкай па лодцы, потым прысеў і працягнуў: «У птушкі, бадай, дзень не лягчэйшы быў, але вось колькі добрага яна яшчэ захавала для нас. Вось у каго трэба вучыцца дабрыні». «Так, так — гэта праўда...— згадзіўся Міхась Лынькоў і, крыху памаўчаўшы, дадаў:— Бывае ў такі тупік трапіш, што гатовы ўжо і рукі ўгору ўзняць, а тут вось такая птушка раптам адчыняе брамку, а то і вароты...»

Якуб Колас з усмешкай зірнуў на Міхася Лынькова, потым на мяне і ўжо сур'ёзна прагаварыў: «Не саромейцеся, таварыш лейтэнант, гэта добра, вельмі добра, калі чалавек заўважае і адчувае прыгажосць».

Ён падняўся, зрабіў некалькі крокаў, пастаяў, вярнуўся назад. «А ты, Міхась, казаў, што дрэннае надвор'е, дрэнны дзень. Не-е, добры дзень, а зрабіла яго добрым вось гэтая маленькая сітаўка... Пачакай, пачакай — старажытныя рымляне белым каменьчыкам адзначалі знамянальныя, шчаслівыя дні, як гаварылі яны, albo lapillo diem notare». Ён нахіліўся, трымаючы палку пад пахаю, зачарпнуў у далонь вады, пераліў у другую, вада прайшла паміж пальцаў, і на руцэ засталося некалькі розных па афарбоўцы маленькіх каменьчыкаў. Адзін з іх быў беленькі. Абмыты вадой, ён здаваўся жамчужынкай.

Дзесьці наверсе прагучаў сігнал аўтамашыны. Міхась Лынькоў кіўнуў у бок дарогі: «Шукаюць, трэба ісці». «А-а, згубілі...— узрадавана вымавіў Якуб Колас і павярнуўся да мяне: — Гэта мы на хвалях туды завесьлавалі, а назад ужо сіл няма, кінулі човен і вуды, пакуль вецер не сціхне альбо зменіць напрамак». Ён працягнуў руку з белым каменьчыкам да мяне: «Трымайце, у вас сёння быў добры дзень...».

Не спяшаючыся, яны пакрочылі да дарогі. Набліжаўся вечар. Вецер сціх. Паветра поўнілася музыкай начных гукаў і пахам кветак. На душы было цёпла і спакойна.

Малюнак
Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА**.



# ПАЭЗІЯ БРАТНЯЙ ЛІТВЫ

**Альгімантас БАЛТАКІС**

### *Лятальны апарат*

Прапалі падлога і сцены. Вішу,
Бы атам які, у празрыстым эфіры.
Магнітнае поле мне лашчыць душу,
І я гавару ў шэсць бакоў — не ў чатыры.

Я голасам рупным адпрэчваю прах,
Ды варта мне змоўкнуць — і прыйдзе расплата.
Пакуль гавару — не бярэ мяне страх
І слова ўздымае накшталт стратастата.

А людзі, злучаючы ніты прыкмет
І самі злучыўшыся з тым, што наўкола,
То дзівяцца ціха: «Лунае паэт!..»,
То гучна рагочуць: «Ён падае долу!..».

**Вітаўтас БЛОЖЭ**

### *Эміграцыя*

часам падлога ўвальваецца, быццам
гумовы мячык
здаецца, нібыта даўно спатыкнуўся
прывыкаеш не верыць сабе
сабе, якім быў ты дваццаць гадоў назад,
калі цяжкія крокі сляпых брылі
рабаваць лясы
і ціха перагаворваліся без жэстаў
і без напругі

ах, мабыць, старэю. Акуляры часам глядзяць
без мяне, адны
і калі прыходзяць дадому, маўчаць пра тое,
што чулі

рукі тужаць
пазногцямі драпаюць аглухлую кару дрэў
(хіба я не перасцерагаў вас, каб не давалі
волі рукам?!)

вяртаецца першае каханне, вяртаюцца вершы
вяртаюцца птушыныя крылы,
вяртаецца голас, пераблукаўшы зіму

быццам садоўнік, у горле сваім прышчапляю
новыя вымаўленні
і прыкладаю рупліва да горла то зёлкі,
а то нажы

абрыдла Амерыка
ах, няма тут нічога новага
і радаводы людзей цягнуцца каранямі
ў Афрыку і ў Еўропу
шкілеты іх прашчураў вандруюць усё яшчэ
пушчамі даўніны
тут іхнія труны растуць на камлях,
ссечаных на пачатку эры
тут іхнія галасы, быццам бубны,
п'юць прастрань Бургундыі
і літоўскі мядок, вуркочучы ад асалоды

нічога больш не жадаў бы
каб толькі вярнуцца дадому,
знайсці сябе, калі сплю,
раніцой, перад тым
як прыносяць пошту
абудзіць, пасадзіць да стала, памаўчаць
хвіліну-другую, гледзячы проста назад,
у памяць

потым схадзіць у дрывотню
і вырваць свой голас
калісьці з размаху ў калоду дубовую ўцяты

ужо дзве тысячы год
мы сячом і сячом дубы

**Еэас МАЦЯВІЧУС**

### *Звон*

Зноў месяц свеціцца маркотна
І зіхатлівым серабром
Фарбуе хмарныя палотны
Над змоўклым борам і дваром.

І звоніць звон далёкі — цэдзіць
Сугуччы мерныя свае,
Нібы камусьці важкай меддзю
Дарэшты плату аддае.

**Вітаўтас РУБАВІЧУС**

### *Партрэт маладога чалавека*

Калі б хто-небудзь сказаў,
што ён жыве для таго,
каб аднойчы
яго заўважылі Кранах альбо Тыцыян,
ці не засмяяўся б ён шчыра,
ці не ўзняў бы чашу з віном,
ці не падумаў бы пра жанчыну,
якая народзіць яму дзяцей?

Аднак усё роўна, нягледзячы
на высакароцтва
(пра гэта сведчаць і залаты ланцужок,
і адзенне),
ён ператварыўся неспадзявана
у Невядомага Маладога Чалавека
і застаўся ім навякі,
нібыта лёс і законы
апяклі аб яго свае пальцы
і пакінулі ўрэшце ў спакоі.

І ці не моліцца ў глыбіні нашых сэрцаў
гэткі самы Невядомы Малады Чалавек,
каб — пакуль абвяшчае нам час
бязлітасны свой прысуд —
ён змог напаткаць свайго Кранаха
альбо Тыцыяна.

**Юсцінас МАРЦІНКЯВІЧУС**

### *Мова*

Ішла — пакідала сляды
у гісторыі і ў краявідах.
Спела на матчыных вуснах,
западала ў нашыя сэрцы.

Якое шчасце паклікаць
возера, камень, траву!..
Шчыры дзякуй за смак
слова, што вымаўляю.

Часам убачу яе
у чорнай жалобнай хустцы
каля знявечанага надмагілка
сястры сваёй — прускай мовы.

Цяжка плакаць.
І цяжка маўчаць.

**Марцэліюс МАРЦІНАЙЦІС**

### *Вялікая неразбярыха ў Кукуціса*

(з цыкла «Балады Кукуціса»)

Калі зашугалі Расяны —
па загуменні
пачыкільгала Кукуцісава сякерка,
божкаючы
і выкідаючы з кішэняў трэскі.

Услед за сякеркай
кінуліся бегчы людзі,
паўзвальваўшы сабе на спіны,
што толькі можна было ўзваліць.

І пачалася такая неразбярыха,
такая неразбярыха,
што перасталі адрозніваць людзі сябе
ад слоў і ад розных прыладаў,
пачалі адзін аднаго скародзіць,
касіць касою, садзіць у зямлю.

І перасталі цяміць,
чым жа адрозніваюцца яны ад сякер,
ад цапоў, ад віл,
чым — ад жанок дзядзькі,
чым — ад старых малыя.

І пачалі адзін аднаго пазнаваць
толькі па вопратцы,
па мянушках, па знаках,
якімі былі кляймёныя коні,
па перавяслах,
якімі былі пазвязваныя снапы.

Была такая неразбярыха,
такая неразбярыха, што і дагэтуль,
павыторкваўшыся з барод,
смяюцца адзін з аднаго два
Кукуцісы —
як дзве сякеркі, адвостраныя наноў.

Пераклаў Алесь РАЗАНАЎ.

Было гэта даўным-даўно, у сярэдзіне дваццатых гадоў, зразумела, дваццатага стагоддзя. Мой бацька паехаў у горад (раённы цэнтр, які па-цяперашняму гарадам і не назваўся б — проста вялікі пасёлак з драўляных дамоў) і ўзяў мяне з сабой. Але мне, хлапчуку гадкоў васьмі, які вырас на хутары каля глухога балота і лесу, і той пасёлак здаўся вялікім, прывабным і вельмі важным горадам.

Пакуль тата хадзіў некуды, я на базары сядзеў на санях, захутаны ў бацькоўскі старэнькі кажушок і пакрыты сенам — быў быццам бы за вартаўніка. Адпрэжаны конь хрумстаў сена, выскубаючы з-пад мяне.

Потым бацька запрог каня, і мы паехалі некуды на незнаёмую вуліцу. Ехалі нядоўга. Спыніліся каля дома, над дзвярамі якога вісела шыльда. Тады я ўжо мог крыху чытаць. На шыльдзе значылася незнаёмае слова: «Райспажыўсаюз».

— Пайшлі! — загадаў мне бацька.

Мы зайшлі ў кантору. У доўгім калідоры было некалькі дзвярэй. Налева і направа. Бацька адчыніў крайнія дзверы направа і спытаў:

— Можна?

# Плакала скрыпка...



Я трымаў тату за руку і з-за яго палы ўбачыў за пісьмовым сталом немаладога ўжо чалавека ў акулярах на кончыку носа. Чалавек нешта пісаў, абкладзены з усіх бакоў стала паперамі. Ён павольна падняў галаву і нейкім адсутным поглядам зірнуў на бацьку, ціха спытаў:

— Што табе?

«Вялікі начальнік»,— падумалася мне тады.

Бацька нешта гаварыў яму, я не ўсё зразумеў, таму і не запомніў, што. Начальнік моўчкі слухаў, потым такім жа спакойным голасам, нехаця, нешта тлумачыў бацьку, а той усё не пагаджаўся. Нарэшце яны аб нечым дамовіліся, і тады бацька папрасіў начальніка:

— Хай мой хлопчык пасядзіць у вас, пакуль я вярнуся. Ён у мяне ціхманы, замінаць вам не будзе...

— Мне што?.. Хай сядзіць.

Выходзячы, бацька паківаў мне пальцам: маўляў, ты мне глядзі, не пікні, сядзі, як мыш пад гальнікам...

Ды што я мог нашкодзіць — дзіця з балота і лесу, для якога ўсё тут, у горадзе, здавалася чужым, варожым і страшным! Зашыўся ў куток, асеў на падлогу, абапёрся локцямі на калені і застыў, здранцвеў, каб ні шораху...

Кароткі зімні дзень канчаўся. Наплываў змрок. Як жывы, ён нараджаўся ў кутах кабінета, цадзіўся адтуль і напаўняў густым туманам пакой. А начальнік, як я назваў яго ў думках, усё яшчэ нешта павольна пісаў і пісаў... Мне здалося, што ён зусім забыў пра мяне, і я быў вельмі рады гэтаму, бо баяўся, што ён загаворыць са мной, а я не буду знаць, што сказаць яму.

Нарэшце наступілі прыкметныя прыцемкі. Гаспадар кабінета падняўся, сагнуў рукі ў локцях, патоpгаў імі — размяўся. У мой бок так ні разу і не зірнуў. Падышоў да шафы, адчыніў і дастаў адтуль скрыпку. Не такую, якую я бачыў у свайго дзядзькі — мамінага брата, падслепаватага вясковага музыкі, які на вяселлях і вечарынках іграў вясковыя песні і танцы. Тая скрыпка была зашмальцаваная, старэнькая і нейкая пісклява-хрыплаватая. А гэтая і ў паўзмроку блішчэла чырвоным лакам, нібы выхвалялася сваім харастволм.

Гаспадар кабінета задумліва паглядзеў у акно прыжмуранымі вачамі, цяжка ўздыхнуў, нейкі цень пракаціўся па яго твары. Здавалася, што ніяк не мог рашыцца: зайграць ці не? Нарэшце рашыўся, паднёс скрыпку пад бараду, рашуча ўзмахнуў смычком, а дакрануўся ім да струн ціха, далікатна, ледзь чутна. Скрыпка адгукнулася такім жа ціхім, ледзь чутным стогнам. Гэты стогн скалануў мяне — здалося, што застагнаў нехта жывы, пакутлівы і бездапаможна.

Гаспадар зайграў. Упершыню ў сваім кароценькім жыцці я пачуў такую музыку. Дасюль не ведаю, што іграў чараўнік з райспажыўсаюза. Для мяне і тая музыка, і той чалавек застаюцца загадкай. Магчыма, ён быў прафесійным скрыпачом, якога злы лёс закінуў у заштатны гарадок за бухгалтарскі стол. А можа, гэта быў таленавіцейшы самародак-аматар, які не адважваўся адкрыць свой талент людзям і іграў толькі для сябе. Ці, можа, я, дзіця прыроды, лясны-балотны дзікун, які нічога, акрамя пілікання дзядзькавай скрыпкі ды птушыных спеваў, не чуў і пры першай сустрэчы з сапраўднай музыкай быў узрушаны, усхваляваны, ашаломлены. Не ведаю. Але тое зачараванне цудоўнымі гукамі ахапіла ўсю маю маленькую істоту.

Скрыпка нясмела пачала расказваць пра нешта важнае, хвалюючае, балючае. Пакуты яе былі нязмернымі, невыказнымі. І цяпер, столькі гадоў пасля, мне, ужо старому чалавеку, простымі словамі іх не перадаць. Скрыпка то павышала свой дзівосны голас з такой сілай, што маё сэрца замірала ад страху і трывогі, то паніжала да таямнічага шэпту, які можна пачуць толькі сэрцам. Звярталася яна не да нас, людзей, а да нейкай таямнічай нябеснай сілы, якая толькі адна магла пачуць, зразумець і адчуць яе боль, яе просьбу, яе маленне. То была малітва без слоў, аднымі чароўнымі гукамі.

Здранцвела я сядзеў у сваім куточку, баяўся нават дыхаць, баяўся спалохаць скрыпку, баяўся, што яна раптам абарве незвычайны спеў і я назаўжды страчу нешта такое дарагое, што потым ніколі ў сваім жыцці не знайду. Калі б раптам побач са мной грымнуў пярун, я ўсё роўна не парушыў бы здранцвення.

**Іван НОВІКАЎ**



А скрыпка ўсё пела, стагнала, плакала і зноў малілася, гукі яе паланілі маё сэрца да болю, да зацятага дыхання. Мне адкрыўся нейкі новы, невядомы, дзівосны свет, пра які я раней не меў ніякага ўяўлення і без якога цяпер ужо нельга будзе жыць. Асаблівы свет, без звычайных слоў, без надзённых, агрубелых паняццяў і рэчаў, адны толькі гукі, магутныя і ледзь чутныя, трапяткія ад пяшчоты і суровыя ад болю, суладныя, гарманічныя і — жывыя, гарачыя, апальваючыя душу. Часам мне здавалася, што мая мама стаіць побач і ласкава-ласкава гладзіць мяне па галаве, а я быццам чую яе думкі: «Расці, сынок, і будзь такім, як гэтая музыка, будзь добрым, будзь шчырым, не забывай, што ў кожнага чалавека ёсць душа, што ёй так жа баліць, як гэтай скрыпцы». Так мне думалася тады, малому, думалася, магчыма, не такімі словамі, нават без слоў, а толькі гукамі той музыкі, што запаланіла маё сэрца.

Зачараванне абарвалася нечакана: рыпнулі дзверы, зайшоў тата. Музыка паклаў скрыпку ў шафу. Толькі цяпер да мяне дайшло, што ў пакоі стала зусім цёмна. А я гэтага не заўважыў, не адчуваў... А як пстрыкнуў уключальнік і жоўтым святлом асвятліўся кабінет, я ўбачыў, што скрыпач выцірае хусцінкай лоб.

— Ну, пойдзем, сынок, а то познімся,— паклікаў бацька.— Дарога дальняя.

І, звярнуўшыся да гаспадара кабінета, сказаў:

— Вялікае дзякуй вам, што патрымалі тут хлопчыка. А то на двары холадна...

Гаспадар моўчкі кіўнуў галавой. Яму было не да мяне, не да бацькавай падзякі.

— Зачакаўся? — спытаў тата, захутваючы мяне ў санках кажушком і сенам.

Я не ведаў, што адказаць. Ілгаць не ўмеў. А праўда была непрыемнай для бацькі: я так зачараваўся музыкай, што і забыў пра яго. Скажы я так, ён не зразумеў бы мяне. Таму я прамаўчаў. Маўчаў усю дарогу. Не адказаў бацьку, калі ён яшчэ загаварыў са мной. Хай, думаю, лічыць, што я стаміўся за дзень і заснуў.

Ноч была месячная, ядраная. Конь трухаў памалу, бацька толькі зрэдку торгаў лейцамі. Я ляжаў на сене і глядзеў на неба. Буйныя, быццам абмытыя, зоркі таямніча мільгалі мне з бяздоннай вышыні. Я нават не чуў, як рыпіць снег пад палазамі — у вушах яшчэ гучала музыка, гучала ўсю дарогу. Яна злівалася з бяскрайнасцю неба, засыпанага безліччу зорак. Было нешта суладнае ў гуках музыкі і велічы бездані неба, нешта ўрачыстае і трывожнае. Гэтую ўрачыстасць і трывогу падарыў мне служачы райспажыўсаюза. Падарыў на ўсё жыццё.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



# НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## СНЕЖАНЬ

4/21. П. **УВЯДЗЕННЕ (Вадзенне)** — прысвятак. У народзе назва звязана са словам «вядзенне» («водзяцца ваўкі», «вадзілі Варвару», «Увядзенне, што свят навядзе»).

5/22. А. **ПРАКОП** («Пракоп па снегу ступае, дарогу капае» — Паўлюкоўскі У., 1934).

6/23. С. **МАТРЫХВАНЫ** (Матрыпан) — дзень, вольны ад прадзення ў піліпаўскія вечары («Матрыпан у Піліпоўку празьнікуюць, штоб не прасьці» — Лельчыцкі р.). Дзяўчаты варажылі пра замужжа («возьмуць да рошчэшуць косы грэбёнкаю, тэю, шо мічуць, да шоб ніхто не чуў, ложыліса, пуд подушку грэбёнку ложаць: «Здайса ў сне, з кім я стану ў пары на весні». «То прыйдуць с гулянкі, цёмно, ужэ ўсі спяць. Шоб ніхто не говорыў до цебе і ты ні з кім не говоры, бо як заговорыш, то ўсё пропало» — Ельскі р. Талстая С., 1986).

7/24. Ч. **КАЦЯРЫНЫ.** Жанчынамі адзначалася свята свечкі.

9/26. Сб. **ЮР'Е ЗІМОВЫ** (Юр'еў дзень, Ягорый, Цуды). Зіма наступіла. Пра зімовага Юр'я кажуць: «Ёсць на свеце два Юр'і і абодва дурні: адзін халодны, а другі галодны»; «Юры (Ягорый) мосціць, а Мікола гвоздзіць», «Да Юр'я хлеба (сена) і ў дурня».

Юрый лічыўся апекуном хатняй і лясной жывёлы, ваўкоў. Ён нібы ў гэты дзень выпускаў ваўкоў аж да вясенняга Юр'я. Аглядалі кароў, коней; падразалі хвасты, падстрыгалі грывы. Больш не выганялі на пашу кароў, бо «Юрэй ужэ дае ваўком слабоду» (Сержпутоўскі А., 1930. Случчына).

Вядома прыказка «Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень».

13/30. С. **АНДРОСЫ (Андрос, Андрэй, Андрэйкі)** — дзявочае свята.

На Палессі на дзяўчат гавораць: «Трэба было табе не андросіці (святкаваць), да кудзелю кудосіці» або «Андрос, Андрос, мучкі кудось, бо мне трэба дзяцей адзяваць». Дзяўчаты варажылі так, як і перад новым годам: на бліны, крычалі ў калодзеж і абсявалі яго каноплямі, бегалі падслухваць пад суседскія вокны і інш.

На свята праводзілі абрад «сеяння каноплі (лёну)», які цяпер успрымаецца як забава моладзі («Гэто на Ондрэя коноплі сеялі. С'яты Ондрэй, коноплі посей. Сыпнуць у окно да слухаюць, шчо там у хаці скажуць. Як скажуць «сядзь», то замуж не вуйдзе, будзе дома седзець».— Тураўскі сл., т. 2). Дзяўчаты таксама асыпалі свае ложкі льняным і канапляным семем са словамі: «На цябе, святый Андрэю, лён сею! Дай, Божа, знаці, з кім буду горавацi!» І чакалі ў сне, хто прысніцца (Раманаў Е., 1912).

14/1. Ч. **НАВУМ** — прысвятак. Раней некаторыя сяляне пачыналі вучыць грамаце сваіх дзяцей («Навум розуму вучыць», «Прарок Навум наставіць на вум»). Е. Раманаў сведчыў, што з гэтым лічыліся і вясковыя школы (1912).

17/4. Н. **ВАРВАРЫ (Варвара, Варкі)** — прысвятак.

Мусіць, у старажытнасці святкавалі дзень зімовага сонцастаяння, таму паўсюдна вядома прымаўка «Варвара ноч урвала, а дзень надтачыла».

На Варвары пастухі збіралі «варваршчыну» (традыцыйную плату) — Тураўскі слоўнік, т. 1.

У гэты дзень не пралі, таму што лічылі: «Варвара верацёнамі замучана». («Еслі на Варвару после захода сонца прадзеш, то Варвара прынесэ сорок верэцён, шоб папрала за одын вечор. Одна жэнчына так на каждое верэцено напрала по дзве ныткі і выбросіла Варвары на двор»,— расказваюць на Брэстчыне. Талстая С., 1984).

Е. Раманаў заўважаў, што ў гэты дзень варылі «варэнікі» з грэцкай мукі і падавалі з канаплянай «маслёнкаю» (1912). На Палессі дзеці хадзілі за варэнікамі да сваіх хросных бабуль.

18/5. П. **САВЫ (Сава, Саўка, Міколін Бацька)** — прысвятак.

У розных рэгіёнах пра Саву гаварылі: «Колісь на Варвары нічога не рабілі, а на Саву маталі клубкі на матўжкі (Мазырскі р., Талстая С., 1984); «На Савы не пралі, тоўклі просо, ячмень на куццю, жыто мололі на колядніки, постолы плелі, волокі вілі» (Лельчыцкі р.); «На Савы не трэба прасць. Не трэба круціць, каб добра было скату, бо скруціцца ягнёнак у калясо» (Шумілінскі р.). Таксама вядома, што «Сава мосце, а Мікола гвоздзе».

Сава лічыцца бацькам Мікалая, які патрабуе: «Святкуй мяне і бацьку майго!» (Раманаў Е., 1912; Дэмбавецкі А., 1882).

19/6. А. **МІКОЛА ЗІМОВЫ** (Міколы, Мікольшчына).

У адрозненне ад Міколы Веснавога гэтага называлі зімовым, таму і гаварылі: «Варвара мосціць, а Мікола марозам гвоздзіць», «Без Міколы не бывае ні зімы, ні лета», «Да Міколы няма зімы ніколі», «Ніводнаму Міколы не вер ніколі». Хаця Міколам «не верылі», аднак існавалі ж усётакі прыкметы. У Магілёўскай губерні прыкмячалі, калі іней будзе раней Міколінага дня, то неабходна будзе сеяць ранні ячмень (Дэмбавецкі А., 1882). На Старадарожчыне гавораць, калі да Міколы не выпадзе снег, то доўга не будзе травы.

У Лельчыцкім раёне гавораць, што на Піліпаўку ёсць тры святкі, якія ідуць адзін за адным,— Варвары, Савы і Міколы, калі не трэба ні снаваць, ні ткаць.

На Случчыне зафіксавана і іншая роля Міколы: «Мо ніхто так не ратуе на вадзе, у дарозе ці на вайне, як святы Мікола» (Сержпутоўскі А., 1930).

Праводзілі свята свечкі «Мікольшчыну». У Магілёўскай губерні гаспадар, у якога была мікольская свечка, частаваў «братчыкаў». Затым запальвалі свечку, ставілі ў лубку з жытам і пераносілі ў суседнюю хату, дзе ў наступным годзе плануецца святкаваць Мікольшчыну. Па дарозе спявалі:

**Прашу цябе, Мікола, да сябе,**
**Штобы ты ў мяне гадуваў,**
**На коніку прыезжаў,**
**Хлеба, солі засылаў,**
**Усякія пашніцы**
**І ярыя пшаніцы.**

У Гомельскім павеце гулялі яшчэ ў «Салоху» — маскарадную гульню. «Цыганне» заходзілі ў хаты, «варажылі» гаспадарам, спявалі песні «Ік ў майго бацюшкі залаты вароты», «Скачы, голуб, па пяску» (Шэйн П., 1902).

21/8. Ч. Дзень астранамічнага зімовага сонцастаяння. У Мазырскім раёне гавораць пра наступны дзень: «Ганны — прыбавіцца багата дня» (Талстая С., 1984).

22/9. Пт. **ГАННЫ** (Ганкі, Ганна) — прысвятак.

Прысвятак падобны на Савы. Да Каляд застаецца роўна два тыдні («Ганкы — пошчытаны дынькы» — Драгічынскі р.). На Брэстчыне пра зімовыя прысвяткі заўважаюць: «Варвара заварыць, а Мікола пацвердыць, а Ганкі зобьюць санкі і поедуць катацца по снегові, по ледові» (Усё: Талстая С., 1984). Больш вядома: «На Ганкі сядайце на санкі».

25/12. П. **РАЖАСТВО ПОЛЬСКАЕ (Польскія Каляды).** Адзначаюцца ў некаторых заходніх раёнах. На Мядзельшчыне кажуць: «Калі Польскія Каляды трашчаць, дык нашы плюшчаць, калі ж Польскія плюшчаць, то нашы трашчаць».

31/18. Н. **МАДЭСТ** — прысвятак. Лічыцца апекуном дамашняй жывёлы (Раманаў Е., 1912).

## ТЫДЗЕНЬ ДА КАЛЯД

У апошні дзень года раней заканчваўся тэрмін дагавору батракоў, слуг у пана. Пан шукаў новых работнікаў. Гэта добра адлюстравана ў калядных песнях:

**Тыдзень, тыдзень да Каляд,**
**Наш пан чэлядзі не рад,**
**Пайшла чэлядзь скачучы,**
**А пан за ёю плачучы:**
**— Вярніся, чэлядзь, вярніся,**
**На другі гадок наймiся.**

Слугі прасілі разлік, ішлі на святы:

**— Скажу, пан, табе без спорак,**
**Мне ўжо твой хлеб стаў горак.**
**Аддай, пан, мне каляду,**
**Ужо я ад цябе пайду.**

Былі выказванні і больш вострымі:

**— Каб ты, пане, не даждаў,**
**Як табе я буду слугаваць...**
**...— Ах, каб ты, панок, не даждаў,**
**Твая пані ліхая**
**На мяне брахала...**

□ □ □

У календары, які не прэтэндуе на поўны, указаны даты па новаму і старому стылях (4/21 — 4 снежня, 21 лістапада), абазначаны дні тыдня (П., А., С., Ч., Пт., Сб., Н.). У дужках падаюцца некаторыя іншыя варыянты назваў свят і прысвяткаў, што бытуюць ці бытавалі ў розных рэгіёнах Беларусі.

**Падрыхтаваў Алесь ЛОЗКА.**



Амаль што кожную сераду ў майстэрні Нінель Шчаснай збіраюцца людзі. Прыходзяць сябры, даўнія знаёмыя: пісьменнікі, мастакі, кампазітары, журналісты, драматургі, урачы.

— Праходзьце, калі ласка, размяшчайцеся зручней,— запрашае гаспадыня, мілавідная жанчына з васількоўымі вачамі.— Зараз самавар паспее, будзем чаёўнічаць.

Аднак за стол ніхто не спяшаецца — разглядаюць шматлікія накіды, замалёўкі, эскізы, знаёмяцца з новымі работамі гаспадыні. Тут і «Гуканне вясны», «Сноп ільну», «Іней», «Бэз», «Завіруха», «Лясная казка», «Навальніца набліжаецца». Нінель Іванаўна любіць прыроду, і прырода дорыць ёй натхненне. Метафарычнасць работ не кідаецца ў вочы, ненадакучлівая, лёгка даступная для ўспрымання. Колькі паэзіі ў палотнах «Капеж», «Снегірок». Не, почырк мастака не зблытаеш ні з якім іншым. У яе свой светапогляд. І яна паступова, але настойліва, прымушае ўспрымаць наш свет і бачыць яго такім, якім бачыць сама.

Упершыню работы Н. І. Шчаснай убачыў у 1978 годзе, калі пасля рэканструкцыі адкрыўся мінскі рэстаран «Беларусь» (цяпер «Свіслач»). Памятаю, вітражы здзівілі мяне і ўразілі незвычайнасцю свайго зместу: стварылі радасны настрой і ў той жа час «працавалі» на залу ў якасці свяцільнікаў. Гэтая функцыянальнасць не выпірала, як гэта часта здараецца, а была непрыкметнай, хоць і рацыянальнай.

Уразіла сваёй алегарычнасцю і вітражная кампазіцыя банкетнай залы. Жаночыя вобразы пораў года — «Вясна», «Лета», «Восень» і «Зіма», а ў цэнтры ці то агромністае сонца, ці то кветка, а можа гэта наогул гадзіннік, у якім цячэ няўмольны час. І ты адчуваеш супакой, нараджаецца жаданне падумаць пра жыццё.

Манументальнасць выканання выклікала думку, што над стварэннем вітражоў працаваў творчы калектыў мастакоў, скульптараў, архітэктараў. Бадай, таму я і не пацікавіўся тады, хто стварыў усё гэтае хараство.

А потым аказалася, што над афармленнем інтэр'ераў рэстарана працаваў толькі адзін мастак.

Упершыню я сустрэўся з Нінель Іванаўнай у яе майстэрні. Памятаю, гутарылі пра вітраж — яно стварала вакол чалавека атмасферу ўтульнасці, цяпла і радасці.

Утылітарны падыход да мастацтва?! І ў каго? У мастака. Але Нінель Іванаўна мае рацыю. Слухаючы яе, я прыпамінаў вітражныя «палотны» Шчаснай з літага фактурнага шкла на лесвічных пляцоўках і ў холах камбіната грамадскага харчавання мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт». Выкананыя ў спакойнай гаме чырвонага, зялёнага і блакітнага колераў, гэтыя творы напамінаюць пейзажы роднай беларускай прыроды і стрыманы каларыт нацыянальных ручнікоў і посцілак.

У той даўняй размове пра манументальна-дэкаратыўнае мастацтва Нінель Іванаўна часта ўжывала слова «мантаж». І на самай справе, стварэнне вітражных палотнаў падобна на працэс будаўніцтва. Перш чым пачаць мантаж вітражоў на «Гарызонце», мастак два месяцы правяла на шклозаводзе «Нёман», дзе ў творчай садружнасці з шкловыдзімальшчыкамі стварала сваіх казачных птушак і рыб. Дзевяць тон фактурнага шкла, упакаванага ў сто скрынь, прывезла яна потым у холы камбіната грамадскага харчавання.

— Часцей за ўсё на руках былі рукавіцы, бо жалеза і шкло, з якімі я мела справу, былі разагрэты да тэмпературы 1600 градусаў,— гаворыць Шчасная.

Сапраўды, праца мастака-манументаліста нялёгкая. Гэта звычайная праца рабочага чалавека. Бо для звязкі сваіх кампазіцый ён выкарыстоўвае мармуровую крошку з эпаксіднай смалой, падфарбаваны цэментны раствор, асобныя элементы нават падвешваюцца на ланцугі. Не выпадкова нехта сказаў, што рукі Шчаснай у пярсцёнках і мазалях, як спалучэнне паэзіі і рамяства.

Плённых вынікаў дасягнула яна ў стварэнні жывапіснага вітража на палімернай аснове. Вартасць новай тэхналогіі была станоўча ацэнена Мастацкім фондам СССР. Надзейнасць гэтай тэхнікі адкрыла новыя магчымасці для практычнай дзейнасці мастакоў і архітэктараў.

Мастацкая палітра Шчаснай рознабаковая, як сусвет. Яна радасная, сонечная, падобная да вясёлай песні.

Але аднойчы я ўбачыў у майстэрні яшчэ не зусім скончанае палатно, якое гучала нейкім вайны. Бездань прагнасці, якая пажырае планету. Вар'яцтва, якое нясе небыццё. Апакаліпсіс.

— Не, не,— гавару я Нінель Іванаўне.— «Пачвара» — назва не зусім дакладная. Гэта тэма, але не сутнасць. Сутнасць гэтага палітычнага абвінавачвання — папярэджанне. Так і назавіце карціну.

— А ў дужках абавязкова пастаўце: «Не — зоркавым войнам!» — прапануе народны майстар Мастацкага фонду, разьбяр па дрэве В. М. Сафроненка.

Шчасная не паслухала ні мяне, ні Сафроненку. Яна назвала карціну «Пачвара і народ». Можа яна мела на ўвазе Берыю ці Піначчэта?! Магчыма. Але хто б гэта ні быў, каго б яна ні мела на ўвазе, карціна «працуе» на дэмакратыю, на перабудову, на новае мысленне для ўсяго свету.

У красавіку — маі бягучага года ў выставачнай зале, што на праспекце Машэрава ў Мінску, адбыўся вернісаж творчасці Н. І. Шчаснай. Нінель Іванаўна сустракала наведвальнікаў у белай, як у нявесты, сукенцы, сардэчна запрашала на шклянку чаю. Гэта ўжо традыцыя.

Нінель Шчасная нарадзілася на Полаччыне, у сям'і настаўнікаў. Маляваць пачала як помніць сябе. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча, затым працягвала вучобу ў Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР.

Яшчэ студэнткай выязджала ў экспедыцыі па Сярэдняй Азіі, прымала ўдзел у рэстаўрацыі твораў манументальнага характару. Захапленне пераходзіць у пошук: афармляе інтэр'еры ў Доме мод, Доме радыё і тэлебачання ў Душанбе. З экспедыцый прывозіць маляўнічыя накіды «Хіва», «Самарканд», «Бухара», «Зіма ў Душанбе», «Дываншчыцы».

Нінель Іванаўна стварае розныя па настрою і эмацыянальнаму напалу неардынарныя партрэты пісьменнікаў: Івана Шамякіна — «У снежныя зімы», М. Багдановіча — «Быць можа я не скончу жыць», Івана Мележа, драматурга Міхала Матукоўскага, кампазітара Рыгора Шырмы — «Беларуская песня», партрэт Алаізы Пашкевіч — «Хацела быць зярном пшаніцы».

У арсенале Шчаснай мноства яркіх, маляўнічых ілюстрацый да кніг беларускіх пісьменнікаў, графічных работ. У гэтых творах яна перадае чытачу радаснае адчуванне кахання і шчасця

# У пярсцёнках і мазалях

жы для гандлевых памяшканняў як аб новым слове ў аздабленні інтэр'ераў, як аб новай галіне мастацтва. Якое за імі будучае?

— Будучае? — перапытала Нінель Іванаўна і на хвілінку задумалася.— Мне здаецца, трэба гаварыць аб часовасці манументальнага мастацтва. Пройдзе час, можа дзесяць — дваццаць гадоў, з'явяцца новыя матэрыялы, а значыць, і новыя інтэр'еры, новыя вітражы. Думаю, што будучае не будзе падобным на сучаснае, не стане паўтарацьпройдзенае. Народзіцца нешта новае, прыгожае, радаснае, што будзе ствараць непасрэдны кантакт з душой чалавека.

У гэтых развагах — крэда мастака. Уся кая класіка, лічыць яна, паўтарэнне ўжо пройдзенага. Трэба шукаць новыя формы, новыя матэрыялы, новыя падыходы, «напаўняць» мастацтвам побыт людзей, іх паўсядзённае жыццё, каб яно, мастацтва, было не толькі ў музеях, карцінных галерэях, а ўсюды — на рабоце, дома, у магазіне, кафэ, рэстаране, сталовай, каб дысанансам творчасці Шчаснай. Карціна мела ўмоўную назву «Пачвара».

Пачварная, агідная істота, быццам з сырога чырвонага мяса, сядзела ў постаці кітайскага багдыхана. На тлустым пальцы гэтай брыдотыззяе пярсцёнак, ад якога зыходзіць страшэнны прамень, што спальвае ўсё на сваім шляху. На твары (калі можна так назваць агідную маску) — самазадаволенасць і пагарда, асалода ад бязмежнай улады над людзьмі, якія, быццам мурашкі, варушацца недзе ўнізе.

«Божа! — думаў я, угледзваючыся ў гэтага вылюдка,— навошта было Нінель Іванаўне пэцкаць палатно такой брыдотай, замест таго, каб намаляваць штосьці-небудзь цудоўнае?!»

Але карціна, між іншым, вабіла, прымушала думаць. Што гэта? Хто гэта? Каго спальвае гэтая пачвара?

Раптам бачу, што гэтая самая пачвара сядзіць на шалі, паўнюткай залатых манет, а на другой — людзі, зямны шар, мільёны, мільярды чалавечых цел, што гараць і плавяцца ў полымі жыцця.

...Але настаў час сесці за стол, бо ўжо даўно паспеў самавар, і гаспадыня майстэрні напаўняе шклянкі духмяным чаем.

І пачынаецца гамонка за сталом, якая то ўспыхвае яркім полымем, то прытухае, пакуль хто-небудзь не падкіне ў «касцярок» новае паленца: чытаюць свае вершы яшчэ непрызнаныя і масцітыя паэты, выконваюць свае першыя песні кампазітары, увагу гасцей прыкоўвае доктар, што гіпнозам вылечвае алкаголікаў і курцоў. Здараецца, чытаюць уголас газетныя артыкулы, а затым абмяркоўваюць іх. Многа гавораць аб перабудове, галоснасці. Спрачаюцца, пераконваюць, даказваюць.

На гэтых сустрэчах праяўляецца яшчэ адна рыса характару гаспадыні майстэрні — не толькі мастака, але і грамадскага дзеяча, які ўмее аб'ядноўваць і накіроўваць людзей на шлях узаемнай павагі і любві.

**Аляксандр СУСЛАЎ.**

МАЛАВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# «ЗЯЛЁНЫ ДУБ»

**Сёння набыткам галоснасці становяцца самыя розныя эпізоды з гісторыі першых гадоў Савецкай улады, памылкі і трагедыі лідэраў розных палітычных сіл. Напэўна, трэба нам усім даведацца, няхай і горкую, але праўду аб партыі, якая была вядома як арганізацыя «Зялёны дуб» і вяла контррэвалюцыйную дзейнасць на тэрыторыі Беларусі. Аўтар гэтай публікацыі — доктар гістарычных навук Сцяпан ПАЧАНІН.**

Правячая вярхушка Польшчы 20-х гадоў прымала ўсе захады, каб не дапусціць далейшага развіцця рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў раёнах Заходняй Беларусі. Ва «ўсмірэнні крэсаў», гэта значыць падаўленні масавых выступленняў працоўных Заходняй Беларусі, вялікае значэнне надавалася 2-му аддзелу Польскага генштаба, які лічыў галоўнай «віноўніцаю» рэвалюцыйнага руху народных мас на «ўсходніх крэсах» Савецкую Беларусь, адкуль быццам бы прыходзяць «дыверсійныя банды», так званыя партызанскія атрады.

...Паручнік Зацвіліхоўскі, начальнік аддзела Віленскай экспазітуры 2-га аддзела Польскага генштаба (у горадзе Вільні), выклікаў да сябе ў кабінет «зеленадубцаў» — Грача, Дзергача і Крэчата. Размова — кароткая. Да гэтага ўжо было ўсё дамоўлена:

— Хто ездзе? — запытаў Зацвіліхоўскі.

— Я,— адказаў Грач.

— Напішыце пропуск,— звяртаецца да памочніка Зацвіліхоўскі.— Як доўга думаеце быць у Мінску?

— Два тыдні.

— Распішыцеся за атрыманыя грошы. Думаю, што вам досыць. Ад вас саміх залежыць у наступны раз атрымаць болей. Мяне цікавіць галоўнае — вашы перагаворы з Савецкай уладай,— сказаў Зацвіліхоўскі.

Такая размова адбылася летам 1922 года ў Віленскай экспазітуры. Заданне, дадзенае Грачу, заключалася ў наступным: Грач прадстаўляе сабою «Сялянскую беларускую партыю «Зялёны дуб», якая нібыта вядзе барацьбу з польскім урадам, з палякамі. Лозунг партыі «Зялёны дуб» — незалежная Беларусь. Мэта — адчапіцца ад прымусовай апекі Польшчы, а для дасягнення гэтага партыя зможа, калі спатрэбіцца, падняць паўстанне, улічваючы агульную незадаволенасць сялян і рабочых польскім урадам. Ну, а затым, зразумела: прапанаваць ураду БССР свае паслугі і папрасіць падтрымку і дапамогу. Як гэта здавалася проста...

Што ж на самай справе ўяўляе сабою так званая «Сялянская партыя «Зялёны дуб»? На гэтае пытанне спрабуе даць адказ Грач — начальнік штаба гэтай арганізацыі. «Партыя,— гаварыў ён,— стаяла на пазіцыі незалежнасці Беларусі, якая без дапамогі іншых дзяржаў павінна была сабраць сейм, што і вырашыў бы пытанні кіравання: федэрацыя, аўтанамізацыя і г. д. Акрамя таго, задачай партыі была беларусізацыя краю».

На самай жа справе «Зялёны дуб» — гэта нацыяналістычная дробнабуржуазная групоўка, якая прымала актыўны ўдзел у арганізацыі бандыцкіх і дыверсійных выступленняў супраць Савецкай Беларусі. Некаторыя члены яе з'яўляліся таксама агентурай польскай разведкі. Зеленадубцы, як і Булак-Балаховіч, выдаючы сябе за «абаронцаў інтарэсаў беларускага сялянства», пад фальшывай беларускай шыльдай выконвалі волю замежных спецслужбаў, на ўтрыманні якіх знаходзіліся.

Дзеянні зеленадубцаў, булак-балахоўцаў так пераплятаюцца, што часам цяжка іх раз'яднаць. Прадстаўнікі «Зялёнага дуба» і банды Булак-Балаховіча нярэдка на сумесных зборышчах абмяркоўвалі адны і тыя ж пытанні, прымалі ўдзел у выпрацоўцы мерапрыемстваў па барацьбе з нацыянальна-вызваленчым рухам у Заходняй Беларусі, у стварэнні бандыцкіх фарміраванняў і накіроўванні іх на тэрыторыю Савецкай Беларусі.

У сувязі з гэтым дарэчы напомніць чытачам, што шырокія масы беларускага народа ведалі Булак-Балаховіча як ка́та, пагромшчыка, завадатара бандыцкіх налётаў, правакатара, дзеянні якога накіроўвалі замежныя спецслужбы. Яго імя выклікала нянавісць народа. Гарам папялішчаў, вісельнямі, слязамі мацярок і дзяцей, кроўю нявінных людзей пазначаны злачынны шлях атамана Булак-Балаховіча і яго рабаўнічай арміі. 174 разбураныя населеныя пункты, да 1500 расстраляных і больш за 2000 раненых мірных грамадзян, шматлікія рабаўніцтвы і гвалтаванні — такі далёка не поўны рахунак «вызваленчай» місіі белагвардзейскіх бандаў Булак-Балаховіча ў раёне Мазыра ў лістападзе 1920 года.

Дзейнасць «Зялёнага дуба», якім кіраваў сын мясцовага беларускага нацыяналіста, старшыні «Беларускага палітычнага камітэта» Вячаслава Адамовіча — В. В. Адамовіч-Дзяргач, пачалася ў 1920 годзе. Пасля разгрому арміі Булак-Балаховіча ў раёне Мазыра Адамовіч-Дзяргач, Грач (Ксяневіч), Крывашэйн, Крэчат, пісьменнік Лявіцкі з некалькімі салдатамі разбітай балахоўскай арміі ў снежні 1920 года патрапілі ў Лунінец. Тут яны дамовіліся, як потым успамінаў Грач, для таго, каб замазаць вочы палякам, стварыць нешта накшталт «вызваленчай» арганізацыі пад назвай «Зялёны дуб». З мэтаю атрымання сродкаў для існавання Дзяргач прапанаваў Грачу, Крывашэйну і Крэчату напісаць фіктыўнае данясенне ад кіраўнікоў нібыта існуючых зеленадубскіх атрадаў, хоць такіх атрадаў яшчэ не было. Так і зрабілі. Дзяргач, спасылаючыся на данясенне начальнікаў атрадаў, папрасіў польскае камандаванне прызнаць створаны «штаб» і выдаткоўваць сродкі на яго ўтрыманне. Палякі паверылі ў гэта. Думаючы, што ў Дзергача ёсць сякія-такія ўзброеныя сілы і ўплыў на беларускае насельніцтва, яны дазволілі арганізацыю і дзейнасць такога штаба і сталі на першым часе выдаткоўваць яму прадукты харчавання за кошт палка польскай арміі, які стаяў у Лунінцы.

Хутка выказаў жаданне ўвайсці ў падначаленне «Зялёнага дуба» адзін атрад Булак-Балаховіча; потым увайшлі ў кантакт з ім некаторыя іншыя бандыцкія атрады, у тым ліку атрад атамана Федашчэні і іншыя.

Далей пачынаецца сапраўдная дзейнасць «Зялёнага дуба». Атаман Дзяргач вядзе праз пасрэдніка — паручніка польскай арміі Блонскага — перагаворы з 2-м аддзелам Польскага генштаба. Праз таго ж Блонскага неўзабаве атрады «Зялёнага дуба» сталі забяс-

печвацца харчам, грашамі, зброяй. Сялянская партыя к гэтаму часу фарміравала атрад для налёту на раёны Савецкай Беларусі і барацьбы там з Савецкай уладай. З дапамогаю «Зялёнага дуба» і 2-га аддзела Генштаба былі створаны банды Караткевіча, Пагулевіча, вядомыя сваімі пагромамі ў Слуцкім і Мазырскім паветах, Вайцаховіча і іншыя.

Акрамя паручніка Блонскага, зеленадубцам дапамагаў паручнік жандармерыі Кудзевіч. Праз яго атрымлівалі фіктыўныя пропускі і праязныя дакументы, патроны і вінтоўкі.

Другі аддзел Польскага генштаба поўнасцю падтрымліваў так званую Беларускую сялянскую партыю, якая знаходзілася ў асноўным на яго ўтрыманні. Кіраўнік гэтай «партыі» атаман Дзяргач, як яго тады называлі, часта бываў у Варшаве, атрымліваў там указанні, прывозіў адтуль афіцыйныя інструкцыі. Аднойчы, вяртаючыся з Варшавы, як сведчаць успаміны Грача, Дзяргач прывёз друкаваную «інструкцыю», на якой уся граніца з Савецкай Беларуссю была падзелена на раёны, кожны з якіх меў свой штаб і падтрымліваў сувязь як з польскім Галоўным штабам, так і з Булак-Балаховічам. Штаб 4-й Польскай арміі даваў прадукты, забяспечваў рознымі дакументамі, а Сялянская партыя пасылала ў Савецкую Беларусь шпіёнаў і дыверсантаў, дастаўляла адтуль матэрыялы аб размяшчэнні савецкіх войск.

Атаман Дзяргач вёў перагаворы аб стварэнні аб'яднанага камітэта, у які павінны былі ўвайсці прадстаўнікі ад Беларускага палітычнага камітэта, ад Булак-Балаховіча і ад польскай арганізацыі «Камітэт абароны крэсаў» (КАК). Па гэтым пытанні ў Варшаве ў памяшканні КАК (вул. Доўгая, 54) было праведзена некалькі нарад.

«Помню,— піша Грач,— як на адной нарадзе Дзяргач адчайна хлусіў. Можна было падумаць, што ў яго пад камандай ёсць асобная армія. Старшынёю КАК было прапанавана фарміраваць у раёне Заходняй Беларусі польскія стралковыя падраздзяленні, куды таксама будзем павінны і мы ўліваць сваіх людзей, а Булак-Балаховіч прапанаваў фарміраваць у пагранічнай паласе рабочыя арцелі з балахоўцаў. Ад КАК «Зялёны дуб» атрымліваў грашовую дапамогу».

Як бачна, між атрадамі «Зялёнага дуба» і атрадамі Булак-Балаховіча не заўсёды можна знайсці розніцу. У шэрагу выпадкаў на чале зеленадубскіх атрадаў сталі паплечнікі Булак-Балаховіча, часцей за ўсё з дэзерціраў і салдат былой балахоўскай арміі. Сам атаман Дзяргач у 1925 годзе значыўся кіраўніком адначо з атрадаў Булак-Балаховіча. Іншыя таксама выконвалі волю сваіх замежных гаспадароў, рабілі бандыцкія налёты, праводзілі правакацыйную і разведвальную работу, пераходзілі польска-савецкую граніцу.

Гэта пазней пацвярджае ў сваіх паказаннях Грач, начальнік штаба «Зялёнага дуба». «Я,— піша ён,— атрымаў заданне ад 2-га аддзялення Генштаба арганізаваць нападзенне на цягнік, у якім будзе ехаць з Польшчы ў Мінск якаясьці бальшавіцкая дэлегацыя ці камісія. Пасылаліся банды на тэрыторыю БССР. Некалькі невялікіх атрадаў перайшло граніцу. Караткевіч некалькі разоў пераходзіў з атрадам у Савецкую Беларусь. Вяртаючыся назад, наведваўся да нас, але не забываў і Савінкава, ад якога неаднойчы атрымліваў грошы, падтрымліваў сувязь самастойна з 2-м аддзелам, а мы: я, Дзяргач, Крэчат, Крук і іншыя зеленадубцы, вялі бясконцыя перагаворы з 2-м аддзелам Польскага генштаба. Нарэшце, мне асабіста было даручана ісці ў разведку».

Атрымаўшы ў капітана Маера ў Лідзе ў 2-м аддзеле грашовую суму, прыдбаў «Інструкцыі» для атрадаў «Зялёнага дуба» на беларускай мове, адлітаграфаваныя ў 2-м аддзеле 2-й арміі па просьбе Дзяргача, Грач з пяццю чалавекамі летам 1922 года накіраваўся ў Савецкую Беларусь, дзе прабыў пяць дзён. Прайшоў углыб да шасцісот вёрст. Раскідаўшы «Інструкцыі», вярнуўся. Прынёс капітану Маеру некаторыя матэрыялы разведвальнага характару.

Пасля вяртання Грач і іншыя зеленадубцы наладзілі сувязь з манархістамі, у тым ліку з генералам Новікавым, і дамовіліся з імі аб сумеснай барацьбе супраць Савецкай улады.

Зеленадубцы, працуючы ў кантакце з польскай ахранкай, манархістамі і Булак-Балаховічам, адначасна супрацоўнічалі з французскай ваеннай місіяй у Варшаве. Атрымлівалі ад яе адпаведную грашовую падтрымку за здабытыя імі разведвальныя матэрыялы аб Савецкай дзяржаве. Непасрэдную сувязь зеленадубцы трымалі з начальнікам сакрэтнага аддзела французскай ваеннай місіі ў Варшаве капітанам Дзюбуа, які добра ведаў рускую мову. Капітан Дзюбуа інфармаваўся аб звестках, якія паступалі ад прыбыўшых з Савецкай Беларусі. Калі, напрыклад, у 1923 годзе ў Польшчу прыехаў французскі маршал Фош, Беларуская сялянская партыя на чале з Дзяргачом паднесла госцю яго партрэт з адпаведным адрасам ад імя быццам бы прадстаўнікоў Беларусі.

Пастаяннае супрацоўніцтва так званай Беларускай сялянскай партыі з польскай дэфензівай вяло за сабою шэраг правакацый. Напрыклад, у сакавіку 1922 года ДПУ Беларусі атрымала адкрытае пісьмо ад партыі «Зялёны дуб», якая прапанавала свае паслугі. Адначасова ў Варшаве ў савецкую місію з'явіўся прадстаўнік «Зялёнага дуба» і прапанаваў свае паслугі па барацьбе з Польшчай. Прапанаваў сарваць надыходзячыя выбары ў Польскі сейм. Зразумела, што кіраўніцтва савецкай місіі ад гэтай авантуры катэгарычна адмовілася і прапанавала яму вяртацца ў Савецкую Расію, прасіць прабачэння і загладзіць там сваю віну перад Савецкай уладай.

Праз некаторы час у Мінск прыбыў член штаба «Зялёнага дуба» Міхаіл Крук з агентам 2-га аддзела Польскага генштаба Самусевічам. Яны спрабавалі весці правакацыйныя перагаворы з органамі Савецкай улады Беларусі аб падтрымцы барацьбы супраць польскага кіраўніцтва. Пасля гэтага з такой жа мэтай прыбыў у Мінск і сам начальнік штаба «Зялёнага дуба» Грач. Аднак усе гэтыя правакацыйныя задумы зеленадубцаў праваліліся. І самі яны былі выкрыты. Грачу і іншым зеленадубцам, якія прыбылі ў Савецкую Беларусь з такімі місіямі, выканаць заданне сваіх замежных гаспадароў не ўдалося, Ім болей не давялося вярнуцца назад, зразумела, не па сваёй волі.

Такія-сякія звесткі аб праграме Сялянскай партыі мы ведаем з паказанняў Грача-Ксяневіча і лістовак, выдадзеных гэтым штабам у перадвыбарнай кампаніі па выбарах у Польскі сейм у 1922 годзе. У гэтых лістоўках пісалася пра барацьбу Сялянскай партыі за тэрытарыяльную аўтаномію для ўсёй Беларусі, за беларускую школу, за васьмігадзінны рабочы дзень, за забеспячэнне лесам сялян. Тут можна знайсці і такі запіс: матэрыяльная і маральная дапамога сельскім кааператарам, дапамога промыслам і гандлю, адкрыццё гандлёвых і рамесных вучылішчаў і курсаў, клопат пра народнае здароўе і г. д.

Зеленадубцы ў сваёй праграме, калі яе можна так назваць, з аднаго боку, як быццам марылі аб адзінай стабільнай Беларусі і аб тым, каб кожны селянін меў права прымаць удзел у пабудове сваёй дзяржавы, каб «свабодная» Беларусь сабрала свой сейм, які б вырашыў лад кіравання; а з другога боку, яны, зеленадубцы, рабілі рэверанс буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Такая вось цікавая, складаная старонка нашай гісторыі.

Да снежня 1922 года было створана арганізацыйнае бюро «Зялёнага дуба», якое знаходзілася ў Варшаве. Актыўны ўдзел прымаў у ім Булак-Балаховіч. З архіўных дакументаў за снежань 22-га года даведаліся, што былі спецыяльныя вярбовачныя пункты гэтага бюро ў некаторых гарадах Савецкай Беларусі, у тым ліку ў Віцебску, Оршы, Бабруйску, Барысаве, Полацку. Указаны прозвішчы загадчыкаў пунктаў. У названых гарадах меліся і прадстаўнікі ПВА (польскай ваеннай арганізацыі), якія былі галоўнымі ініцыятарамі і арганізатарамі сумеснай работы з прадстаўнікамі «Зялёнага дуба».

Па архіўных даных, якія адносяцца да 1926 года, у структурных адносінах партыя «Зялёны дуб» з'яўлялася чыста ваеннай арганізацыяй, як і арганізацыя Булак-Балаховіча, падпарадкаваная 2-му аддзелу Польскага генштаба.

«Зялёны дуб» у сваёй дзейнасці, апроч Булак-Балаховіча, меў непасрэдны кантакт з Часовай беларускай радай, на пасяджэннях якой атаман Дзяргач інфармаваў аб рабоце атрадаў, якія дзейнічалі галоўным чынам у прыгранічнай паласе. У пратаколе пасяджэння Часовай беларускай рады ад 1925 года, напрыклад, чытаем:

«Старшыня прадастаўляе слова атаману Дзергачу, які інфармуе Раду аб стане яго атрадаў. Дзяргач выказвае падзяку Радзе за прысланых у яго атрады добраахвотнікаў. Першую партыю — 8 чалавек, другую — 12 і трэцюю — 23 чалавекі. Добраахвотнікі падаюць вялікія надзеі, яны вельмі стараюцца і праяўляюць ініцыятыву. Дзяргач просіць, прымаючы добраахвотнікаў, правяраць іх з усіх бакоў і, толькі ўстанавіўшы іх асобу,— прымаць. Гэта неабходна, каб пазбегнуць правакатараў».

Часовая беларуская рада, якая ўзнікла ў верасні 1924 года, праяўляла асаблівую актыўнасць у барацьбе з рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам, праводзіла прапаганду супраць ідэй сацыялізму, яна гатова была падтрымаць любыя рэакцыйныя сілы на тэрыторыі Заходняй Беларусі і, канечне, супраць Савецкай Беларусі. Таму не выпадкова, што на пасяджэннях Рады неаднаразова прысутнічалі і абмяркоўвалі разам з яе членамі «дзяржаўныя справы» атаман «Зялёнага дуба» Дзяргач і бандыцкі генерал у цывільным Булак-Балаховіч.

Нягледзячы на ўсе старанні кіраўнікоў «Зялёнага дуба» і іншых нацыяналістаў, здраднікаў інтарэсаў беларускага народа, прыцягнуць да так званай Сялянскай партыі шырокія масы беларусаў не ўдалося. Сярод насельніцтва Беларусі яна ўплыву не мела.

Трэба зазначыць, што верхаводы «Зялёнага дуба» з самага пачатку ўзнікнення так званай Сялянскай партыі звязалі свой лёс з бандыцкімі балахоўскімі і іншымі варожымі элементамі з ліку белых афіцэраў. Арганізацыя «Зялёны дуб» як дробнабуржуазная нацыяналістычная групоўка не мела ні сувязей, ні падтрымкі, ні сацыяльных каранёў сярод працоўных мас і пакінула пра сваё мінулае цёмны след вузкакарыслівай, бандыцкай, правакатарскай арганізацыі, якая выконвала заданні іншаземных спецслужбаў.

**Прапаную чытачам «Беларусі»**
**ўрывак з новага рамана «Паводка сярод зімы».**
**Падзеі адбываюцца на пачатку 50-х гадоў.**
**У цэнтры твора, як і ў рамане «Шчыглы»,**
**сям'я Мацвея Сахуты.**

Аўтар.

Леанід **ЛЕВАНОВІЧ**



# КІРМАШ

Аднойчы пад вечар бацька сказаў Андрэйку:

— Кладзіся спаць раней. Заўтра паедзем на кірмаш у Саковічы. Можа, і ты, Каця, паедзеш?

— Ай, Мацвеечка, куды ж я паеду? — уздыхнула маці.— А хто ў печы будзе паліць?

— Прыедзем, тады і зварыш нешта. Перажывём.

— Не, едзьце вы. Купі во хлопцам якую-небудзь апратку. Гарлачык паліваны. А то наш трэснуў. Ці турлік які для малака... Ды і «купіла» ж у цябе невялікае...

— Ну, троху ж з Васькам зарабілі, калі дошкі пілавалі. Нешта купім,— бацька выйшаў з хаты на двор, дзе ўжо стаялі калёсы.

Андрэйка бачыў у акно, як бацька вынес з-за хлява чорную дзягцярку, з якой тырчаў тоўсты квач, і пачаў мазаць каланіцаю восі. Хлапчук хуценька шуснуў з хаты, узяўся выцягваць загваздкі з колаў. Бацька ўхвальна кіўнуў, падняў калёсы з аднаго боку, ссунуў кола на самы край драўлянай восі і пачаў густа мазаць маслена-чорным дзёгцем. Малы Сахута любіў пах дзёгцю. У ім чуўся водар смалы, гаркавы дымок ад хваёвых шышак, калі яны гараць у кастры, востры пах шкіпінару, якім некалі яго націрала маці.

— Ну вось, цяперыцька калёсы не будуць скрыгатаць,— задаволена сказаў бацька.— І каню лягчэй будзе. Храноўскі той хазяін, у якога калёсы скрыгочуць на ўсё сяло...

Выехалі, як толькі ўзышло сонца. Бацька сядзеў з правага боку, спераду, Васька злева, а Марына і Андрэйка ззаду. Марына накрыла босыя Андрэйкавы ногі і свае калені дзяружкаю, бацька ўскінуў на плечы жаўтлява-шэры армяк з башлыком, бо раніца была золкая, з лёгкім туманцом, Ваську падсунуў старую ватоўку, каб напрануў, але той сцепануў шырокімі маладымі плячамі ў нязменным «немчуроўскім» кіцелі, нацягнуў ніжэй на лоб палінялую за лета кепку-шасціклінку: «Мне цёпла»,— і адмовіўся надзець ватоўку.

Падмазаныя колы мякка, бясшумна каціліся па вясковай вуліцы. Андрэйка не ўгледзеў, як праехалі могілкі, леваруч віднеліся цёмна-зялёныя ад моху, якім параслі, паўночныя бакі парцюкоўскіх хат. Некаторыя дамы былі накрыты свежаю жаўтляваю дранкаю-дорам.

Па дарозе ішлі і ехалі людзі, бялелі хусткі маладзіц і цямнелі кепкі і картузы хлопцаў і мужчын. Як вясною ручаіны зліваюцца ў Бесядзь, так у гэтую раніцу з усіх бакоў ішлі ў Саковічы кірмашоўцы.

Андрэйка здаля ўглядаўся ў бліскучыя на сонцы купалы-цыбуліны саковіцкай царквы, якія ўсё набліжаліся, нібы выраслі. Збоч царквы прасторны местачковы пляц аж стракацеў ад людзей. Яшчэ на падыходзе да пляца каля платоў былі прывязаны каровы, на вазах у скрынках і мяшках верашчалі парсюкі. На другім баку плошчы стаялі машыны з адкінутымі бартамі — там ішоў бойкі гандаль. Грузавікі гэтыя прымчалі з Бранскай, Гомельскай і ажно з Чарнігаўскай абласцей, бо слава саковіцкіх кірмашоў грымела далёка, збіралі яны тысячы людзей.

Чаго тут толькі не было! Самых розных колераў мануфактура — аж вочы разбягаліся, маляўнічыя гарусы ў буйныя кветы, валёнкі і буркі, чаравікі і кірзачы, паліто і фуфайкі. І ўсюды — людзі, прынядзеленыя, прыбраныя ва ўсё лепшае, што ў каго мелася. Дзяўчаты і жанкі ў большасці былі басаножкі, але твары свяціліся радасцю.

Гамана стаяла вакол, смех, віскат парасят, рыканне кароў, і над усім гэтым лунала музыка. Андрэйка пачуў пявучыя гукі ліры. Іграў сляпы старац з Казельскага пасёлка, якога вяла за руку басаногая дзяўчынка. У кайстры сляпога музыкі ўжо нешта целяпалася — дарункі ўдзячных кірмашоўцаў.

Васька аглядаўся па баках, вітаўся з хлопцамі, а тут былі ягоныя знаёмцы і з Белай Гары, і з Зарэчча. Яму хацелася адкалоцца ад сваіх, ды пакуль жа нічога яшчэ не купілі.

— Вось пройдзем, агледзімся, а тады будзем купляць. Прыкмячайце, дзе што ёсць,— сказаў бацька.

Сахуты прайшлі амаль да царквы, дзе на ўзгорку на траве сытна ружавелі, залаціліся цёпла высокія выгінастыя збанкі, прысадзістыя макотры і турлікі, маленькія круглабокія кухлікі.

— Посуду хапае,— сказаў бацька Марыне,— можна сёе-тое выбраць. Пайшлі боты паглядзім, штаны хлопцам...

Бацька звяртаўся перш за ўсё да Марыны, бо разлічваў і на яе капейчыну, калі не хопіць ягонай кішэні.

Каля машыны, дзе прадавалі абутак, тоўпіліся людзі. Прадавец, малады хударлявы мужчына, круціўся ва ўсе бакі, а жанчына, што стаяла за ім, больш назірала, каб хто, прымераўшы абутак, не сігануў у натоўп, забыўшыся расплаціцца. Кірзачы Ваську купілі хутка. Ён прымераў, тупнуў, расчырванелы, усхваляваны.

— Якраз на мяне, тата. Бярэм. А то мае чаравікі ўжо даўно разінулі рот... Я б хоць тут у ботах пахадзіў. Пайду на возе пераабуюся...

Андрэйка зірнуў на братавы чаравікі з белымі мысамі ад расы і зразумеў, чаму ягоны брат не скакаў у клубе...

Усхваляваны Васька, які адразу стаў вышэй ростам, горда агледзеўся вакол, шчасліва і ўдзячна ўсміхнуўся Марыне, тузануў за віхор Андрэйку, прытупнуў, нібы пад Міколаў гармонік. У ягонай душы была свая музыка — душа спявала ад радасці: у яго такія шыкоўныя боты!

На суседняй машыне прадавалі адзенне — касцюмы, штаны, кашулі.

— Марына, можа б табе на восень купіць гэтыя боцікі бліскучыя? Хадзіла б, як пані,— бацька паказаў на гумовыя боцікі, што стаялі ў кутку на машыне.

— А можа, табе галіхве купім? — пачала Марына, хоць па ўсім было відно, як хочацца ёй мець такія боцікі.

— Спярша купім табе, а тады паглядзім. Дайце нам тыя боцікі прымераць,— папрасіў бацька.

Боцікі аказаліся трошкі велікаватымі, Марына засумнявалася, бацька пераканаў, што гэта добра, можна цёплыя ваўняныя шкарпэткі надзець, цяплей будзе. Цяпер ужо Марына стрымана радавалася сваёй пакупцы. Неўзабаве і Андрэйка прымерваў новыя штонікі, цёмна-шэрыя, у палоску, былі яны трохі даўгаватыя, але яго ўгаварылі, што лепей купляць навырост. Малы баяўся, што бацька передумае і не купіць яму ніякіх штаноў, калі гэтыя не падыдуць. Купілі штаны і сінюю кашулю Ваську. Бацька паглядзеў яшчэ раз на галіфэ і тут жа рашуча адвярнуўся.

— Пойдзем, купім гарлач, а ў яго мёду...

Андрэйка ледзь не падскочыў ад радасці — будзе ў іх цэлы гарлач мёду. Гамана вакол гусцела, мацней чулася музыка. Васька з Андрэйкам пакіравалі да воза, каб надзець новыя пакупкі. Уладкаваўшыся на возе, Васька абуў новыя боты, зняў абрыдлы «немчуроўскі» кіцель, надзеў кашулю, а штаны ўсцягнуць новыя пасароме́ўся, ды і шкода было іх адразу камячыць у халявах ботаў. Затое Андрэйка прыгнуўся за калёсамі і ўлез у новыя порткі. Унізе іх давялося падкасаць, але гэтая дробязь не магла азмрочыць радасці. Ды і ўсё вакол радавала: сонца, святочна апранутыя людзі, музыка...

Кірмаш мацнеў, набіраў сілу, уцягваў у свой



вір усё болей людзей. Андрэйка ішоў побач з братам, які свяціўся ад новых рэчаў: ад таніх хвацкіх кірзачоў і новай сіняй кашулі. Ішлі браты на голас Міколавай гармоні і звон хатыніцкага бубна. Неўзабаве яны ўбачылі Міколу, разлахмачаны ветрам ягоны чуб жаўцеў здаля. Віцька малаціў у бубен з усяе моцы, і той звінеў і заліваўся на ўсё мястэчка.

Васька неўзабаве завалодаў бубнам, бо Віцька ўжо нацешыўся. Малы Сахута ўспомніў, што бацька паабяцаў купіць мёду, выправіўся яго шукаць. Бацьку і Марыну ён убачыў каля бочак, дзе было густа людзей, якія пілі нешта ценістае, жоўта-рудое. Бацька піў з кухля, а Марына са шклянкі.

— Андрэйка, хадзі сюды,— паклікаў бацька.— Вось мой малодшы,—сказаў ён, звяртаючыся да двух мужчын, якія стаялі побач з ім.

— А, здароў, Андрэй Мацвеевіч! — высокі мужчына з кульбаю падаў хлапчуку шырокую вялікую далонь.— У які ты клас перайшоў?

— У пяты,— ціха сказаў Андрэйка і дадаў: — У Белую Гару буду хадзіць.

— Малайчына, Андрэйка,— ласкава сказала смуглявая незнаёмка.— Вялікі ўжо! Ты не помніш мяне? Мы заходзілі да вас с Ганнай Мікітаўнай. Мы тады падарункі франтавікам збіралі. А ты сядзеў на печы і з-за коміна крыкнуў, што будзеш вучыцца толькі на пяцёркі. Помніш?

— Помню. Вы яшчэ сказалі матцы нашай: «Дзякуй вам ад усяе Чырвонай Арміі»,— смела адказаў хлапчук.

— Суду усё ясна,— прыемным басавітым голасам сказаў русявы мужчына.— Хлопец будзе пракурорам ці следчым. Памяць у яго добрая. Ды і смелы ён, адкрыта ў вочы пазірае.

У суддзі Васіленкі быў добры настрой. Ён радаваўся, што Ніна Гаўрыленка згадзілася паехаць з ім на кірмаш, а самае галоўнае, што яны неўзабаве пажэняцца. Ён глядзеў на сваю смуглявую прыгажуню, такую сур'ёзную і недаступную, і ўспамінаў, якая пяшчотная і ласкавая была яна мінулаю ноччу.

Мацвей Сахута піў халаднаватае піва, словы суддзі, сказаныя пра яго сына, былі яму, як маслам па душы. Ён вырашыў пачаставаць і Андрэйку. Хлапчук ніколі не каштаваў піва, каўтануў, зморшчыўся: гэтакае рэзкае, кісла-горкае было пітво, што сын аддаў яго назад бацьку. Ніна Гаўрыленка падала яму шклянку ружаватай, з фіялетавым адценнем, як разведзенае чарніла, вадзіцы, сказала, што гэта — морс, яго любяць усе дзеці. Халаднаваты, прыемна саладкавы морс спадабаўся хлапчуку.

— Даўно ты, Касьянавіч, не быў у Хатынічах. Аб'ядналіся мы з Вішнямі і Казельскім пасёлкам,— расказваў бацька высокаму з кульбаю мужчыну.

Андрэйка ўспомніў, што гэта Даўгалёў, з іхняй вёскі, што ён прыязджаў, калі адкрывалі калгасную лазню, парыліся ў ёй першы раз. У тое лета скончылася вайна.

З натоўпу вынырнулі Данька і Паўлік, паклікалі Андрэйку. Бацька кіўнуў яму, і ўзрадаваны, шчаслівы хлапчук у новых штоніках памчаў з сябрукамі.

Кірмаш усё болей падвясельваўся, бо сёй-той ужо глынуў не толькі піва. І ўчастковы Бравусаў нюхам чуў, што атмасфера напаўняецца весялосцю. Ён яшчэ ніжэй насунуў на лоб сваю прыгожую фуражку; вочы пільна пазіралі з-пад казырка, яны ўсё бачылі і ўсё разумелі. Кожны год прыязджаў ён на кірмаш, пакуль што надзвычайных здарэнняў тут не адбывалася, але ўсё можа быць. Сёлета людзей сабралася як ніколі. Ён ведаў, што ўлетку вяскоўцы ні гарэлкі, ні віна не п'юць: работы поўна, грошай няма, збожжа няма, то і гаркухі выціснуць няма з чаго. І ўсё ж Бравусаў быў гатовы да любой неспадзяванкі.

Прыехаў на кірмаш і капітан Студзянцоў — для яго навіна, першы раз такое бачыць. З ім хадзіў цыбаты старшына Міхалёў, яны прымчалі на матацыкле, а Бравусаў, як заўсёды, на сваім коніку, якога прывязаў у цяньку ля бальніцы.

Неўзабаве да музыкі, густой вясёлай гаманы далучыліся звонкія прыпеўкі. На зялёным курганку збоч царквы Мікола рэзаў на гармоніку, Віцька адчайна стукаў у бубен, маладыя жанчыны скакалі і гучна спявалі прыпеўкі. У шчыльным натоўпе, які абкружаў весялух, быў і Андрэйка з сябрукамі, віднелася фуражка Бравусава. Гледачы падбадзёрвалі танцорак, і тыя стараліся ад усяе душы. Да іх выйшаў на падмогу немалады ўжо мужчына, тэпаў, шырока расстаўляючы ногі, лупцаваў далонямі па халявах старых запыленых кірзачоў, хрыплым голасам гучна спяваў:

**А бабачкі, я ўвесь ваш,**
**Паехалі на кірмаш,**
**А з кірмашу ды дадому,**
**Ды ў ячную салому...**

Сонца звярнула з паўдня, калі Марына адшукала Андрэйку і павяла яго да воза. Бацька запрагаў каня, укладваў шчыльней усё на возе. Нарэшце адшукаўся Васька, і Сахуты паехалі дамоў.

А кірмаш яшчэ гаманіў, спяваў, весяліўся, купляў і прадаваў. Тут яшчэ ўладарылі два імкненні: прадаць даражэй, набыць як танней, а тым

часам багата кірмашоўцаў паварочвалі ўжо аглоблі дамоў.

Сахуты пад'язджалі да Хатынічаў, калі пачаўся дождж. Марына з Андрэйкам схаваліся пад дзяружкаю, а бацька ахінуў сябе і старэйшага сына каляным суконным армяком.

Дождж неўзабаве скончыўся. Наперадзе праз усё неба ўспыхнула яркая, маляўнічая вясёлка. Андрэйка пазіраў на рудаватую грыву гнядой кабылкі, бачыў калючкі дзядоўніку, што ўблыталіся ў валассё, старэнькую нефарбаваную дугу, абслізганую рукамі і ветрам, абпаленую сонцам і часам,— яна збераглася яшчэ з даваенных гадоў. Хлапчук глядзеў на драўляную дугу, што зыбалася над галавою кабылкі, і на велізарную дзівосную дугу на небе. Між імі, гэтымі дугамі, упісвалася шырокае кургапістае поле з Бярозавым балотам і самотнаю кашлатаю сасною, стрэхі хатыніцкіх хат, удалечыні старыя бярозы на гасцінцы ў Белую Гару, па якім ён скора пойдзе ў пяты клас. Справа цямнеўся лес, паблісквала звілістая стужка Бесядзі, а яшчэ бліжэй высіліся купчастыя дрэвы над кладзішчам.

І нечакана жахлівая, балючая думка нібы апякла яго: а Колі ўжо няма на свеце пяць гадоў, а як бы ён радаваўся гэтай вясёлцы. І Пятрок іхні так і не вярнуўся з вайны; успомнілася бабуля Васіліса, як хавалі яе... Іх даўно няма, а ў прыродзе ўсё ідзе сваёю хадою, выпадае і растае снег, адлятаюць у вырай і вяртаюцца назад птушкі, успыхвае пасля дажджу і знікае вясёлка.

«Дождж перастае, таму і вясёлка знікае,— разважаў хлапчук.— Выпараецца вада. А людзі, мабыць, раставаюцца ў зямлі. Толькі застаюцца косці. Мы ходзім па касцях...— ён аж сцепануў плечукамі ад гэтай думкі.— Я толькі яшчэ ў пачатку етай вясёлкі. Расту, вучуся, караскаюся ўгору...»

Багата чаго разумеў ужо Андрэйка, але і зараз яшчэ болей, чым раней, здзіўляла яго агромністасць і таямнічасць свету, трагічнасць і прыгажосць жыцця.

— Добра, што дожджык кароткі. Пыл прыбіў і хопіць. Усё ж Ілля памачыўся ў Бесядзь,— бацька зняў армяк, махнуў пужкаю, кабылка весялей затрусіла па мяккай палявой дарозе.— Заўтра, Андрэй, пойдзеш каласкі збіраць. Жыта кончылі жаць. Як раса абсохне, так і пойдзеце. Усіх малых арганізуем. Усё ж нейкая падмога. А потым пусцім кароў на іржэўнік. Травы багата на палі...

— Жэўжык, не ўздумай у новых штанах бегчы на поле. Захочаш пахваліцца перад Манькай Хадорынай,— падсміхнуў Васька.

— Ён жа не такі, як ты. Едзеш і ўсё чобаты выстаўляеш, каб усе бачылі, што яны новыя,— упікнула брата Марына.

Цяпер усе засмяяліся, і Васька ўсміхаўся, ён не пакрыўдзіўся, бо гэта была чыстая праўда, ды дужа добры меў ён настрой, каб сапсаваць яго такім бяскрыўдным дакорам.

— От прыедзем дамоў, яшчэ можна ў грыбкі адскочыць. Пару кашоў прыцягнем, здадзім Гылігору, будуць грошы. Казлякоў поўна за Бабінаю гарой,— Ваську не цярпелася аддзячыць за ўсе свае абновы, бо галіфэ сабе бацька так і не купіў.

Андрэйку таксама захацелася ісці ў грыбы, згадзілася і Марына. Бацька ў грыбы хадзіў рэдка, хіба што восенню ў апенькі, тады ён браў мех і прыцягваў амаль паўнюткі.

На жаль, шчаслівыя дні заўсёды кароткія, прамільгнуў і гэты вясёлы кірмашова-грыбны дзень, хай сабе і яшчэ даволі даўгі. Чырвонае сонца, якое абяцала назаўтра вецер, заходзіла за Бярозавае балота, калі Андрэйка і Марына падышлі да берага Бесядзі; яны ўдваіх неслі кош грыбоў, услед тэпаў Васька, ён адзін нёс поўны кош казлякоў. Найбольш нарэзалі грыбоў у маладым хвойнічку, трапляліся там і жоўта-залацістыя лісічкі, смягла-карычневыя баравічкі, бралі і маладыя рознакаляровыя сыраежкі-капялюшкі.

Грыбавар дзед Гылігор, які разам з Самклідаю адкрыў на Бесядзі, непадалёку ад кузні, грыбаварню, найбольш прымаў маслякі, маладыя падбярозавікі, чырвонагаловыя падасінавікі, ахвотна браў сушаныя баравікі, але мала хто іх здаваў: бераглі на зіму, бо кінеш сушаны баравік у бульбу ці ў капусту — зусім іншы смак.

Каля Бесядзі Сахуты разуліся, Андрэйку давялося і штонікі зняць. Хлопцы перайшлі першымі, чакалі сястру на беразе, стаялі, не аглядваліся, ведалі, што Марыне давядзецца высока задзіраць спадніцу, бо вада ў рацэ прыбыла пасля дажджоў.

Далей тэпалі басанож. Васька нёс у руках старыя чаравікі. Андрэйка — клееныя-пераклееныя бахілкі, у якіх мякка было хадзіць па лесе, Марына несла старыя галёшы — новыя боцікі абуць у лес яна пашкадавала, надзела старэнькі пінжачок, палінялую спадніцу ў буйныя шэра-блакітныя кветы, на галаву белую хусцінку ў чырвоныя гарохі. Выглядала Марына стомленай, учора позна прыбегла з дзяжурства, сёння рана ўстала, а заўтра раніцай зноў пойдзе на работу за дваццаць кіламетраў.

Андрэйка цішком зірнуў на сястру і ўбачыў каля яе вачэй тоненькія зморшчынкі-павуцінкі, і нос на схуднелым твары неяк завастрыўся. Згадаў, як маці ўсё перажывае, што Марына не выходзіць замуж. Столькі хлопцаў і маладых мужчын было сёння на кірмашы ў Саковічах, а Марына кажа, што яе кавалеры палеглі на вайне. Запомніўся яму і танклявы русявы суддзя з дзявочым тварам і густым басістым голасам. «Можа, ён і праўду казаў... Трэба вучыцца на пракурора. Змагацца за справядлівасць. Каб усім было добра. Каб ніхто не плакаў. Каб ва ўсіх былі грошы, колькі каму трэба...»

Васька завёў гутарку, што сёння трэба перабраць грыбы, казлякі аблупіць, іх будзе цэлы кош і ён заўтра здасць іх Гылігору, астатнія грыбы трэба падсмажыць, каб уволю наесціся. Марына ўсміхнулася, але нічога не сказала.

Грыбнікі Сахуты выйшлі з завулка на дарогу і сутыкнуліся з Бравусавым, які ехаў з кірмашу. Калі народ разышоўся, а ніякага «чэпэ» не адбылося, старшыня Міхалёў пакаціў капітана Студзянцова ў раён на матацыкле, Бравусаў завітаў да знаёмага саковіцкага крамніка. Знайшлася ў таго пляшка віна, выпілі за ўдалы гандаль і за належны парадак на ўчастку інспектара міліцыі, і цяпер задаволены Бравусаў вяртаўся дадому, жонцы вёз гарус, дзяцям цукерак і мёду. Фуражка ягоная, як і заўсёды, была насунута нізка на лоб, бо вочы проста зліпаліся — гэтак хіліла ў сон, але ўбачыў Сахутаў, устрапянуўся, паправіў фуражку вышэй, павітаўся. Марыну ён бачыў на кірмашы здаля, а з Васькам і пагаварыў трохі, пацікавіўся, колькі каштуюць боты.

— Ну і малайцы, Сахуты! Хвакцічаскі, столькі грыбоў налаташылі,— здзівіўся ён.

— Хто дбае, той і мае. І мы ў шапку не спім, Уладзімір Усцінавіч,— адказала Марына, і ў голасе пачуўся ці то нейкі дакор, ці то выклік.

Бравусаў на хвіліну зніякавеў, няўцямна спытаў:

— А хто спіць? — і тут жа спахапіўся, павярнуўся да Васіля:— Дзе ж твае новыя чобаты? Не згубіў па дарозе?

— Чагой-та буду я губляць? Я ж не п'ю гарэлкі...

— Малаток, хвалю за чэснасць! — выскаліўся Бравусаў, сон з яго нібы рукой зняло.— Паехалі, Андрэйка, са мной. Школу паглядзіш. Пераначуеш у нас, а заўтра ўранні прыбяжыш дамоў. А то і прывезці магу...

— У мяне другое заданне,— важна, як дарослы, адказаў Андрэйка.— Заўтра будзем каласкі збіраць на полі. І ў калгас потым здадзім.

— Ну што ж, ета дзела сур'ёзнае... Бывайце здаровенькі,— сказаў Бравусаў, калі наблізіліся да хаты Сахутаў.

— Усяго вам добрага! — адказала Марына, адвярнулася і прыбавіла крок, нібы спяшалася хутчэй схавацца за веснічкамі.

Бравусаў сцёбнуў коніка з нечаканай злосцю, той жвава затрусіў, аж заёкала селязёнка-каса. За вёскаю ўчастковы расшпіліў кіцель, зняў фуражку, паслабіў рэмень з цяжкою кабурою, прылёг на бок і адразу заснуў. Прахапіўся ўжо ля Белай Гары, зашпіліў кіцель, адчуў сябе свежым і бадзёрым, нібы не было сёння вялікага напружанага дня. Ён ехаў па вясковай вуліцы, у прыцемках убачыў Марусю Лапчанкаву, якая ішла насустрач з вядром вады.

— Пашанцуе табе, Усцінавіч, з поўным стрыкаю,— пявучым, сцішаным голасам сказала Маруся. Высокая, зграбная, прамая, як дошка, усохлая за гады бязмужняга жыцця, яна яшчэ была прыгожая, бы восеньская кветка, якую прыхапіў зазімак, але калі прыгрэе сонца, то расцвіце яшчэ яркім апошнім хараством.

Бравусаў ведаў, што яна добра спявае, у дзявочыя гады была ці не самая галасістая дзеўка ў Белай Гары. Быў адзін маленькі недахоп: шчарбінка-свістун між пярэдніх зубоў, і таму яна трохі шапялявіла, заместа «ч» вымаўляла «ц». Участковаму нават падабалася, як яна гаварыла — Усцінавіц, была ў гэтым нейкая мілая прывабнасць.

— Мне, Маруся, заўсягды шанцуе,— азваўся Бравусаў.— Як табе жывецца?

— Ат, не пытайся. Жыву, як гарох пры дарозе... А ты ўсё міма ездзіш. Заехаў бы калі. Ці жонкі дужа баісся? — яна паставіла вядро, чамусьці паслабіла вузялок хусткі, нібы тая замінала дыхаць.

Спыніў каня і Бравусаў, азірнуўся, ці не цікуе хто за імі.

— Знаеш, Маруся, не баіцца воўк сабакі, а звягі не любіць... Так і я... Апроч шчыкоткі, хвакцічаскі, нічога не баюся,— выдаў сваю любімую прымаўку Бравусаў.

Пасля таго кур'ёзнага суда Маруся разы два пыталася ў яго, ці моцна сварыліся за тое, што ён выручыў яе. Ён жартам адказваў, што яго трохі паўшчувалі, запісалі вымову, а гэта яму — што пугай па вадзе. Яна запрашала ў госці, але заехаць неяк не выпадала. Сёння Бравусаў імгненна ацаніў сітуацыю: у хаце Марусіны дзеці, заходзіць няёмка, лепей другі варыянт...

— Ёсць адно дзела да цябе. Я сычас паварну на луг. Распрагу каня. Хай вады пап'е ў Бесядзі. Прыйдзі, пагамонім троху...

Ціхая ядраная жнівеньская ноч ахінула сваім нячутным крылом Прыбяседдзе. Прагна скуб расяную траву здарожаны конік. Бравусаў ляжаў на возе, адчуваючы босымі нагамі цёплыя пяшчотна-шурпатыя Марусіны лыткі. Маруся гладзіла яго валасы, гладзіла асцярожна, нерашуча, быццам рабіла гэта ўпершыню, быццам і не мела мужа, не раджала дзяцей. І цалавала нясмела, ледзьве датыкалася мяккімі сухімі вуснамі. На галаве ў яе была ягоная фуражка казырком назад, каб не замінала.

Здаволены Бравусаў ляніва адказваў на яе пацалункі і раптам успомніў Якава Рацэева, таго салдата, якога хацеў застрэліць, нават узяў на мушку ў часе атакі, але яго апярэдзіла нямецкая куля — Рацэеў упаў, а потым у тое месца бухнуў снарад. Апошнім часам Рацэеў згадваўся, усплываў у памяці рэдка, але вось сёння — на табе. Падумалася, што недзе жыве яго жонка-ўдава, а мо яна зноў выйшла замуж, пра былога мужа і думаць забыла... Успомнілася Зінаіда, згадалася тая незабыўная ноч, калі выходзіў з акружэння. Маладая ўдава Зінаіда — муж, як пайшоў на фінскую, так і не бачыла яго болей,— абмыла, накарміла, дала чарку і на світанні цалавала так, як ніводная жанчына раней яго не лашчыла... Успомнілася Марына Сахута, якая не прыняла яго кахання, мабыць, і не зведала ніколі мужчынскае ласкі... «А ўсё ж вайна праклятая... Каб не яна, Зінаіда, Маруся мелі б сваіх мужыкоў... Марына Сахута выйшла б за хлопца, якога кахала. А кім бы я стаў?» — мільганула нечаканая думка. Ён, Бравусаў, звычайны, малаадукаваны вясковы хлопец, кім бы ён стаў, каб не вайна? Пастух, рабочы на заводзе. А мо за навуку ўзяўся б? Ён жа не дурань, зараз вунь участковы інспектар, лейтэнант міліцыі...

— Неста ты маўцыс, Усцінавіц? — пацёрлася сваёй шчакой аб ягоную Марыся.

Перад вачамі Бравусава зноў паўстала Зінаіда, і ён, паранены, ледзь жывы, абдымае яе на світанні, калі трохі адаспаўся, падужэў. Хваля вялікай удзячнасці той жанчыне, адчуванне віны перад жонкай, якую так рэдка мілуе, накацілі на яго. Ён моцна прыхінуў да сябе Марусю, пачаў прагна і горача цалаваць. Потым прыўзняўся, нібы нечага спалохаўся, пакорпаўся ў сваім партфелі і падаў Марусі мяккі халадняваты пакунак.

— Вазьмі... Ета гарус... табе.

— Ты сто, Валодзецка? Ты ж купляў не для мяне... Не вазьму.

— Бяры, дурніца,— грубавата сказаў Бравусаў і закрыў ёй рот прагнымі губамі.

Яркія бухматыя жнівеньскія зоры мігцелі, быццам падміргвалі ў небе. На возе сядзела жанчына ў квяцістым гарусе, мужчына ў новай міліцэйскай фуражцы. Было ўжо за поўнач. Над вёскай дружна і звонка грымнулі пеўні. У гэтым хоры чуліся і хрыплаватыя надужных яшчэ галасы маладых певуноў. Раптам успыхнула зорка-знічка, прачарціла залатую сцежачку і знікла. Бравусаў пазіраў, як падала зорка, абдымаў за плечы сціхшую Марусю, і яму захацелася плакаць...

Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.

РЭЦЭНЗУЕМ

# «МОЙ ЧАС — ВАСТРЫЁ»

Два гады назад я ўпершыню наведала Полацк. І нават ведаючы цяжкія экалагічныя ўмовы ў гэтым горадзе, я ўсё ж крыху зайздрошчу палачанам. Зайздрошчу іх штодзённай далучанасці да гісторыі. Бо менавіта тут, у Полацку, сівая мінуўшчына, нягледзячы на ўсе разрухі апошніх дзесяцігоддзяў, не адышла ў нябыт — яна жыве і ў сучасным абліччы горада. Тут сцены старажытных храмаў памятаюць воблікі славутых полацкіх князёў, а вулачкі зберагаюць сляды Францішка Скарыны...

Вучоныя падлічылі, што кожны з нас на зямлі мае каля васьмі мільярдаў продкаў. А гэта значыць, што ў родзе кожнага з нас былі праведнікі і зладзеі, ваяводы і смерды... Яны будавалі і разбуралі, аддавалі жыццё за вольнасць і прадаваліся за грошы... І яны перадалі нам, сённяшнім, кроплю сваёй грэшнай ці праведнай крыві, сваю памяць і свой вопыт, якія, можа, існуюць у нашых душах на інтуітыўным узроўні. І вельмі верагодна, што жывуць і сёння ў старажытным Полацку людзі, нашчадкі тых, хто будаваў велічныя храмы, сцены якіх многае могуць расказаць пра мінулае.

Як ні дзіўна, у век найбольшага нашага набліжэння да сусвету, калі мы, зямляне, адчуваем сябе маленькай пясчынкай у нязведаным акіяне яго жыцця, імкнучыся спазнаць таямніцы космасу, неспазнанай старонкай, terra incognita, паўстае перад намі не толькі нашая будучыня, але і наша мінулае. І жыццё нашых продкаў такое ж невядомае нам, як і жыццё прадстаўнікоў незямных цывілізацый.

Есць тэорыі, паводле якіх духоўная энергія, здабыткі чалавечай свядомасці не знікаюць бясследна са смерцю таго ці іншага чалавека. Яны працягваюць існаваць у выглядзе так званай касмічнай свядомасці. І таму ёсць усе падставы меркаваць, што вольналюбівы асветніцкі дух старажытнага Полацка яшчэ не раз увасобіцца ў вобліку сучаснага ці будучага яго жыхара.

Старонкі гісторыі адкрываюцца не кожнаму. І, відаць, не выпадкова менавіта палачанін Уладзімір Арлоў пераняў з рук Уладзіміра Караткевіча паходню, што асвятляе лёхі нашай гісторыі... Імя Уладзіміра Арлова вядома сёння і за межамі нашай рэспублікі. І не толькі дзякуючы яго мастацкім творам (пісьменнік яшчэ на пачатку свайго творчага шляху, ад яго можна чакаць значна большага), але ў многім дзякуючы яго паслядоўнай і мужнай грамадзянскай пазіцыі.

У новай кнізе У. Арлова — «Дзень, калі ўпала страла» — ёсць апавяданне, якое называецца «Кроніка Лаўрына Баршчэўскага». Там распавядаецца пра жыццё і лёс бакалаўра ў навуках, вывезенага са славутага месца Віцебскага, Лаўрына Баршчэўскага, які распачаў сваю «Кроніку» на чужыне, у далёкай Чэхіі, дзе змагаліся разам з гусітамі і беларускія ваяры. Дзеля чаго піша Лаўрын свой рукапіс? «...Пішу я не дзеля славы і падзякі,— кажа ён,— бо, думаючы пра ўдзячнасць чалавечую, прыгадваю нейкую жабрачку, што падклала апошнюю вязку дроў у вогнішча, узышоў на якое пакутнік Ян Гус. Пішу дзеля таго, каб ведалі свайчакі і адназемцы мае, што не выракся я роднае зямлі, і тыя, што пайшлі разам са мною біцца за божую справу і вавалі многія леты і склалі на чужыне галовы свае, таксама бацькоўскае зямлі не выракліся і вялікую тугу па ёй мелі».

І міжволі думаецца аб тым, што і сучасны пісьменнік, як, дарэчы, і пацвердзілі падзеі апошняга часу, не надта можа спадзявацца на ўдзячнасць сучаснікаў. Знойдуцца і ў наш час людзі, якія ў духоўнай слепаце сваёй падкінуць апошняе палена ў вогнішча, на якім будуць спальваць сучаснага праведніка. Але, паводле хрысціянскіх легенд і паданняў, настане дзень, калі абрынуцца вогненныя стрэлы на ўсіх грэшнікаў і ўваскрэснуць тыя, хто пакутаваў і паміраў за дабро. У гэта свята верылі нашыя продкі. І, можа, гэтая вера дапамагла ім выжыць і захаваць у сваіх сэрцах дабро, якое і павінна сёння ўратаваць свет.

Такім чынам, страла — гэта пачатак новага часу, гэта боль, але разам з тым і ачышчэнне. І, можа, не выпадкова дзве з лепшых кніжак мінулага года маюць у назве сваёй гэтае слова: «Вастрыё стралы» Алеся Разанава і «Дзень, калі ўпала страла» Уладзіміра Арлова.

Кажуць, што пісьменнік пачынаецца з першага радка, а кніжка, мабыць, з назвы. У аповесці У. Арлова, што і дала назву ўсёй кнізе, праведная вайна з крыжацкім нашэсцем, якую павінен быў узначаліць полацкі князь Уладзімір, так і не распачалася. Ворагі атруцілі князя, і ён памёр у першы дзень свайго паходу. Аднак прыйшоў дзень, калі страла, узнятая князем Уладзімірам, здагнала захопнікаў пад знакамітым Грунвальдам.

Героі новай кнігі У. Арлова ў пераважнай большасці рэальныя гістарычныя асобы. Акрамя згаданага ўжо князя Уладзіміра, на старонках аповесці «Час чумы» мы пазнаёмімся з рымскім перыядам жыцця Мікалая Гусоўскага, славутага аўтара «Песні пра зубра». У апавяданнях «Далёка да вясны» і «Пакуль не згасла свечка» перад намі пройдуць апошнія хвіліны з жыцця нашых славутых землякоў — двух змагароў, двух Аляксандраў: Грынявіцкага і Незабытоўскага. І нават героі лепшага, на маю думку, у зборніку апавядання — «Пяць мужчын у лесніцоўцы», якое прысвечана падзеям 1863 года,— не выдуманыя асобы. Аднак не гэта галоўнае ў мастацкім творы; нават, калі гэта твор гістарычны. Бо і там, дзе У. Арлоў дае волю сваёй фантазіі і ўводзіць выдуманых персанажаў,— пачуццё гістарычнай праўдзівасці і верагоднасці не знікае. Настолькі свабодна і па-майстэрску пісьменнік выкарыстоўвае гістарычныя факты, настолькі свабодна і натуральна адчувае сябе ў тым гістарычным часе, пра які піша. І гэтая добрая арыентацыя ў сацыяльна-эканамічных, культурных, навукова-філасофскіх, урэшце бытавых рэаліях таго часу ў выніку прыводзіць да сапраўдных мастацкіх знаходак. І ў тканіне мастацкага твора У. Арлова нам ужо цяжка адрозніць, хто з герояў — аўтарская выдумка, а хто — рэальная гістарычная асоба.

Відаць, наўрад ці хто з чытачоў набярэцца цярпення, каб самому даведацца, якое адзенне насілі, у якіх дамах жылі нашыя пра-пра-пра... дзеды, як яны выхоўвалі сваіх дзяцей, чым гандлявалі, што куплялі, якія кніжкі чыталі, у якія прыкметы верылі... І таму, здавалася б, дробязныя дэталі — пярсцёнак з велізарным каменем, які абясшкоджвае атруту, трактат Катарыны Сфорца «Як стаць прыгожай», які чыталі ў сярэдневяковай Еўропы ўсе знатныя дамы Еўропы, вусцішная кніга «Молат ведзьмаў», што давала рэкамендацыі, як выяўляць д'ябалавых жонак,— робяць аўтарскі расказ жывым і праўдзівым. Пісьменніцкая фантазія так пераплятаецца з тагачаснай рэчаіснасцю, што чытачу не разгадаць, дзе пачынаецца адно і заканчваецца другое. Так, як да прыкладу, у апавяданні «Маўклівы маналог», дзе чытач толькі дзякуючы самому аўтару даведаецца, што герой і апавядальнік пра часы мінулыя і сучасныя — драўляная скульптура святога Пётры.

Многа жахлівых рэалій мінулага ёсць на старонках твораў У. Арлова. Нялёгка чытаць, як у сярэдневяковай манахі катавалі так званых служак д'ябла ці, як тапілі ў Дзвіне палачане вінаватых і бязвінных людзей, як гінулі ад чумы ці ў бітвах з вераломным ворагам. І гістарычна так склалася, што лёсы герояў У. Арлова сапраўды былі трагічнымі. Але пасля прачытання кнігі няма адчування безвыходнасці. Бо над усім змрочным і жахлівым у творах празаіка пераважае чалавечая міласэрнасць і дабрыня. А яшчэ і спагадлівая, някідкая аўтарская ўсмешка. Так, у аповесці «Дзень, калі ўпала страла» раз'ятраны натоўп жорстка распраўляецца з варожымі выведнікамі і тут жа з дзіцячай непасрэднасцю радуецца ўратаванню пеўня, якога нясе на крызе Дзвіна. У апавяданні «Пяць мужчын у лесніцоўцы» камандзір паўстанцкага атрада Тапор адпускае на волю палоннага ворага, які па іроніі лёсу паходзіць з полацкае шляхты і змагаецца супраць свайго народа на баку вялікадзяржаўнага войска...

Любоў да роднай зямлі, змаганне за яе лепшую долю, урэшце цяжкі шлях многіх герояў да ўсведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці робяць кнігу У. Арлова надзіва сучаснай. Пад чужым сцягам і за чужыя інтарэсы змагаюцца Аляксандр Незабытоўскі і Аляксандр Грынявіцкі, як у нейкай ступені і паўстанцы 1863 года, і беларускія ваяры пад час гусіцкага руху ў Чэхіі. Пра родны край, але чужою мовою піша свае творы Мікалай Гусоўскі. Гэта трагедыя не толькі асобных людзей, у першую чаргу — гэта трагедыя Бацькаўшчыны. Тыя складаныя працэсы, што прадвызначылі нацыянальную індыферэнтнасць, апатыю і абыякавасць многіх нашых суайчыннікаў, распачаліся даўно. І пісьменнік імкнецца спазнаць іх вытокі. Магчыма, гэта не толькі вынік гістарычнага лёсу краю, але і ўплыў пэўных рыс нацыянальнага характару. Бо трагедыя беларусаў не толькі ў тым, што яны часцей за ўсё змагаліся за чужыя інтарэсы, але і ў тым, што часам яны выступалі супраць сваіх жа суайчыннікаў, на баку ворагаў сваёй радзімы.

Каб зразумець, калі і з чаго ўсё гэта пачыналася, трэба заглыбіцца ў гісторыю. І ў кнізе У. Арлова цікавасць да гэтага пытання адчувальная. На парозе смерці вяртаюцца да сваіх вытокаў і ўспамінаюць родныя карані Незабытоўскі і Грынявіцкі. Канечне: можна і не паверыць аўтару, што так было сапраўды. І ўсё ж гэта вельмі верагодна, хоць памастацку, на маю думку, і менш пераканальна. Аднак важней тое, што гэтыя тэндэнцыі адпавядаюць памкненням многіх нашых сучаснікаў. І верыцца, што цяжкі і складаны шлях да ўсведамлення сваёй беларускасці, які сапраўды прайшлі многія з нашых адраджэнцаў, яшчэ будзе адлюстраваны на старонках новых твораў У. Арлова ва ўсёй мастацкай і жыццёвай пераканальнасці.

**Галіна ТЫЧКА.**

Становішча катэгорыі тэатральных людзей, што вызначана як «маладыя», разглядалася ўжо неаднойчы — «усебакова», «з традыцыйнага пункту гледжання» (ці падгледжанае крывым вокам), але амаль абавязкова з бадзёрым фіналам, маўляў, маладыя, усё яшчэ наперадзе... Надаць пэўнасць праблеме пагадзіўся намеснік міністра культуры БССР Уладзімір Пятровіч **РЫЛАТКА**, з якім гутарыць тэатральны крытык Жанна **ЛАШКЕВІЧ**.

# КАЛІ Ж БЫЦЬ МАЛАДЫМ?



**У. РЫЛАТКА:** — Перш-наперш мушу зазначыць, што катэгорыя так званых маладых — расплывістая, а разам з тым іх праблемы я б назваў спецыфічна маладзёжнымі. Побытавая неўладкаванасць — няма аніякага жытла, нават інтэрнацкага, а кошт пражывання на кватэры перавысіў ужо суму ў семдзесят рублёў штомесяц, не хапае месц у дзіцячых дашкольных установах, да прыкрасці «ніякая» заработная плата (бывае, малады акцёр атрымлівае 80 рублёў у месяц), пэўная бесперспектыўнасць амаль усіх грамадскіх і творчых пачынанняў (праблемы з творчымі камандзіроўкамі, творчай вучобай, стажыроўкамі)... Прынамсі, гэта не толькі маладзёжныя праблемы, а, хутчэй, усеагульныя, саюзныя...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ:** — Так, Уладзімір Пятровіч, але злучыце гэтыя агульналюдскія нястачы з неспадзеўкамі прафесійнымі: амаль няма рэжысёраў-педагогаў, бракуе рэжысёраў-пастаноўшчыкаў, зусім не вядзецца так званых заняткаў па прафесіі — пластыцы, сцэнічным руху, мове, спевах; тэатральны рэпертуар ніяк не стасуецца з запатрабаваннямі і творчым імпэтам маладзёжнае часткі трупы (а гэта — занятасць у рэпертуары і зарплата); у сталічных тэатрах маладыя часцей удасканальваюць свой талент у масоўцы, а ў абласных не маюць часу як мае быць агледзецца ў новай ролі нават пасля прэм'еры, бо «старыя» ролі эксплуатуюцца «да дзірак»...

**У. Р.:** — І ўсё-ткі я аддаю перавагу звесткам больш канкрэтным — калі, што, у якім тэатры...

**Ж. Л.:** — З дапамогаю старшыні камісіі СТД БССР па рабоце з творчай моладдзю Валерыя Маслюка, галоўнага рэжысёра Рускага тэатра БССР імя Горкага, можна і дакладна ўявіць, што ж адбываецца ў кожным тэатры рэспублікі (сваю справаздачу Маслюк зачытваў на адным з нядаўніх пленумаў СТД). Выявілася, што ў найбольш зайздросным становішчы з усіх маладых тэатральных творцаў Беларусі знаходзяцца прадстаўнікі балетнага цэха ДАВТа БССР. Усе маладыя пачынаюць з кардэбалету і маюць тэарэтычна роўныя шанцы «выгадавацца» ў салісты. Усе салісты пачынаюць з невялічкіх партый, пры гэтым ужо ў першыя гады працы самым здольным даручаюць і вялікія сольныя партыі. З першага красавіка мінулага года ў балетным цэху з фонду эканоміі зарплаты выплачваецца надбаўкі ў залежнасці ад каэфіцыента працоўнага ўдзелу. Больш таго: распрацавана дакладная сістэма якасці, якая выключае асабістыя прыхільнасці ці непрыхільнасці ў размеркаванні памераў прэмій. Пасля ўвядзення надбавак імгненна скарацілася колькасць лістоў захворвання. І, самае галоўнае, як падкрэсліваюць самі танцоўшчыкі, балетны цэх узначальвае сапраўдны творчы лідэр са сваёю адметнаю мастацкаю праграмаю. Але праўда і тое, што балет — мастацтва маладых. Пры ўсім жаданні там немагчыма аддаць ролю Рамэо акцёру пяцідзесяці гадоў і сцвярджаць, што Рамэо — узроставая роля... (Я цытую рэплікі гераіні адной з п'ес Л. Петрушэўскай.)

**У. Р.:** — А зараз вы скажаце, што адно з самых незайздросных становішчаў моладзі ў хоры таго самага ДАВТа? Так, пры самай маленькай зарплаце сярод харыстаў рэспублікі ў іх штораз надараецца па два выклікі на працу ў дзень; харысты мусяць быць акцёрамі, але спецыяльных заняткаў па майстэрству рэжысёр з імі не праводзіць.

**Ж. Л.:** — І ў выніку — пастаянная недаўкамплектаванасць хору тэатра.

**У. Р.:** — Але зараз мы пайшлі на пагадненне з англічанамі, падпісалі кантракты, паводле якіх некалькі нашых маладых салістаў будуць падрыхтоўвацца да сваёй будучай зорнай (так, так, палітыка англічан — зрабіць з добрага перспектыўнага спевака зорку) дзейнасці ў Ковент-гардэне (Лондан). Гэта нам абяцае і мастацкія здабыткі (прынамсі, добрую падрыхтоўку сапраўднага прафесіянала, які хутка развучвае партыю, спявае яе на мове арыгінала і г. д.), і грошы, дакладней, валюту. Вось і лічыце, што на сёння больш выгадна.

**Ж. Л.:** — Што ж, Уладзімір Пятровіч, выхад нашых спевакоў на вялікія сцэны — вялікі гонар, але хто застаецца ў нас? Вядома, оперным артыстам будзе дадзена магчымасць не проста «выбіцца ў людзі» і павучыцца ў людзей, але ж у рэспубліцы не адны спевакі.

**У. Р.:** — Драматычны тэатр Беларусі зараз перажывае сапраўдную драму. Даруйце каламбур. Перш за ўсё, у яго з'явіліся трывалыя канкурэнты ў выглядзе тэатраў-студый (дзякуй часопісу «Беларусь», які адным з першых заўважыў іх), па-другое, узмацніліся самадзейнікі, некаторыя з якіх усур'ёз прэтэндуюць на званне прафесіяналаў. Станаўленне новых творчых калектываў мусіць быць натуральным працэсам, нельга яго ні паскорыць, ні прыспешыць, але на пэўным этапе іх павінна падтрымаць дзяржава. Як гэта цяпер робіцца ў дачыненні да тэатраў Мазыра і Слоніма.

**Ж. Л.:** — З самадзейнікаў — на прафесійныя падмосткі? Навошта? У нас жа прафесійныя акцёры бадзяюцца без працы...

**У. Р.:** — Калі ў нас будуць адны сталічныя трупы, дык тэатральная культура насельніцтва застанецца толькі ў марах. Самае галоўнае — трэба адмовіцца ад ідэалістычнага ўяўлення пра тое, што можна ўзвесці будынак, пасадзіць туды людзей і, назваўшы стварэнне тэатрам, сапраўды яго займець. А што да самадзейнікаў, дык, ведаеце, у нас зусім не так многа добрых творчых кадраў, як могуць падаць беспрацоўныя акцёры. Мне здаецца, што далёка не кожны з іх заслугоўвае сцэны, хоць, калі быць шчырым, бывае, марнуюцца і сапраўдныя таленты.

**Ж. Л.:** — Ледзь не на кожным кроку друк паведамляе аб крытычным становішчы з рэжысёрскімі кадрамі ў рэспубліцы. Рэжысёраў запрашаюць да нас ледзь не з Цьмутаракані, спадзеючыся, што цьмутараканцы створаць нам адметны нацыянальны тэатр, а свае «кадры» губляюць. Так, да прыкладу, леташні выпуск рэжысёраў БДТМІ цалкам застаўся без працы.

**У. Р.:** — Сапраўды, з-за былых кадравых памылак ёсць небяспека згубіць гэтых маладых людзей у бясконцай прасторы Саюза. Менавіта для іх патрэб пры СТД створаны тэатр-студыя «Шанц», дзе шмат хто з іх зможа ажыццявіць свае задумы. Але, як высветлілася ў хуткім часе, «Шанц», так сказаць, маламагутны. Таму мяркуем стварыць своеасаблівы тэатр-лабараторыю пры Палацы рэспублікі, які вось-вось дабудуецца ў самым цэнтры Мінска. Вядома, Палац не дасць працы ўсім, але сваіх рэжысёраў, сваіх акцёраў і мастакоў тэатр-лабараторыя будзе заўжды трымаць у полі зроку, падтрымліваць фінансава, даваць магчымасць не толькі эксперыментаваць у спектаклях, але хоць бы наладжваць чытанні п'ес, паказы-прагляды фрагментаў са спектакляў, эцюдаў і да т. п. Тэатральныя мастакі, нарэшце, займеюць нармальную магчымасць штосезон выстаўляцца, крытыкі — праглядаць і ацэньваць нават не ажыццёўленыя на сцэне работы.

**Ж. Л.:** — Уладзімір Пятровіч, вядома, што самае незайздроснае становішча ў абласных драматычных тэатраў. У Гомелі, да прыкладу, нядаўна змянілася творчае кіраўніцтва, тэатр урэшце набыў лідэра, рэжысёра Лідзію Манакову. Пры сваім тэатры яна стварыла студыю. Усе спецпрадметы будучыя акцёры вывучаюць у тэатры, а як быць з агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі? Ці будзе хоць як «залічвацца» гэтая адукацыя — людзі ж, фактычна, набываюць прафесію?

**У. Р.:** — Для студыі Лідзіі Манаковай у БДТМІ ўтвораны спецыяльны завочны курс. Па шляху такой спецыялізацыі пайшлі і ў Рускім тэатры БССР. Летась Валерый Маслюк спецыяльна для тэатра набраў акцёрска-рэжысёрскі курс, які і ўзначаліў. Сёлета такі ж курс плануецца набраць для Беларускага тэатра імя Янкі Купалы.

**Ж. Л.:** — Становішча тэатра ў Брэсце стала-благое і досыць тыповае для абласнога тэатра, які



Амаль на ўсіх гэтых здымках маладыя акцёры прывабна ўсміхаюцца, але не падумайце, што іх жыццё такое, як і ўсмешкі...

- «Дон Жуан» у Магілёўскім аблдрамтэатры. Мацюрына — Х. Хазіева.
  Фота Ж. ЛАШКЕВІЧ.

- «Усё пра Еву» ў Гродзенскім аблдрамтэатры. Ева — А. Літвіненка.
  Фота А. КАСАРСКАГА.

- «Пакуль не сцямнее» ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.
  Фота Я. КОКТЫША.

даўно ператварыўся ў вытворчае прадпрыемства, дзе загадчык пастановачнай часткі — ледзь не самы ўшанаваны член мастацкага савета. Акцёры з Брэста скардзяцца, што яны хутка забудуцца на ўсё, чаму іх навучалі ў інстытуце.

**У. Р.:** — Маладыя кадры ў берасцейцаў «цякуць скрозь пальцы», іншага вызначэння не падабраць. Адзінае, што ў стане зрабіць міністэрства — гэта штогод каго-небудзь з выпускнікоў туды пасылаць. Але прычыны, цяжкасці, ад якіх бягуць маладыя з Брэста, я ўжо пералічыў, а творчыя цяжкасці ўдакладнілі вы. Магчыма, нечым дапаможа СТД, але пакуль гарадскія ўлады не звернуць належную ўвагу на становішча свайго тэатра, прычакаць дзейсных змен будзе немагчыма. Няхай усіх натхніць прыклад віцябчан — яны мяркуюць стварыць у сябе дзіцячы музычны тэатр!

**Ж. Л.:** — Гэта ж можна сказаць і пра магілёўскае кіраўніцтва культураю, ці не так? Вядома, што Магілёўскі драмтэатр не адно пакутуе чацвёрты год без галоўнага рэжысёра. Ён не мае аніводнае гарантыі на трываласць столі сваёй старасвецкае будыніны, узведзенай яшчэ за апошнім расійскім царом... Аўтар праекта рэканструкцыі тэатра, трыццацішасцігадовы архітэктар, атрымаў інфаркт... пасля наведвання рэспубліканскіх органаў кіраўніцтва культурай і неўзабаве... памёр...

**У. Р.:** — Жахліва. Хоць Магілёўская вобласць і дамаглася ўвагі з боку ЦК КПБ, дзе ўжо двойчы ішла гаворка пра стан і становішча трох (разам з лялечным) тэатраў вобласці. У Магілёўскага тэатра, які займеў у вядучыя рэжысёры нядаўняга выпускніка БДТМІ Андрэя Гузія, адметная творчая перспектыва. Ён ажыццявіў на тамтэйшай сцэне ўжо пятую пастаноўку, ёсць спектаклі проста ўдалыя. Гузія вельмі ўпадабаў калектыў тэатра, што, пагадзіцеся, бывае толькі зрэдчас.

**Ж. Л.:** — Затое з Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча ўцякае моладзь — па вядомых прычынах. Сапраўды, у сталічным горадзе ёсць дзе зарабіць і падзарабіць акцёру (хоць бы ў тэатры-студыі, на філарманічным канцэрце, у кіно, на радыё і тэлебачанні), а ў абласным горадзе маладому хоць бы за кватэрны кут гаспадыні не застацца ў даўгу. Дарэчы, менавіта Валерый Маслюк прапанаваў: паколькі ў СТД цяпер ствараецца тэатральны фонд, дык ці не пагодзіцца кожны тэатр раз на год сыграць на ягоную карысць спектакль. З гэтых грошай можна было б некаторую суму (да 50 рублёў на чалавека) выдаткоўваць маладым, скажам, першыя тры гады пасля заканчэння інстытута дапамагаць ім аплачваць кватэру — каб зняць з чалавека хоць адзін побытавы клопат.

**У. Р.:** — А як жа быць з далікатным этычным... неўразуменнем: маладзён, не паспеўшы як мае быць папрацаваць, будзе атрымліваць не менш за сталага акцёра вышэйшае тарыфікацыі?

**Ж. Л.:** — Але ж гэта — толькі на першыя тры гады! Так сказаць, каб давесці ўласную мастакоўскую вартасць.

**У. Р.:** — Не ведаю, не ведаю... Хоць гэта — учынак вельмі гуманны. Аднак звярніце ўвагу яшчэ на адну акалічнасць. Ні статус, ні становішча нацыянальных тэатраў Беларусі ў асяродку тэатральных дзеячаў гучнага водгуку не выклікаюць.

**Ж. Л.:** — Так, на гэта ўжо даўно неаднойчы звярталі ўвагу і В. Маслюк, і А. Дудараў, і крытык В. Ракіцкі...

**У. Р.:** — Я згодзен з імі — для нацыянальных тэатраў у Беларусі мусяць існаваць прывілеі, і не абы-якія.

**Ж. Л.:** — Валерый Маслюк кажа, што наспеў час, які вымагае ад творцаў нацыянальнае культуры, даруйце, учэпістага нахабства, каб выбіць гэтыя прывілеі, бо гаворка ідзе пра духоўнае здароўе нацыі!

**У. Р.:** — Сапраўды, калі гэтым праблемам у самым хуткім часе не аддаць належнае ўвагі, дык ніхто не можа гарантаваць, што маладыя купалаўцы ці коласаўцы не падхопяць сумна вядомую ініцыятыву акцёраў Беларускага рэспубліканскага ТЮГа: маўляў, давайце іграць па-руску, бо інакш гледачы нас не разумеюць... Пры гэтым менавіта ў ТЮГу няма паслядоўнай і трывалай рэпертуарнай палітыкі, а на сцэне часцяком — непрафесійнасць, у тым ліку і няведанне беларускай мовы.

**Ж. Л.:** — Даруйце, Уладзімір Пятровіч, але як... з моваю ў Міністэрстве культуры БССР?

**У. Р.:** — Пакуль што палова міністэрства сядзіць, абклаўшыся слоўнікамі, але ёсць і тыя, хто можа пракансультаваць гэтую палову.

**Ж. Л.:** — Але што да тэатра, дык тэатр на беларускай мове яшчэ не будзе беларускім тэатрам...

**У. Р.:** — Натуральна. Дарэчы, мастацкая база нашых тэатраў сапраўды пакуль слабая. На дзвюх мовах адначасова, як думалася напачатку, акцёры працаваць не ў стане. Дый гэта проста шкодна для прафесіі. Справа — за творчымі лідэрамі, якіх у нас амаль няма. Нядаўні пленум СТД па нацыянальным тэатры разгледзеў шмат якія пытанні існавання беларускага тэатра. «Літаратура і мастацтва» надрукавала праект праграмы яго развіцця... Ад сябе хачу дадаць: два тэатры рэспублікі, хочам мы гэтага ці не, вызначаюць для тутэйшых дзеячаў практычна ўсё: крытэрыі ацэнак, майстэрства, прызнанне тэатральнага мастацтва, папулярнасць і г. д. Таму яны вымагаюць асаблівага клопату. Гэта — Купалаўскі і Коласаўскі тэатры. У пэўным сэнсе ім у межах рэспублікі наканаваны вечны поспех, але ці заўсёды яны вартыя гэтага поспеху?

**Ж. Л.:** — Вы хочаце сказаць, што гэтыя тэатры шмат у чым трымаюцца яшчэ на былых заслугах? Мо, іх зараз і называюць традыцыямі?

**У. Р.:** — Традыцыямі? Як толькі мы пачнём параўноўваць тэатр па часавай вертыкалі, дык хутка высветлім, што пэўная ступень развіцця тэатра ў краіне вызначала і развіццё беларускага тэатра. А што былі за часы, што быў за тэатр, зараз усім вядома... Хоць я асабіста перакананы ў геніяльнасці знакамітай купалаўскай плеяды. Але наколькі мы падрыхтаваны для ўспрымання свайго сучаснага тэатра? Трэба часцей глядзець на яго збоку, вачамі не менш як еўрапейца.

**Ж. Л.:** — Мы і... Еўропа? Адкуль вочы пазычаць?

**У. Р.:** — Толькі не кажыце, што нам зараз трэба дбаць выключна пра парашок для мыцця бялізны і дазіметры. Урэшце, і іх наяўнасць вызначае пэўная ступень культуры.

**Ж. Л.:** — А іх адсутнасць — ступень бескультур'я?

**У. Р.:** — Калі мы зараз зоймемся выключна імі, дык праз дваццаць гадоў школы трэба будзе пазачыняць, не тое што тэатры. Таму і пра кадры трэба клапаціцца. Да прыкладу, мы так і не стварылі Маладзёжны тэатр у Гродне. Але асноўная ідэя — стварыць там менавіта беларуск. тэатр засталася. Для яго, дарэчы, адзін рэжысёр ужо ёсць — Мар'я Пятроўская, якая цікава дэбютавала ў Бабруйску спектаклем паводле С. Мрожака.

**Ж. Л.:** — Што чакае ў «тэатральным сэнсе» нашы раённыя гарады?

**У. Р.:** — Не думаю, што стварыць у кожным з іх па тэатры — самае правільнае. Іх перспектыва — стварэнне шматфункцыянальных тэатральных будынкаў, якія змогуць прымаць і спектаклі, і канцэрты. Акрамя таго, сталічныя і абласныя тэатры пэўны час могуць працаваць там па дамоўленасці з гарадскімі ўладамі. Адно прыкра. З'явяцца такія будынкі не раней за 1991 год, а то і яшчэ пазней. Справа гэта новая, далікатная, ажыццяўляць яе, безумоўна, маладым, але, паўтаруся, я супраць штучнага падзелу на маладога і сталага ў тэатры. Мастацтва — адзінае. Дадам, што тэатральная культура павінна разглядацца ў комплексе, звязанаю з жыццём рэспублікі ці канкрэтнага яе рэгіёна. А не як раней (дазволю сабе перафразаваць Леніна): тэатр паігрывае, глядач паглядае, крытык папісвае... Беларускі тэатр — частка культуры Беларусі, таму і лёс ягоны, і лёс яго прадстаўнікоў, маладых і сталых,— лёс культуры Беларусі.

**Ж. Л.:** — Праўда, ён у яе пакуль незайздросны.

**Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



«Улюбёнец публікі» ў рэспубліканскім ТЮГу.
Фота В. САСНОЎСКАГА.

# ГЛЫБОКІЯ КАРАНІ

(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)

адгаворвалі брацъ за жонку простую сялянку, але ён, нягледзячы на значную розніцу ў гадах, усё-такі яе зрабіў гаспадыняй свайго маёнтка. Ужо пасля рэвалюцыі, калі пан памёр, жонка яно некуды з'ехала адсюль. Пэўна, няёмка ёй было заставацца сярод людзей сваіх. Але, кажуць, дагэтуль жыве дзесьці недалёка ад родных мясцін, бо нехта, быццам, нават сустракаў колькі гадоў назад яе ў Бабруйску.

А сам памешчык Каржанеўскі пахаваны на старых вясковых могілках. Даведаўшыся пра гэта, захацеў пабываць там. На жаль, каплічку, якая некалі была пастаўлена на панскай магіле, разбурылі нечыя нячыстыя рукі. Кажуць, што нейкія вылюдкі адкопвалі магілу, каб забраць золата, якое маглі захаваць з нябожчыкам. Выходзіць, вось ужо да якога кашчунства дайшло...

— Бачыце, у некаторых ужо нічога святога не засталося,— шчыра шкадуе Лізавета Іванаўна.— Гэта ж падумаць толькі: нават мёртвага абабраць рашылі... І няўжо на іх ніякай управы няма?!.

Вядома, не пра пана яна думае і перажывае. А пра тых, чые сэрцы і душы ачарсцвелі, каму не дарагія людская памяць, павага да чалавека. Яе трывожыць, што мы неяк бязвольна і раўнадушна патураем такім вылюдкам. А яны на нашых вачах знішчаюць нашу гісторыю. Таму нельга маўчаць аб гэтым. Трэба, каб людзі ведалі і захоўвалі памяць пра даўніну...

Калі гаворка зайшла пра сённяшняе жыццё, Аляксандр Аляксандравіч зазначыў:

— Грэх, скажу вам, скардзіцца, хаця, вядома, кожнаму хочацца яшчэ і яшчэ лепш. Але ж гэтаму нашаму хаценню, шчыра кажучы, канца-краю ніколі не будзе. А перамены ж у нас здзіўляючыя! — І ён пералічвае, загінаючы пальцы вялікіх працавітых рук.— Помню, мы некалі толькі ўзімку хадзілі ў школу. І то лічылі сябе шчаслівчыкамі. А ўлетку ў вольны ад работы час бегалі ў лес па грыбы, па ягады, лавілі рыбу. Во дзе радасць была! Але і мы, дзеці, кожны дзень працавалі — дапамагалі бацькам па гаспадарцы. Змалку ўсё ведалі, усё ўмелі, да ўсяго імкнуліся. Ні газет, ні радыё, ні кіно, ні бальніцы, лічы што, мы не ведалі...

Ён замаўкае, нібы збіраецца з думкамі, а потым і кажа:

— А цяпер што? Прайдзіце па нашай Свіслачы. У кожны двор прыносяць газеты і часопісы. Ва ўсіх хатах ёсць радыё і нават тэлевізары. Ходзяць у клуб глядзець кіно і канцэрты... Мне з цяжкасцю давялося тры класы скончыць, а цяпер жа вучацца і восем, і дзесяць гадоў. І інстытуты, універсітэты, вучылішчы ўсякія... Каб толькі было жаданне... А ці параўнаеш з даўнейшым, як цяпер апранаюцца-абуваюцца дзеці, як кормяцца. І хвароб усялякіх, што раней цэлыя сем'і паморкам звадзілі са свету, цяпер няма. І працаваць лягчэй людзям стала. Ды і мы, старыя, забяспечаныя і дагледжаныя...

— Але і пры панах жа парадак быў,— разважае яшчэ адзін старажыл Свіслачы Іван Кузьміч Казак.— Няхай сабе сам ён не працаваў, але справу сваю па-гаспадарску вёў. Прыглядаў, часам здзекаваўся з сялян — гэта праўда. Але ж, калі-нікалі, бывала, Каржанеўскі сам разам з мужыкамі ў лапцях на луг ва ўрочышча Чапава ездзіў касіць траву. Там у яго вялізны поплаў быў, стаялі ажно тры пуні, і ўсе іх ён заўсёды сенам закладваў. На іх месцы і цяпер сляды захаваліся.

— От, цяпер усялякае пра таго пана расказваюць,— адразу вызначыў сваё адносіны крыху маладзейшы свіслачанін Рыгор Парфёнавіч Сычоў.— Можа, хто нават і шкадуе па тым часе?.. Бо не кожны ж паспытаў на сабе панскі бізун. Але хто зведаў яго, той не захоча болей...

**Гістарычная даведка.** **У двары памешчыцкага маёнтка знаходзіўся каменны дом, вялікае гумно, розныя хлеўчыкі-склады, конныя жняяркі, усякі інвентар, каля двух дзесяткаў коней, ладны статак кароў. Меў пан таксама свой бровар і сыраварню. Палі Каржанеўскага межаваліся з масівамі зямель і лясоў князя Радзівіла, пана Рабкевіча, буйнага кулака Таміловіча.**

**Адзіная палявая дарога вяла да бальшака, або, як яго тады называлі, «кацярынінскага» тракту. Уздоўж дарогі вузенькай палоскай цягнуліся палеткі мясцовых сялян. Зямлі ў іх было вельмі мала, ды і тая была няўдобіцай. Пашу і сенажаць сяляне наймалі ў памешчыкаў за вялікую плату. Плацілі таксама за збор грыбоў і ягад у лясах, за розныя патравы жывёлай панскіх пасеваў. Звычайна плату або выкуп сяляне адраблялі на полі, у лесе, на лузе, часам па некалькі тыдняў і нават звыш месяца, часцей за ўсё ў пару сенакосу, жніва ці сяўбы. Па сутнасці гэта было прыгоннае права. Селянін не мог распараджацца сам сабою, сваім часам. Паны, як хацелі, здзекаваліся з людзей, білі іх. Правы ж памешчыкаў абаранялі валасныя старасты, прыстаў і жандары.**

Дагэтуль у тутэйшых вёсках жывуць успаміны пра той цяжкі і бязрадасны час. З горыччу прыгадвалі сваё жабрацкае існаванне старыя свіслачане, з якімі давялося сустрэцца і пагаварыць.

А вось што напісаў у сваіх успамінах, што захоўваюцца зараз у музеі Свіслацкай сярэдняй школы, ураджэнец вёскі Вязычын Іван Андрэевіч Забаўскі (цяпер нябожчык): «Помню, у памешчыка Каранеўскага (так напісаў у свой час аўтар успамінаў.— **М. Ж.**) быў нейкі сваяк, якога дражнілі Свістуном. Ён ездзіў на кані заўсёды з драцяным бізуном у руках. І калі захопіць дзе-небудзь каня або карову, якіх пасвілі на панскай зямлі ці ў лесе, то бязлітасна расправляўся з пастухом. Прычым не глядзеў, хто гэта быў: жанчына, стары чалавек ці дзіця.

Асабіста я сам два разы быў моцна пабіты тым бізуном і пасля гэтага доўга хварэў. Але аднойчы нам удалося-такі сцягнуць гэтага Свістуна з каня і адлупцаваць яго чым папала. Пасля таго ён болей у нас не паяўляўся».

Спрадвеку тутэйшыя сяляне марылі пра свой кавалак зямлі. Ведалі, што толькі яна, карміцелька, дасць ім збавенне ад панскага прымусу. Бо хлеба свайго ў сем'ях беднякоў не хапала нават да каляд. А заробкі ў лесе і на сплаве былі зусім мізэрныя. Працавалі амаль за бясцэнак. За зробленыя грошы можна было купіць толькі кавалачак мыла або бутэльку алею.

Таму кожны селянін імкнуўся пабольш зямелькі прыдбаць. Бачыў жа, што памешчык яе мнагавата мае, мог бы і падзяліцца з беднатой. Але ж і пану не хацелася свайго багацця дарма аддаваць. Больш таго, ён не супраць быў і апошні кавалачак бядняцкай зямлі адабраць. Гэтая прагнасць панская не раз даводзіла да сутычак з сялянамі-беднякамі.

З успамінаў Івана Андрэевіча Забаўскага: «Аднойчы прыехалі ў вёску валасны стараста, каморнік, некалькі паліцэйскіх і пачалі адгароджваць зямлю ва ўрочышчы Замлынне. Сяляне лічылі гэтую зямлю вакол возера грамадскай уласнасцю вёскі. А тут яе пачалі адгароджваць і забіраць. Маўляў, возера належыць Каранеўскаму, бо вада ў ім памешчыцкая.

Атрымлівалася так: печка твая, а тое, што ў ёй,— памешчыцкае. Але гэтая несправядлівасць моцна абурыла сялян. Стыхійна ўзнікла паўстанне беднякоў супраць улад. Сабраліся амаль усе жыхары вёскі...

Помню, мы былі хлапчукамі гадоў па дзесяць — адзінаццаць і, як заўсёды, вельмі хацелі паглядзець, што будзе. Ды паліцэйскія пачалі разганяць нас, біць бізунамі. Мне таксама перапала. Але гэта яшчэ больш абурыла сялян. Тады жанчыны пайшлі ў наступ. Пастаўленыя слупы былі вырваны і выкінуты.

Асабліва выдзялялася Матрона Вусатая. Гэта была вельмі мажная і дужая жанчына. Вось яна схапіла аднаго з паліцэйскіх і давай біць яго... Дык пасля яны ўсе збеглі».

Мясцовыя сяляне чуйна трымалі вуха. Яны жылі адным жыццём з усёй краінай. У пачатку першай сусветнай вайны ў Свіслачы быў пабудаваны вялікі мост цераз Бярэзіну. Гэта яшчэ больш звязала вёску з іншымі гарадамі і пасёлкамі.

У той час паветра поўнілася не толькі пахамі вайны, але і рэвалюцыі. Людзі з надзеяй чакалі невядомых і трывожных змен. Часам наведваліся сюды бальшавіцкія агітатары. Неяк прыехаў да сваіх бацькоў Максім Андрэевіч Дзяргач. Ён працаваў у карэтнай майстэрні дзесьці ў Беластоку. За рэвалюцыйную дзейнасць царскі ўрад выслаў яго адтуль у сваю вёску. Вось ён і расказаў землякам, як рабочыя горада змагаюцца з самадзяржаўем, што яны імкнуцца арганізавацца ў гэтай барацьбе разам з сялянамі.

А ў 1916 годзе, калі пад напорам немцаў фронт пачаў адыходзіць на ўсход, у вёсцы запахла порахам. Сюды прыехалі нашы сапёры, мабілізавалі сялян і пачалі капаць акопы. Сярод салдат аказаліся і рэвалюцыянеры. Яны мелі бальшавіцкія газеты, чыталі іх сялянам, распаўсюджвалі лістоўкі. Так вяскоўцы дачуліся пра бальшавікоў, пра Леніна і яго задуму адабраць зямлю ў памешчыкаў і аддаць яе сялянам. Таму, калі стала вядома аб перамозе рэвалюцыі ў Петраградзе і Мінску, свіслачане сабраліся на мітынг, адразу ж прызналі Савецкую ўладу.

Жыццё ў вёсцы забурліла, пайшло на новы лад. Пахмурнай восенню семнаццатага па тутэйшых вёсках хадзілі чырвонаармейцы, апранутыя ў чорныя скураныя курткі і падпяразаныя рамянямі. Яны і падбухторылі сялян ісці да памешчыка Каржанеўскага, патрабаваць ад яго добраахвотна аддаць зямлю. З чырвонымі штандарамі ў руках сяляне навакольных вёсак арганізавана сабраліся ў панскім маёнтку. Упершыню за сваё жыццё яны ўвайшлі ў яго каменны палац, у лапцях прайшлі па пакоях. Дзякуючы дружнаму напору вяскоўцаў памешчыку давялося адмовіцца ад зямлі і маёмасці на карысць тых, хто на ёй працаваў.

Але пан не спяшаўся пакідаць тут сваё багацце, затоена чакаў лепшых часоў. І дачакаўся. У канцы 1917 года ў вёску ўварваўся пяцтысячны корпус белапалякаў пад камандаваннем Доўбар-Мусніцкага. Яны загадалі вярнуць усё, узятае сялянамі, пану Каржанеўскаму, а самі расквартараваліся ў яго пакоях.

А праз некаторы час (пасля зрыву перагавораў у Брэсце) Свіслач занялі немцы. Тут стаяў іх буйны гарнізон. Але ў канцы 1918 года, калі Германія пацярпела паражэнне і быў ануляваны грабежніцкі мірны дагавор, вёска зноў пачала жыць па-новаму. Бедната зноў пачала забіраць панскія землі.

Вось тады і вырашыў, відаць, пан Каржанеўскі звярнуцца да Леніна, папрасіць у яго абароны. А для таго, каб больш пераканаўча гучала тэлеграма, назваўся арандатарам, які, нібыта, увесь у даўгах перад сялянамі.

Атрымаўшы гэтую тэлеграму, У. І. Ленін напісаў наступную рэзалюцыю: «Серадзе для адказу (спешна)». Нарком земляробства Серада ў сваю чаргу даручыў запытаць земаддзел аб варыянце дапамогі па задавальненні просьбы былога арандатара. На жаль, пакуль не ўдалося знайсці канчатковы адказ на гэтую тэлеграму. Магчыма, што ён захоўваецца дзе-небудзь у архівах. І было б цікава, вядома, даведацца аб прынятым рашэнні.

Праўда, пан Каржанеўскі мог і не атрымаць адказу з Масквы. Справа ў тым, што ў сакавіку 1919 года Свіслач зноў занялі белапалякі, якія стаялі тут амаль што да сярэдзіны 1920 года.

Але, напэўна, варта ўсё ж працягваць пошукі. Магчыма, удасца раскрыць яшчэ адну цікавую старонку гісторыі гэтага краю.

(Заканчэнне будзе.)

# *ПАЭЗІЯ*

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ «БЕЛАРУСІ»

**Міхась МАМОНЬКА**

### *Голас родны*

На ўсіх паралелях і мерыдыянах,
Сярод розных галасоў
І наш ёсць голас.
Яго
Кожны пазнае:
Ён выліты жалейкаю душы
З чароўнага жыцця
Палескай глушы,—
Там — крынічка векавая,
З яе,
Мамы
Родны
Голас выцякае.

**Анатоль ШУШКО**

### *Слова долі*

Я паверыў Купалу — убачыў сябе
Жыццядзейснай крывінкай у родным народзе.
«Не пакайся адно у руплівай сяўбе,
І тады табе жаць і спяваць з ім у згодзе.

Слова долі, якое з матулі усмак
Ты высмоктваў яшчэ немаўлём прагавітым,
Не астыне на вуснах, бо нават у снах
Яно рве ланцугі...» Не, маўчанне, мы — квіты!

Я ратунку шукаў ад ягоных віроў.
Я у засень хаваўся ад промняў ягоных.
А яно бунтавала, спякоціла кроў,
Паўтараючы: «Колер у праўды — чырвоны».

Дык жа праўду кажы, акрыялы радок.
Не гавей жа, душа, балазе досыць спала.
Ўсю істоту пратні вечнай памяці ток,
Каб ніколі, нідзе я не здрадзіў Купалу!

**Вячаслаў ШНУРКЕВІЧ**

### *Ля магілы Пушкіна*

Я ўпершыню на Пушкінскіх гарах,
Хвалююся, але шчасліва веру:
Не раз яшчэ пушчуся ў гэты шлях,
Каб пакланіцца рускаму Гамеру.

У засені дубоў Святой гары,
Пад перазвон, і велічны, і гулкі,
На ганаровай варце мур стары
Каля твайго апошняга прытулку.

Ты не памёр, бо слова ажыло
І ў сэрца беларускае запала,
І там на добрай глебе расцвіло
Чароўнай кветкай — песняю Купалы.

І палілася песня між дуброў,
Праз стэпы, горы, чутна ўсяму свету.
Яна яднае ўсіх тваіх сяброў,
Тваіх братоў — усёй зямлі паэтаў.

Твой запавет здаўна ім блізкі быў,
З семнаццатага ён пачаў здзяйсняцца:
«Когда народы, распри позабыв,
В единую семью соединятся».

# СЯРОД ЧУЖЫХ



**Уладзімір ЯКУБОВІЧ**

АПАВЯДАННЕ

Нядаўна я атрымаў паштоўку. «Шаноўны калега Мікалай Серафімавіч! — жартоўным тонам было напісана на ёй уборыстым каліграфічным почыркам.— У сувязі з дзесяцігоддзем заканчэння інстытута Вам належыць прыбыць на юбілейную сустрэчу з аднакурснікамі». Далей паведамляліся месца і час сустрэчы.

Няўжо прайшло ўжо дзесяць гадоў, як мы апошні раз збіраліся ўсім курсам у актавай зале інстытута і нам урачыста ўручылі дыпломы настаўнікаў-філолагаў? Не хацелася верыць спачатку. Але так яно і ёсць. Гады, як у нашай Балачанцы вада, цякуць непрыкметна і нястрымна.

Выкленчыўшы ў дырэктара школы два дні ў лік чарговага адпачынку і дамовіўшыся з калегамі пра замену ўрокаў, я неадкладна ж рушыў у дарогу. І вось нецярпліва пераступаю з нагі на нагу, тапчуся на стаянцы таксі, чакаю сваёй чаргі. У думках намагаюся прыгадаць, дзе ж гэта знаходзіцца тое кафэ «Вясёлка», куды мне «прадпісана» з'явіцца, і ніяк не магу. У бытнасць маю студэнтам ніякай «харчовай» установы з такой назвай у горадзе, здаецца, не было. Магчыма, што гэта дзесьці ў новым мікрараёне, якіх цяпер усюды на адзін капыл шмат панабудавалася. Пэўна, што так яно і ёсць, бо і назва вуліцы нейкая нязвыклая, незнаёмая.

Пакуль гэтак думаў, падышла і мая чарга. А яшчэ недзе праз паўгадзіны вадзіцель таксі высадзіў мяне на самай ускраіне горада, і я апынуўся перад раскошнай будынінай з вялікай і вабнаю ад пераліву рознакаляровых мігатлівых агнёў шыльдай «Вясёлка». Менавіта тут была прызначана сустрэча былых выпускнікоў-філолагаў нашага педагагічнага інстытута.

У прыцемненым закутку фае ля адчыненага акна тоўпілася невялікая ўзрушана-гаманлівая купка людзей. Мяне, нібы магнітам, пацягнула да іх. І як толькі падышоў, адразу ж трапіў у моцныя абдымкі ружовашчокага плячыстага здаравяка. Голас знаёмы і нават блізкі, але хто гэта — нейкі момант, як ні намагаюся, прыгадаць не магу.

— Няўжо Вадзім, нязменны стараста курса? — нарэшце жартаўліва пытаю няўпэўненым голасам.

— Ён самы і ёсць. Малайчына, братка, што не забываеш сваіх калег,— яшчэ мацней, нібы абцугамі, цісне мяне колішні аднакурснік і гудзе раскацістым басам: — А цябе і праз дваццаць гадоў няцяжка будзе пазнаць. Нездарма ж усе на курсе за вочы цябе, не крыўдуй толькі за шчырасць, жэрдкай называлі. Якім быў, такім і застаўся — худы, як трэска. І капялюш, здаецца, ці не той самы, што і студэнтам насіў?

— Ага, той самы,— сцвярджальна ківаю галавой.— Усё ніяк не збяруся новы купіць.

— Будзь, як дома, здымай капялюш,— выпусціўшы з абдымкаў, прапануе Вадзім і тут жа, замахаўшы рукамі, пярэчыць: — Не, не, не, пабудзь пакуль лепей у галаўным уборы, не свяці, як месяц. Галава ў цябе стала, прабач за прамалінейнае параўнанне, нібы той бубен — аблысеў зусім.

Тым часам гулка грукнулі дзверы і да нас замаруджанай валюхаватай хадою накіраваўся фарсісты тып у масіўных рагавых акулярах. Па твары, які скрозь зарос рудою пакручастаю шчацінаю, і па доўгіх, да самых плячэй, патлах яго можна было прыняць за папа. Не ставала толькі рызы і крыжа на грудзях.

— Гэта наш прафесар, Максім Максімавіч Кухлей,— перахапіўшы мой пільны недаўменны позірк, падказаў Вадзім.

Гэта ж трэба чалавеку так змяніцца! Калі б выпадкова давялося дзе стрэцца — ні за што не пазнаў бы. У маім уяўленні да сённяшняга вечара Максім Кухлей заставаўся ўсё такім жа, якім і ў студэнцкія гады — шустрым прайдзісветам і даставалам. Ён мог, не за «дзякуй», вядома, кожнаму дастаць усё, што трэба было, пачынаючы ад білета на новы спектакль і канчаючы курсавой работаю на любую тэму. Такі мог далёка пайсці. «Пэўна, умела выкарыстаўшы сваю пранырлівасць і настырнасць, абараніў дысертацыю і недзе загадвае цяпер не меней як кафедрай»,— чамусьці падумалася мне.

— А вось уласнай персонай і сама Квяткоўская — краса ўсяго нашага курса! — як толькі зноў расчыніліся дзверы, абарваў мае думкі-згадкі пра Кухлея раскацісты Вадзімаў бас.

«Няўжо Марынка, мая сімпатыя?!» — ад радаснага ўзрушэння ледзь не выгукнуў я ўголас, але ў апошнюю хвіліну спахапіўся.

— Цвіце, не вяне чароўная твая краса,— паціскаючы мяккую руку, сказаў з сарамлівою ўсмешкай.

Але гэта быў толькі камплімент. Ранейшым у былой маёй сімпатыі, перад якой я чамусьці заўсёды ніякавеў і рабіўся маўкліва-сарамяжлівым, заставаўся ўсяго адзін кірпаты нос. Да распаўнелага і круглага, нібы выспелы гарбуз, густа напамаджанага твару цяпер ён ніяк не пасаваў, губляўся на ім. Не падыходзілі ёй і вузкія шнурочкі вышчыпаных падмаляваных броваў, густыя цені пад вачамі. Не маладзіла яе і кароткая, амаль што мужчынская стрыжка.

«Чаго толькі час не навытварае з людзьмі!» — ад расчаравання ў колішніх сваіх пачуццях да Марыны са шкадаваннем падумаў я.

Неўзабаве да нас далучылася пара «галубкоў», як мы іх называлі ў інстытуце. Гэта былі Алесь Галубовіч і яго жонка Вераніка. Яны пакахаліся недзе яшчэ на другім курсе і заўсёды былі неразлучнымі як на лекцыях, так і пасля іх. А паколькі Вераніка ў вочы і за вочы часта звала свайго нарачонага, а з апошняга курса і мужа, «галубком», дык з часам і іх абаіх усе мы сталі называць «галубкамі». І ніхто з іх не злаваўся на гэту жартаўліва-бяскрыўдную мянушку.



Потым падышлі Людміла Сухноўская, Сцяпан Макарэвіч, Артур Семашкевіч, Ванда Муравіцкая, Андрэй Дабравольскі, Сямён Нарубін.

— Ну што ж, браткі, дысцыпліна — перш за ўсё,— калі добрая палавіна курса была ўжо ў зборы, паглядзеўшы на гадзіннік, узняў угору руку Вадзім і з уласцівым яму апломбам працягваў: — Дазвольце мне і гэты раз пабыць старастам і запрасіць вас у свае сціплыя апартаменты. Хто спазніўся — будзе пісаць тлумачальную.

— Відаць, часта сюды заглядваеш, калі кажаш: «свае апартаменты»,— паспрабаваў я падкалоць аднакурсніка.

— Як і належыць усякаму прыстойнаму працаўніку,— штодзень, апрача выхадных,— спачатку не ўлавіўшы ў маіх словах падкалыркі, адказаў Вадзім. Але калі да яго дайшоў намёк, ён з памаўзлівай ухмылкаю ўзнёсла дадаў: — Дужа зачаравала мяне гэта «Вясёлка», і я не ўтрымаўся, стаў яе гаспадаром.

— Хочаш сказаць — дырэктарам? — не паверыўшы сваім вушам, здзіўлена перапытаў я.

— Калі гаварыць прозаю, то менавіта так яно і ёсць, шаноўны калега,— удакладніў ён і ўсё з той жа памаўзліва-загадкавай ухмылкай заўважыў: — Але не апярэджвай падзей. Хутка ўсе мы даведаемся, каго нас куды навука завяла.

Ва ўтульнай бакоўцы, адгароджанай глухой сцяной ад агульнай залы, куды нас запрасіў Вадзім, на сталах пыхкалі, дымілі густой парай пузатыя самавары, паблісквалі, падміргвалі начышчанаю меддзю, вабілі да сябе. Ажно слінка пацякла і засмактала пад лыжачкай.

— Прашу ўвагі, паважаныя калегі! — калі ўсе расселіся за сталамі і на момант сцішыліся, на правах тамады звярнуўся да нас былы староста курса.

— Ёсць ідэя. Давайце зробім так: я буду выклікаць вас, як школьнікаў на ўроку, па спісу і даваць слова, а той, чыё прозвішча назаву, дапоўніць звесткамі аб тым, дзе ён цяпер працуе і якую пасаду займае.

Прапанова-забава, быццам заманлівая гульня дзецям, усім вельмі спадабалася.

Па агульнаму патрабаванню першым справаздачу трымаў перад аднакурснікамі сам Вадзім.

— Прабачце мне, паважаныя сябры-калегі, каюся, як на споведзі, здрадзіў я філалогіі, пасля інстытута ні дня не працаваў у школе,— жартаўліва пачаў ён і паведаміў, што ад звычайнага афіцыянта паступова, крок за крокам, вырас ажно да дырэктара вось гэтай самай «Вясёлкі».

— А цяпер слова даецца...— ляніва памешваючы ў кубачку з пазалочаным абадком крута завараны чай, назваў Вадзім прозвішча колішняй маёй сімпатыі.

— Загадчыца швейнага атэлье «Модніца»,— з дэманстратыўнай нядбайнасцю папраўляючы мезенцам на скроні непаслухмяную пасму выбеленых пад кужаль валасоў і, як колісь, чырванеючы, гулліва-пявучым голасам адказала Квяткоўская.

— Брава, Марына! — усе разам загаварылі і дружна запляскалі ёй.— Знайшлатакі сваё прызванне.

— Хто шукае, той заўсёды знойдзе,— не разгубіўшыся, адказала яна.

— Наступным хоча выказацца...— калі жарты крыху аціхлі, тамада назваў прозвішча колішняга пранырлівага даставалы.

— Кіраўнік агародніннай базы,— паважна разгладзіўшы рудую бараду, самазадаволена дапоўніў Кухлей.

— Фартуна, дружа, цябе не абмінула — высока сігануў,— адпіўшы глыток гарачага чаю, рэзюмаваў тамада.— Цяпер будзем ведаць, дзе даставаць, на выпадак ураджайных момантаў, раннія агурочкі і памідорчыкі.

— Гэта для нас не праблема,— зазначыў паблажліва Максім Максімавіч.

Паведамленне Алеся Галубовіча крыху астудзіла залішне ўзбуджаныя эмоцыі былых маіх аднакурснікаў. Калі ён прыглушаным голасам сказаў, што адразу ж пасля інстытута перакваліфікаваўся і працуе вадзіцелем таксі, па дзве змены, часта без выхадных, круціць баранку, ніхто не здагадаўся хаця б дзеля прыліку заапладзіраваць. Не знайшлося ні ў кога ні трапных жартаў, ні нават шаблонных, банальных кампліментаў. Затое нямала іх было выказана ў адрас Алесевай жонкі Веранікі, якая па крутых і слізкіх прыступках службовай лесвіцы ўзнялася ад звычайнай прадаўшчыцы ажно да пасады дырэктара ювелірнага магазіна.

— Слова мае Людміла Сухноўская,— улучыўшы зручны момант паміж жартамі, абвясціў Вадзім.

— Хваліцца мне, як і Алесю Галубовічу, асабліва няма чым. Працую афіцыянткай у рэстаране,— сарамліва хаваючы вочы, паведаміла яна.

Потым слова бралі тэхнолаг раённага харчкамбіната Сцяпан Макарэвіч, закройшчыца лёгкай жаночай вопраткі Ванда Муравіцкая, загадчык каўбаснага аддзела гастранома Сямён Нарубін, інспектар аддзела кадраў перасоўнай механізаванай калоны Артур Семашкевіч, загадчык склада тарарамонтнай базы Андрэй Дабравольскі, нарыхтоўшчык утыльсыравіны Рафаіл Штэйнберг. Былі сярод нас таксама экспедытары заводаў і фабрык, прадаўцы кветак, марожанага і газіраванай вады, касіры, дыспетчары і страхавыя агенты. Ашаломлены такімі нечаканымі сюрпрызамі, я моўчкі сядзеў у кутку за сталом і машынальна памешваў лыжачкай чай.

— Сярод нас ёсць, паважаныя сябры, чалавек, род заняткаў і пасаду якога мы яшчэ не ведаем,— усталёўваючы цішыню,— нечакана прагудзеў Вадзімаў бас.— Гэта ўсімі паважаны былы выдатнік, сціплы наш аднакурснік Мікалай Серафімавіч Пагаруйкін.

Пачуўшы сваё прозвішча, я імгненна падхапіўся з месца. На мяне скіравалі цікаўныя, дапытлівыя позіркі дзесяткі вачэй. Каўтнуўшы гарачага чаю і справіўшыся крыху з хваляваннем, я ціха прамовіў:

— Настаўнік я. Працую ў сельскай школе, выкладаю родную мову і літаратуру.

На некаторы час у бакоўцы ўсталявалася напружаная цішыня. Потым быў узды расчаравання, і ўслед за ім то адтуль, то адсюль пачало даносіцца з'едлівае хіхіканне. Тамада звёў бровы, грозна паглядзеў па баках і спачувальна заўважыў:

— Не трэба, сябры, смяяцца з чужой бяды, што ж — не пашанцавала чалавеку ў жыцці.

Затым ён крыху падумаў і, каб неяк зглfavдзіць няёмкасць, ужо больш спакойна і павучальна дадаў:

— Некаму ж і нашых дзяцей трэба вучыць розуму, настаўляць іх на правільную дарогу.

Я сядзеў сярод сваіх былых аднакурснікаў, як сярод зусім чужых і далёкіх людзей. І руліла мне адно: як найхутчэй пакінуць гэту вясёлую грамаду.

**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



СЛУЖБА



ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**Нагадваем вам, шаноўныя чытачы, умовы работы нашага аддзела.**

■

**Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» створаны ў нашым часопісе, каб даць людзям магчымасць зрабіць адзін аднаму паслугу, аказаць дапамогу, знайсці сяброў.**

■

**Аб'явы ва «Узаемадапамозе» публікуюцца бясплатна.**

■

**Аб'явы могуць змяшчацца за подпісам аўтара ці, калі ён таго пажадае, мець лічбавы індэкс. У водгуках жа просім абавязкова пазначаць індэкс аб'явы, якая вас зацікавіла, што дазволіць нам у найкарацейшы тэрмін звязаць вас з патрэбным чалавекам.**

■

**Паколькі «Узаемадапамога» атрымлівае надзвычай многа лістоў, мы не можам весці перапіску з асобнымі аўтарамі. Ды і мэта аддзела іншая: чытачы павінны самі адказваць адзін аднаму.**

■

**Адрасы тых, чые аб'явы былі надрукаваны пад кодам, рэдакцыя не дасылае. Калі вы вырашылі звязацца з тым ці іншым аўтарам надрукаванай аб'явы, напішыце ў рэдакцыю і ўкажыце лічбавы індэкс ліста, які вас зацікавіў.**

■

**Калі вы адгукнуліся на аб'яву, якая была надрукавана ў часопісе, а адказу не дачакаліся, не трэба крыўдаваць на нас — рэдакцыя робіць сваю справу дакладна, і ўсе лісты знаходзяць сваіх адрасатаў. Значыць, сам чалавек, які вас зацікавіў, не знайшоў магчымасці вам адказаць.**

**Карыстаючыся выпадкам, заклікаем тых, чые аб'явы трапілі на старонкі часопіса, абавязкова адказваць на ўсе лісты, якія мы вам дасылаем.**

## «БЕЛАРУСІ» — 60 ГАДОЎ

Так, у студзені наступнага года спаўняецца 60 гадоў з таго часу, як выйшаў першы нумар нашага часопіса, які называўся тады «Чырвоная Беларусь». Разумеючы, што часы юбілейнай эйфарыі адышлі ў нябыт, мы разам з тым перакананы, што і пакінуць па-за ўвагай такую адметную дату ў гісторыі часопіса было б несправядліва. І мы збіраемся адзначыць наш юбілей сціпла, але, як гаворыцца, з годнасцю. Найперш, хочам больш дэталёва спазнаць сваю гісторыю. І тут спадзяёмся на вашу дапамогу, шаноўныя чытачы. Калі вы маеце нейкія матэрыялы (нумары старых выданняў часопіса, цікавыя фотаздымкі, крытычныя агляды, асабістыя ўспаміны і г. д.), звязаныя з гісторыяй часопіса, просім дасланаць іх нам у часовае, калі вы таго пажадаеце, ці пастаяннае карыстанне.

Чакаем вашых допісаў!

**«БЕЛАРУСЬ».**

## ХОЦЬ НА КРАЙ ЗЯМЛІ

Неаднойчы даводзілася чуць: «Замуж за ваеннага выходзяць па дзвюх прычынах: па разліку ці па вельмі вялікаму каханню». А я мару звязаць свой лёс з ваеннаслужачым, каб стаць яму верным і надзейным сябрам, падзяляць усе радасці і беды на яго жыццёвым шляху, каб паехаць з ім хоць на край зямлі. Той, хто наважыцца напісаць мне, можа быць упэўнены, што мяне не спалохаюць ні частыя змены мясцін службы, ні дэфіцыт вольнага часу ў майго абранніка.

Мне 30 гадоў. Замужам не была. Рост 165 см. Адукацыя сярэдняя спецыяльная. (218).

**ВАЛЯНЦІНА.**

## А ПРА СЯБЕ НЕ ДУМАЎ...

Так сталася, што ў свае трыццаць гадоў я зусім адзінокі. Усё жыццё дапамагаў маці, бацьку, сястры. Пра сябе не думаў. А час праляцеў... Вось і зараз жыву я разам з бацькамі, сястрой, яе мужам і дзіцем у адной кватэры. Дзяцей люблю, дапамагаю родным па хатняй гаспадарцы. А ў вольны час, якога застаецца зусім нямнога, займаюся спортам, фатаграфіяй.

Мару сустрэць жанчыну ва ўзросце 25—30 гадоў, няхай з дзіцем, сярэдняга росту (155—165 см). Пажадана, каб яна была мінчанкай і мела ўласную жылплошчу. (219).

**УЛАДЗІМІР.**

## ТЫ НЕ ЗГАСНЕШ, ЯСНАЯ ЗАРАНАЧКА

У майскім нумары часопіса «Беларусь» за 1988 год у «Службе ўзаемадапамогі» была змешчана невялічкая заметка «Мэта — адшуканне надзеі» з кодавым нумарам 127. Ліст заклікаў самотных, хто згубіў сваё асабістае шчасце і звераў безнадзейнасць, стварыць пад такой назвай усебеларускую суполку, каб змагацца за адшуканне надзеі для роднага краю.

На ліст не адгукнуліся сталыя самотнікі.

На ліст адгукнулася бескарыслівая дзейная свядомая беларуская моладзь — з прапановай шукаць супольна выйсця з нацыянальнага тупіка. Мы стварылі ўсебеларускую суполку імя Максіма Багдановіча. Пасяджэнні суполкі адбываюцца штосуботы ў Гародні ў Доме-Музеі Максіма Багдановіча а 16 гадзіне. Сярэдні ўзрост сяброў суполкі дваццаць пяць з паловай гадоў — у такім узросце абарвалася жыццё Паэта. Мы не выбіралі нашых сяброў па ўзроставым прынцыпе — гэта наканаванне. Суполка імя Максіма Багдановіча арыентуецца на зорны кірунак, што накрэсліў Паэт у сваёй спадчыне: ён падказаў, як беларусам дагнаць свой цягнік...

Восем хлопцаў з Гародні, што ўтвараюць касцяк суполкі, доўгі час уваходзілі ў састаў «групы дзеяння» «Паходні». Выглядаюць белымі крукамі на тле шэрага жыцця, але на чыстым полі нашага адраджэння глядзяцца фотагенічна. Умеюць думаць і працаваць. Бяруць прыклад з Максіма-кніжніка. Сябры суполкі з іншых месц падкідаюць нам свае ідэі, факты і — спадзяёмся — знаходкі.

Паколькі многія з сяброў суполкі імя Максіма Багдановіча валодаюць разнастайнымі талентамі, мы ўжо прыдумалі назву да шматлікіх выданняў. Выносім падзяку тым, хто адгукнуўся на нашу абвестку, і часопісу, што яе апублікаваў.

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА і восем сяброў суполкі імя Максіма Багдановіча.**

## ЖЫВЕ НАДЗЕЯ...

Раней я не разумела, чаму звяртаюцца да вашай службы. А зараз ведаю: ад болю і адзіноты.

Здаецца, яшчэ нядаўна я была шчаслівая. Але жорсткі лёс раптам усё перакрэсліў. Думала, што пасля трагічнай смерці дачушкі скончыцца і маё жыццё. Толькі час — лекар. Я жыву і працую. Вакол шмат сяброў. Але няма таго адзінага, да якога можна было б прыйсці са сваім горам і са сваёй радасцю. Мне 41 год. Адукацыя вышэйшая. Вельмі люблю дзяцей. Увесь вольны час аддаю кнігам. Не цярплю хлусні і п'янства. (220).

**СВЯТЛАНА.**

## ШУКАЮ СЯБРОЎ ПА ПЕРАПІСЦЫ

213500, Магілёўская вобл., г. Крычаў, пр-т Камсамольскі, д. 12, кв. 5, **ТАЛСТЫХ Ірына**. 16 гадоў. Захапляюся савецкай і замежнай эстрадай. Гуляю ў тэніс.

222120, Мінская вобл., г. Барысаў, вул. Кавалерыйская, д. 8, **КАЗЛОЎСКІЯ Ганна** і **Вера**. 14 гадоў. Займаемся музыкай, танцамі, любім чытаць. Хацелі б пазнаёміцца з тымі, хто любіць вершы і песні пра Афганістан, збірае матэрыялы пра В. Лявонцьева, А. Разенбаума, дуэт «Модэрн Токінг».

326950, УССР, Херсонская вобл., п. г. т. Верхні Рагачык, вул. 100-годдзя Ільіча, д. 11, **ЧОРНАЯ Вольга**, 16 гадоў. Захапляюся гісторыяй, украінскай мовай і літаратурай, англійскай мовай.

222310, г. Маладзечна, вул. Спартыўная, д. 17, **ГАЙДУКЕВІЧ Люда**. 16 гадоў. Прашу адгукнуцца хлопцаў, якія прайшлі Афганістан, хачу атрымаць лісты і ад тых, хто пасапраўднаму клапоціцца аб далейшым лёсе нашых воінаў-інтэрнацыяналістаў.

213827, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Мінская, д. 28, кв. 47, **ГЛУШАКОВА Святлана**. 15 гадоў. Вельмі люблю танцаваць, маляваць. Захапляюся сучаснай музыкай.



**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**
**Фота Д. ВІЛЬКІНА.**

ЗЕМЛЯКІ

# адкрыты ліст

Дзень добры
Вам, Маэстра!
Не ведаю,
як завуць Вас
і як склаўся Ваш лёс.
Адно ведаю, што Вы —
смаргонскі,
бо сустрэў Вас
у калаўроце
местачковага кірмашу.
Наўрад ці Вы
заўважылі мяне
ў натоўпе тых,
хто стаяў каля Вас
і плакаў
ад Вашай музыкі.
А Вы гралі і гралі,
забыўшыся, мусіць,
пра ўсё на свеце,
і так хораша
рабілася на душы,
нібы пасля споведзі,
і ўспаміналася
далёкае дзяцінства
і адзін чалавек,
вельмі
падобны на Вас...
Наша вёска Вынісцы
на Случчыне
славілася перш за ўсё
тым, што жыў у ёй
таленавіты музыка
Іван Бойка.
Ён вярнуўся з вайны
без нагі,
але аднавяскоўцы
хутка перасталі
заўважаць
гэты недахоп.
Мы, падлеткі,
кожны вечар толькі
і чакалі той хвіліны,
калі з'явіцца
пад акном
са сваім прыгожым
акардэонам
вясковы маэстра.
Ды хіба толькі мы
гэтага чакалі —
уся вёска.
Вакол музыканта
збіраліся,
напрацаваўшыся,
стомленыя за дзень
людзі —
хлопцы, дзяўчаты,
старыя ўдовы і тыя,
каму даўно пара
было спаць. І спявалі,
і сумавалі,
і весяліліся. А старому
салдату таксама добра
было сярод нас.
Не адчуваў ён тады
сябе інвалідам,
хоць на час забываўся
на болькі свае.
Ды і цяпер, ссівелы,
нядужы, ён дорыць
вяскоўцам
радасць і ўцеху...
Прабачце,
смаргонскі Маэстра,
што ў думках
я адхіліўся ад Вас.
Вы нагадалі мне маю
маленькую радзіму
і далі сапраўдную
радасць успомніць
пра яе мужнасць,
высакароднасць
і нязломны дух.
Дзякуй Вам!

З павагай
Анатоль КЛЯШЧУК.



## ПРАБЛЕМУ БАЧЫЦЬ ФОТАКОР









# КОЛЫ ВАКОЛ І ПОБАЧ

Вельмі хацелася б расказаць, як нашы аўтагоншчыкі на сваіх цудмашынах упэўнена прыходзяць да фінішу першымі дзе-небудзь на трасе пад Монтэ-Карла або ў далёкай Бразіліі.

Але не, не ведае сучасная гісторыя самых прэстыжных аўтагонак такога факта.

Ёсць, праўда, мінулыя поспехі ў айчыннага мотаспорту, у веласіпедыстаў. Але як толькі нашы «аматары» трапляюць у кампанію сапраўдных гоншчыкаў-прафесіяналаў... Тут ужо не даводзіцца чакаць авацый і букетаў, прывітальных тэлеграм ад родных і балельшчыкаў. Таму што клас б'е энтузіязм. А пасля таго, як гэта здараецца ў чарговы раз,— абавязкова (і таксама далёка не ўпершыню) у спартыўнай прэсе пачынаюць публікаваць крыўды гоншчыкаў на ўмовы падрыхтоўкі і на тэхніку, якая не вытрымлівае саперніцтва з сучаснымі мадэлямі.

Даўно вядома: краіны, у якіх лепшыя спартыўныя аўтамабілі, матацыклы, веласіпеды, маюць і лепшую неспартыўную аўтамотавелатэхніку.

Нам жа цяпер хаця б не лепшую мець, а проста — добрую. Каб не ламалася праз дзень пасля пакупкі. І каб была ў свабодным продажы. Аб гэтым у апошні час шмат размоў. Ёсць добрыя планы... Але зніклі нават веласіпеды. У аддзеле збыту Мінскага мотавелазавода я даведаўся:

— Ніякіх аптымістычных абяцанняў даць не можам. Нам і рэкламай займацца забаранілі, каб людзей не злаваць дарэмна.

— Што, вялікі экспарт? — задаў я пытанне.— Як з халадзільнікамі: каля палавіны ўсёй прадукцыі за мяжу?

— Не, экспарт складае толькі 20 працэнтаў. Аднак тысячы веласіпедаў па сістэме тавараабмену рэгулярна «едуць» у іншыя рэспублікі... Вось там, куды мы іх адгружаем, значна лягчэй, чым у Беларусі, купіць машыны з нашай маркай. Тут усе прэтэнзіі не да нас, а да гандлю. Гэта там нешта не так, як трэба, плануюць.

Відаць, вы ўжо звярнулі ўвагу: на фотаздымках Віктара Жыліна, якія мы публікуем сёння, вельмі шмат колаў, але самымі надзейнымі здаюцца колы... цацачнага аўтамабіля. Хаця, шчыра кажучы, дакладна такі ж падарунак з «Дзіцячага свету» хлопчыкі атрымлівалі і 20, і 30 гадоў назад. Што ж, відаць, канструктары і дызайнеры на фабрыцы цацак баяцца абагнаць у творчых рашэннях сваіх калег з заводаў-гігантаў.

Сорамна, што мы прывыклі:

— Нашы людзі самалёты будуюць на балконах, трактары для садовых участкаў — у хлявах, а гоначныя машыны — у падвалах.

Дрэнна, што веласіпеды знікаюць з вуліц гарадоў якраз тады, калі так многа размоў пра экалогію і гіпадынамію.

**Валерый МАКСІМАЎ.**
**Фота Віктара ЖЫЛІНА.**

# ДЫЯГАНАЛЬ

**Аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР А. РАКІТНІЦКІ.**

## ХУТКА І ПРЫГОЖА

дабіваюцца перамогі белыя ў канцоўцы маладога пінскага аўтара **Аляксандра КАГОЦЬКІ.**



**Выйгрыш.**

На ход белых 1. hg3 чорныя мусяць адказваць 1... gh4, бо калі 1... ed4, то пасля 2. e:e7 g:e3 выйграе відавочнае 3. gf4. А цяпер ідзе нечаканы і прыгожы ўдар 2. hg7!! h:f6 (на ўзяцце 2... h:d4 рашае 3. gf8 і 4. f:h4) 3. fg5 h:d4 4. g:e3. Эфектная кампазіцыя!

## ЮБІЛЕЙ ЗАПІСУ Л. ТАЛСТОГА

Вядомы факт: сто гадоў назад вялікі рускі пісьменнік Леў Мікалаевіч Талстой у сваім дзённіку зрабіў наступны запіс: «Пошел к Дьякову. На Смоленском играл в шашки. Мне заперли 13. Смешно, что было неприятно».

У дзённіку пісьменнік запісаў аб 13 запёртых шашках. Як жа маглі заперці 13 шашак, калі на дошцы ў кожнага з бакоў па 12 шашак? А тлумачыцца гэта проста. У тыя часы запёртая дамка раўнялася 12 простым шашкам. Значыць, Льву Мікалаевічу заперлі дамку і простую. Шкада, што ён не назваў імя свайго пераможцы. А гэта, відаць, быў моцны шашыст.

Каб уявіць тэхніку запірання дамкі з простай тых часоў, паглядзіце задачу, якую склаў вядомы тады аўтар Сцяпан Кандрашоў.



Задача была апублікавана ў папулярным часопісе «Живописное обозрение» таксама сто гадоў назад. Яна, як усе задачы таго перыяду, не адпавядае сучасным патрабаванням. У ёй толькі адзін фінал, а рашэнне яе, хоць і нядоўгае, але



**Заперці дамку і простую.**

ж досыць мудрагелістае. 1. cd2 e:g7 2. gf4 d:f6 3. fh4 d:f2 4. h:b4 g:a1 5. de3 f:d4 6. bc3 d:b2 7. fc1.

## ЗАДАЧА-ЖАРТ

Здавалася б, чаго працей, як аддаць пад бой свае шашкі і здацца. Аднак вядомы беларускі эцюдыст Якаў Гордзін (1878—1941 гг.) аднойчы прапанаваў у сваёй задачы такую хітрую пазіцыю: белыя дамкі a5,f8, простыя a1, b4, c3, d2, f2(7), а чорныя: простыя d6, e7, h4(3). Тут белыя пазбаўляюць чорных магчымасці капітуляваць і прымушаюць іх пагадзіцца на нічыю. 1. fg3 h:f2 2. bc5 d:b4 3. f:g1 ba3 4. gd4 ab2 5. ab4 bc1 6. de3 cb2 7. ed4 ba3 8. dc5 і г. д. Дамка чорных аказалася нібыта ў клетцы.

# ГУМАР

**Без слоў.**



**ФРАЗЫ**

- **Бестурботнасць адных параджае мноства туброт у другіх.**
- **На таго, хто ставіць пытанні прама, часам глядзяць коса.**

**Віктар СЦЯПАНАЎ.**

**Без слоў.**



**Малюнкі Яўгена ЦАРКОВА.**

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Невялічкі цвёрды кусочак рэчыва ў выглядзе зерня. 6. Горад у Мінскай вобласці. 8. Савецкая актрыса, народная артыстка СССР. 11. Нізкая вечназялёная кустовая расліна. 13. Невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу. 15. Беларускі савецкі пісьменнік. 17. Дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы. 18. Хімічны элемент, газ. 19. Апавяданне З. Бядулі. 20. Рыбалоўная снасць. 22. Сукупнасць прадметаў аднолькавага прызначэння. 24. Рэшткі разбуранага збудавання, паселішча. 26. Корм для жывёлы. 27. Легендарны старажытнарускі спявак-казачнік. 28. Паэма А. Вярцінскага. 29. Беларускі савецкі паэт. 31. Слуп, клетка пад мостам. 32. Абласны цэнтр ва Узбекістане. 35. Сорт яблыні. 36. Элемент арнаменту ў выглядзе кветкі з аднолькавымі пялёсткамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мінерал, разнавіднасць агату. 2. Участак ракі паміж перакатамі або астравамі. 3. П'еса І. Гурскага. 4. Беларуская савецкая спартсменка, заслужаны майстар спорту СССР. 5. Дэкаратыўная тканіна. 7. Элементарная часцінка. 9. Дзікі азіяцкі асёл. 10. Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобласці ў Айчынную вайну. 12. Палявая кветка. 14. Струнны смычковы музычны інструмент. 15. Сталіца саюзнай рэспублікі. 16. Аповесць А. Адамовіча. 21. Беларуская спявачка, народная артыстка СССР. 23. Драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай. 24. Тэлевізійная опера Г. Вагнера. 25. Савецкі акадэмічны харэаграфічны ансамбль. 30. Дзяржанне ў прыладах працы, інструменце. 31. Памяшканне спецыяльнага прызначэння. 33. Савецкі канструктар верталётаў, Герой Сацыялістычнай Працы. 34. Верхняя частка галоўкі калоны ў форме чатырохвугольнай пліты.

**Склаў Канстанцін ЖУК.**

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 10

**Па гарызанталі:** 5. «Серадзібор». 6. Чарот. 9. «Мінск». 11. Асіпенка. 12. Крошнер. 13. Наталля. 14. «Май». 16. Ран. 20. Ліс. 21. Луг. 22. «Сын». 23. «Ная». 24. Шаг. 25. «Сад». 29. Хроніка. 31. Скрыган. 32. «Дзянніца». 35. Ганна. 36. Колас. 37. Кашкурэвіч.

**Па вертыкалі:** 1. Вечар. 2. Маці. 3. Гімн. 4. Лобан. 7. Ахрым. 8. Танк. 9. Метр. 10. Салон. 15. Арсенка. 17. «Арлянка». 18. «Алеся». 19. Агляд. 24. Шырма. 26. Драма. 27. Гіра. 28. Друк. 30. Адрас. 31. Савіч. 33. «Янка». 34. Ідэя.



Партрэт.
Фота
Юрыя ІВАНОВА.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 11 (611)
ЛІСТАПАД
1989 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: народны дэпутат СССР Уладзімір Леанідавіч Фаменка. Пра яго дзейнасць чытайце ў нумары фотанарыс «Пазіцыя».

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.09.89.
Падпісана да друку 15.10.89.
АТ 12271.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,4.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 19 170 экз.
Зак. 378.
Цана 35 кап.
Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



## ВОСЕНЬСКІ МАТЫЎ



Апошні ліст.
Фота
Паўла
БРАНШТЭТЭРА.

# ДЭКАРАТЫЎНЫЯ СВЕЧКІ

ДЭКАРАТЫЎНЫЯ СВЕЧКІ

ДЭКАРАТЫЎНЫЯ СВЕЧКІ —
ГЭТА ЎТУЛЬНАСЦЬ І СВЯТОЧНЫ НАСТРОЙ,
ІХ ЦЕПЛАЕ СВЯТЛО СХІЛЯЕ ДА ЗАДУШЭЎНАЙ ГАВОРКІ,
ДА АДПАЧЫНКУ ПАСЛЯ МІТУСНІ
І РЫТМУ БУДНЯЎ СУЧАСНАГА ЖЫЦЦЯ.
ВЫТВОРЦА — КІРАЎСКІ ХІМКАМБІНАТ.

**ПА ЗАКАЗУ МІНІСТЭРСТВА
МЯСЦОВАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ БССР.
БЕЛАРУСКАЕ РВП «САЮЗРЭКЛАМА».**

ISSN 0320-7544.
**Цана 35 кап.**
**«Беларусь», 1989, № 11, 1—36.**
**Індэкс 74820.**